УДК 821.161.3-3
ББК 64(4Беи)
А65

**Андзілеўка, Л.**

А65 Гэта ты : апавяданні / Людміла Андзілеўка. — Мінск : Кнігазбор, 2013. — 172 с.
ISBN 978-985-7057-41-2.

У сваёй новай кнізе Людміла Андзілеўка разглядае чалавека не як адзінку з грамадства, не як асобу… паказвае яго сам-насам з сабою, з космасам. Напамінае, якая скарацечная, крохка-кволая з’ява ЖЫЦЦЁ, як танна ацэньвае большасць з нас самае каштоўнае, што дае яно нам, — блізкіх і родных людзей.

**УДК 821.161.3-3**
**ББК 64(4Беи)**

**ISBN 978-985-7057-41-2**



# АСАЦЫЯЦЫІ





## АХВЯРЫ ЭСТЭТЫЧНАЙ СПАКУСЫ

Двое ў зговары з цемрай выйшлі з двара, прыкрыўшы за сабою рыпучыя весні. Паступова і тут і там ноч глытала жоўтыя пляміны вокан — гаспадары «адпускалі» святло да ранку. Дрымота спаўзала на стомлены горад: засыналі вуліцы, заціхалі плошчы, замаўкалі двары, толькі зваў і трывожыў таемны шолах блізкага саду. Куды і кіраваліся двое. Ішлі марудна — цяжкі шлях не цярпеў мітусні. Вабіў сад — не даваў на расстанне згоды горад: блытаў след, тасаваў кварталы, палохаў тупікамі. «Гу-гу-гу…» — рыфмавала крокі рэха пустога завулка. «Гу-гу-гу…» — непрыемная пара высвятляла адносіны. Крыўляка-жанчына, схопленая «на гарачым» у здрадзе, гнюсна лгала, вінавацiла ва ўсім мужа. Той, зніякавелы, ківаў галавой, апускаў долу прышчавы твар, згаджаўся быць вінаватым, дазваляў дурніць і бэсціць сябе — гэта давала шанец нічога не мяняць у жыцці і ў самім сабе.

Некалі і яны шукалі сад — ноч застала іх у дарозе… Цяпер не ведаюць, куды брыдуць. Так будзе і будзе да скону, нават калі страцяць адно аднаго — прыб'юцца да падобных сабе, каб гэтак жа гнюсна хлусіць і «шчыра верыць», каб звычней і прасцей… Не дайшоўшы да саду, падманулі сябе, што дайшлі…

Сляпымі вачамі глядзеў на тратуар халодны асірацелы дом. Разбітая шыбіна вітала апошніх мінакоў матляннем фіранкі… Тут дакладна раней жыла сям'я, пра тое сведчыла дзіцячая калыска ля акна і сіні з пасачкам мячык пад сталом. Пустая шафа яшчэ не страціла пах чалавечага цяпла, але вецер злосна дражніў пустату крыўднай лаянкай, падслуханай тут, калі ўкраўся праз дзірку ў шыбіне з надзеяй раздзьмуць вуголле патушанага вогнішча, ды чорнае кастрышча толькі чохала гар'ю і дыхала едкім смуродам — нехта стаміўся вартаваць агонь… «Захацелася зноў халадоў…»*

Лёгка размінуцца з чужым няшчасцем не даваў цесны завулак, вымагаў саступіць — за горад рухалася жалобная працэсія. Сыпаў дождж і «чацвёра прыспешылі ход, пяты — не…» Ён і так будзе разам з імі ў належным месцы… На яго загадкава-скептычным твары з застылай усмешкай нават дождж не здаваўся слязамі.

Жанчына з вянком у руках рагатала да прысяду, ледзь не качалася па зямлі. Праз нервовыя прыступы рыдання і рогату чулася: «Будуць знаць, як запрашаць да незнаёмых у хаўтуры…»

* Радок з верша А. Жыгунова.



Вабіў сад — не даваў на расстанне згоды горад. Перасцерагаў, упрошваў, сведчыў: «Не хадзі! Ніхто не вяртаўся шчаслівым…» Блытаў след, тасаваў кварталы… Змогся, мусіў расчыніць браму перад запозненым нябожчыкам. За ім у непраглядную цемрадзь і слізганулі тыя, што шукалі сад. Затрымлівацца небяспечна: чым глыбей ноч, тым верагодней, што сабакі з ікластымі пашчамі будуць спушчаны з ланцугоў… Імгненна табун дзікіх коней пранёсся паўз брамы. Іх доўгія грывы са свістам рассякалі паветра. Прамарудзь хвілінку —ператворышся пад капытамі ў дарожны пыл.

Па адзін бок брукаванкі на вачах вырастала высачэзная сцяна, каменная вяршыня яе пратыкала неба недзе ля самых зор, бо як месяц ні наліваўся чырванню да памераў восеньскага кавуна, ён не адольваў сцяну, боўтаўся ў хмарах, пакуль сонца не асвятляла першымі промнямі неба, і тады поўня абяссілена раствáралася ў белым малацэ світання. Па другі бок дарогі — бездань. Пры ясным надвор'і недзе глыбока-глыбока ў яе нетрах угадваліся блакітна-зялёныя, пакрытыя туманамі пышныя кроны векавых дрэў. Рана ці позна, хто хацеў трапіць у дзіўны сад, мусіў сігаць у тую бездань. Там, сярод шатаў і мхоў, вілася запаветная сцежка, дабягала да Чыстага возера — апошняй перашкоды, процілеглы бераг якога ўжо распаўсюджваў п'янкі водар садовай квецені…

Напэўна ж, былі тыя, хто адольваў пераправу засветла… Іх ніхто не страчаў і не бачыў. Звычайна падарожнікаў сярод броду спыняла ноч, і неўпрыкмет пышныя лозы, што ў поўдзень пілі прахалоду з люстэрка срэбранага возера, якое няспынна выхвалялася пясчана-сонечным дном праз шкло празрыстых водаў, выгіналі кракадзілавы чорны хрыбет, а камянькі — цацкі сонечных зайчыкаў — ператвараліся ў касякі вужак. Гідкімі пачварамі кішэла смярдзючая багна, да пояса ў ёй цялёпкаліся збянтэжаныя падарожнікі і не ведалі напрамку, дзе чакаў іх жаданы бераг…

Там — ноч… Там — цемра… Там галлё мёртвых дрэў, калючае, учэпістае — па твары!.. па твары!.. Там пацалункі вострага карчэўя чакаюць каленяў на бездарожжы… Там гады паўзучыя сцерагуць босыя ногі… Там крумкач-«вырвівока…» Там хмары галодных ненажэрных кажаноў… Там жудасны храп за спіною… О! Гэты храп… тройчы азначанага паўторанай лічбай звера… Там ісці ды ісці… Там не ходжана Богам… Там страціш усё… Пройдзе *там* толькі той, хто не нясе з сабою нічога, акрамя памяці і святла…

Што наракаць на ноч — у яе свае законы. Яна — каб спаць… Шкада таго, хто стане з тым спрачацца… Ніхто не спыніць наступства яе ўлады. Хто забаіцца — той прайграе, хто пусціцца ўцякаць — загіне. Не ў тым бяда, што поруч ходзіць смерць… у тым, што з ёй сустрэцца не гатовы.

* * *

Узяўшыся за рукі і не на міг не сплюшчыўшы вачэй, можна ўспраціўіцца вераломнаму падману, не згубіць танюткую нітачку рэальнасці, не забыцца: *ты — дадзеная сутнасць, ты — не падман хворага розуму!*

Дасць сілы вера — ранак не міне, рука мацней сціснe руку, пачне змагацца зрок, стане адрозніваць ад чорна-шэрага пастэльна-ружовы, крэмава-белы, прыглушана-зялёны… То — праз туман праявы саду… Але не заўважыць кроплю, што раздзеліць ноч і ранак.

Першы прамень праб'е векавую скруху,
Другі прамень удыхне жыццё,
Трэці — асвеціць нявіданую прыгажосць!

Спатрэбіцца час, каб усвядоміць — не памёр…

А нехта захоча запэўніць: *усё — быў сон*… І рваныя раны на целе не ад драпежных іклаў… Ты і сам гатовы паверыць у гэта… а яшчэ ў тое, што сад зблізку не такі прыгожы, бо ты ўжо ведаеш: рука твая ноччу трымала не цёплую далонь, а сухую карчажыну… (І гэта яна давала табе сілы?) Ды цяпер не многае ўстрывожыць таго, хто спаткаў ноч на *Чорным возеры*…

Можа, і праўда, сад зблізку не такі ўжо і прыгожы… Ва ўсякім разе, садзіць яго лепш ля свайго дома…



## ПЕРАДАЙ ЭСТАФЕТУ

Не крыўдуйце на тых, хто перадаў эстафету, і на тых, хто чакае наперадзе працягнуўшы руку. Не кожны разумее: галоўнае — не дабегчы, галоўнае — перадаць. Толькі не скалечыць бы ногі. Рубец угрызся ў жывое мяса, па-здрадніцку аголенае лопнуўшым мазалём. Боль дастае да самай косткі, да пячонкі, да мозга… да самага сэрца. Пяройдзена мяжа, за якой фізічны і душэўны боль становяцца нераздзельнымі — адзіная адкрытая рана… Дабегчы б…

Як і ў той чэрвеньскі ранак, а можа, ды і хутчэй, быў поўдзень? Па прэлюдзійным настроі — раніца: сонечная, насычаная радасцю, *той сапраўднай*, што жывеш, што патрэбен, што ўпэўнены ў існаванні *розуму* і *дабра*… Часовае — мінецца, не першы ж раз! І раней здавалася, што назаўсёды страціў яе, *веру* — вяртаецца! *Уваскрасае*! Не дзе дзенецца і зараз… Не дзе дзенецца! «Рождённый радоваться — спасён будет…»



Па-прэлюдзійнаму — ранак, постфактум — ноч… Страшная і зусім на паверхні, у паветры, быццам не з табою здарылася. Ты толькі назіральнік. Не тваё, не тваё ўсё — як заўсёды, калі «ноч», каб не захлынуцца ў вірах вусцішных глыбінь. Няхай не будзе такога ніколі больш ні з кім — чорны свет… Сонца ззяе ва ўсю моц, а свет — чорны-чорны! Ты адзін у ім, як пад векам труны, і ні шолаху, ні гуку. І цябе самога няма, бо ўсё, што было, — было ўчора. А заўтра не захочацца прачынацца, бо прачнешся ты ў незнаёмым жыцці, незнаёмым горадзе, доме, незнаёмым свеце, які сіроча стане чапляцца за цябе толькі напамінкам: тут жылі і кахалі двое…

— Няўжо смерць некалі разлучыць нас? — шэптам напомніць падушка тваё пытанне.

— Не. Мы і *там* станем часцінкамі аднаго атама… — адкажа яго словамі падаконнік, на якім заўсёды стаяла попельніца… Вось тут, з левага боку… І глыбее рана — стаіць! Як стаяла раней, з недапаленай цыгаркай… Стаіць на сваім месцы, а *нас* няма… Мы ўжо не *мы*, а паасобку. І свет не перавярнуўся, і сонца ўзыдзе, як і ўчора, і зямля не спыніць свой ход, і людзі будуць спяшацца па справах… А *нас* няма — мы паасобку, і ты больш не баішся вышыні, але цябе не вабіць палёт з высокага паверха… Нельга! Позна — ты не толькі ты, а яшчэ і той, хто аддзяліўся ад цябе, ад твайго цела.

Цікава: «я» дзіцяці, акрамя сябе, умяшчае шмат «я» людзей, ад якіх яно залежыць. «Я» дарослага чалавека неадрыўна ад тых, хто залежыць ад цябе. Так што наша «я» ніколі не бывае вольным, хіба толькі ў юнацтве. Ад іншых залежнасць аслабела, ці страчана наогул, а тых, хто залежыць ад нас, яшчэ небагата «нажыта». Можа, таму такі дарагі гэты перыяд жыцця? (Міленькая, толькі помні — *нельга*! Скруха і туга — спакуса д'ябла. Ён жадае, каб ты забылася, які прыгожы свет. Як хораша ў ім жыць, любіць, радавацца. Адыдзе чарната — і ты паглядзіш на ўсё зверху. Толькі так і трэба глядзець на свет…)

«Пчала ўкусіла…» — такі шчыры пагляд! Мы не ўмеем ілгаць, мы такія чыстасардэчныя і прастадушныя! Не паказаў бы па глупстве, нібы пахваліўся! — нічога б не ўведала… І нічога не здарылася б? Няўжо даволі было не ведаць? Няўжо нейкая няўдалая хвілінка здольна мяняць лёсы? Глабальнае, не прыватнае, можна сказаць, светамаштабнае пытанне, амаль шэкспіраўскае: ведаць ці не? Не ведай — не існуе. І ўсё па-ранейшаму спакойна і прыстойна. Прызвычаіліся ж многія не ведаць і не пытацца: навошта жывём, чаму *тут*, што *там*… Але які ж гэта боль, калі ў галаве ёсць мазгі, а ў целе — душа! Ніштo не з'яўляецца на свет само ў сабе. Усё нясе з сабою антыпод, як магчымасць вольнага выбару, а інакш і навошта нараджацца, калі сабою задаволены? Вось табе і стварэнне сусвету: невыносны сум, гібенне, і адзінота, і нясцерпнае жаданне роднае, падобнае душы… Выбух! Гэта лопнула цярпенне — «па дзісьдзень» недзе грукоча

яго рэха, напамінаючы: будзьце цярплівымі! І нарадзілася падобнае, і закаханае, і нязміранае, і непакорнае, у ганарыстасці сваёй няшчаснае…

«Пчолка ўкусіла» — у гэтага «ўкусу» ёсць назва вульгарная, як ва ўсяго, што не асвечана належнай таямніцай: засос… за*СОС*… *СОС*… *Сос* — слабаму дазволена быць бяссільным, ва ўсіх трагедыях крычы *СОС*!!! А ты, хто не зміраны, закаханы, асобны, непакорны, у ганарыстасці сваёй няшчасны? Тваё выратаванне — у табе ў самім. Радуйся — ратуйся! (Слабы ці моцны чалавек — паняцці адносныя і ўмоўныя. Слабы той, хто перакладае свае праблемы на чужыя плечы… ды іншыя са слабых так спрактыкаваліся гэта рабіць, толькі дзівішся — да чаго ж «сілён»!)

Не крыўдуй на пчолку: яна збірае мёд… Здрада здаволілася, пра каханне пачуўшы — *маё*! (Міленькая, ты не можаш глядзець на яго як на ўласнасць. Ён твой брат па няшчасці. Любіць — гэта не чакаць, каб і цябе «налюбілі» роўненька на столькі, на колькі любіш ты…) Ой, як хочацца лятаць!!! (Міленькая — нельга! Ну вось ты мёртвая, цябе няма… А раптам тое, што зараз у тваёй душы, застанецца з табой назаўсёды, як бесчасовае, вечнае? Табе не будзе лягчэй ніколі… Дык вось і няма цябе — уяві. Але табе пакінуты зрок, слых, рукі, ногі, душа — мёртвая, ты не ўстанеш, каб дапамагчы тым, хто побач з табой… Хоць бы таму, *хто* трывожна, бо адчувае, што адбываецца з табой, спіць у цябе на руках…)

Пачні крыўдаваць на папярэдняга бегуна, што не па-людску перадаў эстафету, — не дабяжыш. Каб жа ведаў хто, колькі сіл адбірае злосць! Яна найпершы памагаты ў разбурэнні. Пры стварэнні — наўрад… Эстафета — гэта яшчэ не творчы працэс. Галоўнае ж — не дабегчы, галоўнае — данесці, не страціць, перадаць… Тры асноўныя боскія адметнасці: свабода волі, любоў да ўсяго і *са*творчасць…

Разглядаць бы любую з'яву з касмічнай вышыні, а вырашаць — з зямной прастатой, каб не зблытаць боскае з кесаравым. Усё, што пакуль існуе, можа мяняцца, пераўтварацца, а знішчы… Цікава, ці мае такую ўласцівасць знішчанае?

Безумоўна ж, даравала. Лёс разумнейшы за нас, яму вырашаць, дзе той паварот, за якім скончыцца каханне. А пакуль маеш упэўненасць, што гэтаму чалавеку ты яшчэ не ўсё аддаў, каханне жыве. Таму: гордасці — забарона! Каханню — цвярозасць! А ў камп'ютар лёсу — новыя звесткі: табе патрэбна асобнае жыллё…

Сухое, як пясок, паветра забівае праходы, разрывае тканкі так і не насычаных кіслародам лёгкіх. Другое дыханне прыходзіць толькі тады, калі перад гэтым правільна дыхаў — дабегчы б, дабе… А калі помста і недавер сумелі пасябраваць з табою? Не кожная душа здольна вытрымліваць трохтонны цяжар грахоў. На ручкі! Вазьміце мяне на ручкі, пагладзьце па галоўцы, мне так хочацца паплакаць, зусім крышачку пашкадаваць сябе… Міленькая, не трэба! Люстэрка не раз паказвала табе, якімі непрыгожымі робяцца твар і вочы, вусны, калі плача жанчына… Мужчынам не падабаецца, калі жанчыны выглядаюць непрыгожымі. Ты нарадзілася жанчынай і больш за ўсё жадаеш ёй застацца…) А помста і недавер з табою пасябравалі, ды не кожная душа здольна вытрымаць здраду сабе. І таму ўжо зусім мала кахання, і больш ганарыстасці, і новыя, новыя звесткі ў камп'ютар лёсу… Ты шкадуеш сябе і бачыш пакрыўджанай, але зладзейскае пакаранне, мяркуеш, навучыла цябе і прыўзняло над жыццём на вышэйшую ступень, ты ўсё спасцігла, усё зразумела, ты ўжо здольна павучаць наіўных і дзяліцца горкім вопытам пражытага, упэўнена, што ніколі не купішся на падман… Заўважаеш, як іншы раз табе прыемна адчуць сябе «стрэляным вераб'ём»? Менавіта таму не за гарамі той час, якім ты зноў пабяжыш за пустатой, паверыш у пустату, будзеш чакаць з пустога і скардзіцца на пустое, бо не траціла сілы на роздум… Што шукаеш — тое і знойдзеш, чаго чакаеш — тое і прыйдзе, у што верыш — тое і адбудзецца — не падмані сябе… Ты яшчэ не прыйшла да думкі: любая кара — гэта даўно запазычаны табой у лёсу грэх, які доўга-доўга вісеў над табой, чакаў разважання і споведзі, не дачакаўшыся, зваліўся на тваю галаву.

Аплявуха ўсё ж была… «Што ты натварыла?!» — «Не трэба фізічных расправ!» — «Што ты натварыла?!» — і смурод хмелю ў твар… Калі рукі апавіць вакол шыі таго, хто замахнуўся ўдарыць, біць цябе будзе нязручна — выпадковае, стыхійнае «вынаходніцтва»… Натварыла! Не змірылася, не стала лгаць, міла падыграўшы табою прапанаванай гульні, каб потым усё па-старому, з новай хлуснёй. Адказала на зло злом, ператварыўшы яго ў зло ў квадраце. Думала: так лягчэй, прасцей — адпомсціць, забыцца і жыць па-ранейшаму… Нікчэмны міф! «Што ты натварыла?!» — і п'яныя слёзы па шчоках. Усяго толькі — не пагасіла зло, а ў кахання — жалоба, у ганарыстасці — трыумф, а лёсу — работы да поту… Лёс выдае табе «надзею» — від на жыллё… Жыллё без *яго*. Ты чакаеш і верыш, і не ведаеш, што за тым паваротам не толькі «новае» жыццё. Там — жудасныя выпрабаванні, бо не кожная душа вытрымлівае здраду *сабе*. Вось толькі б дабегчы… Да сябе…



## ШЛЮБ

*(сон)*

Святочным блакітным канверцікам з ахапкам бэзу ў верхнім левым ражку бюро па падбору сямейных пар урачыста паведамляла спадарыні З. пра тое, што падышла чарга яе камп'ютарнага аналізу і праз тры дні ёй асабіста будзе прадстаўлены спіс аптымальных прэтэндэнтаў на стварэнне шлюбу, для чаго неабходна з'явіцца ў азначаны час у вызначанае месца для знаёмства і менавіта выбару будучага мужа.

Спадарыня З. прыйшла без спазнення. Бюро месцілася ў глыбокім падвале мяснога магазіна. Спусціцца ў яго можна было толькі стромкай лесвіцай, з-за даўнасці эксплуатацыі на якой не засталося ні поручняў, ні большай часткі прыступак, да таго ж і рэшткі ўцалелых былі хісткімі і наледзянелымі; так што ўсе патэнцыйныя маладажоны куляліся ў падвальную яму з перахопленым дыханнем. Спадарыня З. таксама сiганула з восьмай прыступкі, але жвавенька падхапілася, абтрэсла снег з паліто, паправіла капялюшык і навобмацак патыргіцкала неасветленым калідорам, пакінуўшы адзін з абцасаў шчыліне ў прагнілай падлозе. Затое дзверы ў бюро аказаліся ўсталяваныя па апошняму піску моды, на нейкіх хітрамудрых рэле — не паспееш адумацца, куды трэба ісці, як перад табой — ш-ш-шасць! — адкрываецца новая прастора.

Спадарыню З. сустрэла высокапастаўленая дама з мясцовай партячэйкі і сур'ёзна папярэдзіла пра адказнасць перад такім рашучым крокам, як шлюб. Яна вывела з прысценнай шафы два экзэмпляры прэтэндэнтаў і прадставіла жанчыне. Камп'ютар выдаў толькі дваіх, і абодва аднолькава спадабаліся спадарыні З. Яна, як сціплая і даверлівая жанчына, звярнулася па параду да высокапастаўленай дамы, але тая перасцерагла яе ад распаўсюджанай па іншых падобных бюро памылкі:

— Наша бюро пільна сочыць за выкананнем «сугуба індывідуальнага» падыходу выбару кліентамі прапанаваных партнёраў, — запэўніла яна.

Пасля чаго спадарыня З. выказала душэўную падзяку ўсім работнікам бюро і асабіста высокапастаўленай даме, падышла да аднаго з экзэмпляраў:

— Вось гэты мне чамусьці больш зразумелы, — сказала яна.

«Акціроўку шлюбу» праводзілі без пышных цырымоніяў, не шматлюдна — літаральна ў прысутнасці двух сведак з работнікаў бюро і непасрэдна саміх маладажонаў. Тут жа, па калідоры налева, знаходзіўся пакой, адпаведна прызначаны для шлюбнай ночы, куды і праводзілі новую



пару. Дзверы па дачаснай дамоўленасці запіраліся звонку на сакрэтны замок, код якога трымала ў памяці толькі высокапастаўленая дама з мясцовай партячэйкі. У сцяне пракалупаная дзірачка заўсёды міргала вокам з суседняга пакоя, там няспынна неслі варту прадстаўнікі грамадскасці, якім даручалася назіраць «за паслядоўнасцю працэсу». Ноч зусім не патрабавала інтымнага кантакту, наадварот, бюро змагалася «за чысціню шлюбу». Паўсюль былі раскіданы лістоўкі, а перадавіцы насценных газет заклікалі чорным колерам шрыфту: «Фізіялогіі, як атавізму і рудыментам чалавечай асобы, — *не*!» Чырвонага колеру радок: «Духоўным зносінам, маральнай непахіснасці — *так*!»

Спадарыня З. атрымала на рукі дакументы мужа і магчымасць дасканала азнаёміцца з яго асобай. Яна з задавальненнем перагарнула некалькі пругка-атласных старонак пашпарта і нечакана ўбачыла штамп, які азначаў, што яе абранец ужо мае сям'ю. «Як не ўгледзела гэтага факта камісія, як магла дапусціць такое высокапастаўленая дама?» — здзівілася спадарыня З., чытаючы ў рамачцы незнаёмае жаночае прозвішча.

Але неяк усё складалася само сабою: новы муж парадкаваў чамаданы — збіраўся ў дарогу, яна старанна выцірала пыл з паліраванай мэблі.

Пракалупаная ў сцяне дзірачка моргала па чарзе то шэрым, то жоўтым, то блакітным вокам.

Муж сарамліва падышоў да спадарыні З., пяшчотна паклаў руку на плячо. Яна зазірнула яму ў твар, і ў гэты момант вочы яго ўспыхнулі двума фасфарыцыруючымі ліхтарамі. Спадарыня З. адвярнула галаву пагледзець, чаму так пахаладзела плячо, — яе трымаў бліскучы шкілет…

— Мне трэба праведаць сям'ю, — вінавата прамовіў абранец.

— Не хвалюйся. Едзь… — супакоіла новага мужа спадарыня З.

— Я паеду за сто пяцьдзясят шэсць кіламетраў і вярнуся праз сто пяцьдзясят шэсць дзён, — папярэдзіў ён.

— Я не пакрыўджуся, калі ты там застанешся назаўсёды, — выдыхнула спадарыня З… Развіталіся.

Калі спадарыня З. выкарасквалася з падвальнай ямы, коўзаючыся па прыступках, убачыла: за рагом «мяснога» магазіна, на прываленым да сцяны камені сядзеў той, каго яна забракавала. Простая шапка на яго галаве хавала штосьці ад людскіх вачэй, але тое штосьці, калі добра прыгледзецца, усё ж прабівалася лёгкімі залацістымі праменьчыкамі святла вакол галавы. Спадарыня З. мінула яго і пайшла па расквашанай адлігай дарозе.

— Калі б я ведала… Я б любіла толькі цябе… — паўтарала яна бязгучна, слізгалася і падала, падымалася і зноў кацілася ў чорныя ледзяныя калюжыны. Зноў уставала, плакала і паўтарала: — Калі б я толькі ведала…



## МАБЫЦЬ, ТОЙ, ХТО…

Ягады былі сакавітыя і спелыя, такія салодкія, смачныя, што, аблізаўшы пальцы за апошняй жменькай, я апаматалася — кошык пусты… Мне пагражалі спытаць за гэта… Ці ж папярэдзіш таго, хто прывык прыслухоўвацца толькі да сябе?.. Я паела яшчэ з чужога… Гаспадар не быў пакрыўджаны такім свавольствам. Нават задаволеным здаваўся, хоць ягад і ў яго кошыку я пакінула ледзь-ледзь.

Дзе сустрэліся мы з Гаспадаром? Напэўна, звяла нас адна з лясных сцежак — так аказалася я ў чужым маёнтку. Гаспадар паказваў свой прасторны дом, шырокі двор, сядзібу з багатай пашай і дагледжанай пасекай; хваліўся, што слынны пчаляр. Ды вуллі былі пустымі, а над кветнікам не вілося ні пчаліны. Калі добра прыгледзецца, то і кветак не бачылася, яны толькі значыліся па сюжэце… З вуллёў не пахла мёдам — густа цягнула смуродам. Ганарыўся Гаспадар уласным гаем. Я не дапытвалася, навошта замест дрэў у ім наторканы пні і дзеля чаго да кожнай шпакоўні прыладжана пастка. Ён так стараўся заняць сябе работай, што падумалася — знарок, каб не глядзець у вочы. Не зірнуў ён нават тады, калі я дэманстратыўна прыхарошвалася ля разбітага люстэрка і магла доўга-доўга назіраць за ім у адтапыраны аскалёпак.

Гаспадар марыў сазваць гасцей на баль і на зайздрасць прысутным увесь вечар танцаваць са мною пад Largo і Allegro, Largo і Allegro a-moll санаты Вівальдзі. (Раптам здарыцца і з вамі — пазнаёміцеся альбо проста спаткаеце Гаспадара, раю слухаць віяланчэльную нумар тры. «*Такое* здаралася не толькі са мною: музыка запэўніць — *здаралася*. Не ўсё так страшна». Цурайцеся, мабыць, такое бывае не з кожным.)

Гаспадар наогул любіў, каб яму зайздросцілі. «Чаму зайздросціць?» — «Таму, што ў іх *так* не атрымліваецца». Мне так і не ўдалося зазірнуць яму ў вочы, каб змагла, то адразу ўспомніла б, што ён… нябожчык. Аднойчы і назаўсёды ён «налажыў на сябе рукі». Дарэмна хваляваўся, туляючыся ад мяне, наўрад ці яго адкрытасць змяніла б падзеі, ведала ж я — перада мною жорсткі забойца. Ён забіў тую, каго вельмі кахаў і якая некалі кахала яго… Ці ж застрашыш таго, хто прывык толькі сябе баяцца… «Са мной так не пасмее. Я не такая, я іншая…»

Гаспадар настойліва даў зразумець — я павінна стаць гаспадыняй яго маёнтка. Ён нецярпліва чакаў згоды, так, што не мог трымаць пачуццяў… Далонь яго гладзіла мае валасы — аж жаўлакі хадзілі пад скурай смуглявага скуластага твару. Пяшчотныя абдымкі прымусілі хруснуць мае косткі, ад ласкавых слоў закладала вушы…



Каб пакінуць «гасцінны» дом, трэба было апрануцца. Я шукала сваё адзенне і не знаходзіла. Паліто і чаравікі схавала клапатлівая гаспадарская рука. І хоць дарога з маёнтка вяла адна — па гразі і галалёдзіцы, — ці ж спыніць таго, хто сам прывык выбіраць свае дарогі…

Гаспадар абматаў вароты калючым дротам і паведаміў, што яшчэ не ўсё паказаў у сваім маёнтку… Шкада стала яго сірочай непрыкаянасці, не хацелася крыўдзіць. Я вярнулася, пайшла за ім следам. На гэты раз сцены раскошных пакояў асляпілі абразамі.

Быць не можа! Падробкі?.. Аказалася — сапраўдныя. Далей і далей запрашалі галерэі і залы, глыбей і глыбей вялі лесвіцы і прыступкі, адна за адной гаслі апошнія лямпачкі рэдкіх ліхтароў, мацней і мацней звала і цягнула штосьці адчайна-бязмежнае… Плакала ў нязгодзе душа, тым мілей і мілей здавалася непазбежная сустрэча…

Зрок прагна патрабаваў вобраза… І вобраз намаляваўся, жывая постаць стаяла перада мною, нібы сышла з абразоў. Памацай рукой — дакранешся… Шкло? Шкляная сцяна! Фантазія, падман?.. Забыта некалі чытанае: «Не вер таму, хто назавецца мною, не вер таму, хто скажа — бачыў, мяне ўбачыць немагчыма». А так хацелася бачыць, так хацелася верыць, так хацелася любіць, бо стан настрою меў не толькі адзіную назву, яшчэ і фізічнае адчуванне сапраўднага шчасця… Ды не проста запэўніць таго, хто прывык верыць толькі сабе… Запытала цвярозага розуму: «А чаму ён хаваецца ад святла? І куды зазывае мяне гэты рыжы-кучаравы?» Вобраз знік…

Вецер рэзка змяніўся напрамкам, азызла неба — з хмар шухнуў вобвлівень.

Непагадзь і маёнтак засталіся далёка за пагоркам, а пад ногі сцяліўся шаўковы сонечны мурог. Прыйшоў час радавацца: змагла, распазнала, адолела… Ды не проста радавацца таму, хто прывык сумнявацца…

*Хто* паказаў мне дарогу да маёнтка, *хто* звёў мяне з Гаспадаром, ці не меў надзею, што выйду на сонечны луг не адна, што выведу з цёмных пакояў Гаспадара? Не змагла, не распазнала, не адолела…



## ЯКІМ ПРЫГОЖЫМ БЫЎ…

Выратаванне ёсць! Мяне пакліча Ойча-*Бах* у рэкі гукаў, у бязмежжа Боскай чысціні і філасофіі святла, куды няма дарогі невідушчым, не прычашчоным чалавечае любові. Дасць адагрэцца сэрцам і душой… Дарую і я табе, ды потым, бо зараз гавару…

Я хачу сказаць табе, што не люблю… Што аддалася апошні раз у няшчырым парыве толькі дзеля знішчэння сваёй гордасці і знявагі ўласнага гонару…

Не спакушайся на гэта, не купляйся на мае жарсныя «А-а-ах!» ці «О-о-ох!» — усё было адмысловаю тэатральнаю ігрой. Выдатная сцэна!!! Глядзела на цябе ў ракурсе зверху, ці знізу, на твой разбухлы ў асалодзе пажады потны твар анфас ці профіль са здзіўленнем… Якім прыгожым ты быў зусім нядаўна; калі я любіла цябе! Якім стаў, страціўшы маё каханне…

Твой нос і вусны, вочы і валасы, асаблівы нахіл галавы і хударлявасць постаці стваралі некалі магічны вобраз, крывавую стрэмку маёй душы, лейтматыў нястомных думак, мелодыю маіх сноў… Як хацелася вінаграднай лазою апавіць гэтыя плечы і dolce legato ў стоме дабрацца ад ямачак вачэй гарбінкаю носа, лагчынкамі ключыц, гладдзю грудзіны і жывата… да замшавай пругкасці.

Як доўга прыходзілася збіраць і выношваць мне сваю пяшчоту, як з'ядалі мяне нястрачаныя жаданні! Ды не было ў іх патрэбы — ты сытым прыходзіў да мяне. Ты быў гаспадаром не толькі рэдкіх тэлефонных званкоў, кароткіх сустрэч, беглых паглядаў, ад якіх, закаханая і залежная, я вар'яцела. Ты быў гаспадаром маёй рэальнасці і мары, майго зроку і слыху, спакою і страсці. Ты эканомна размяркоўваў не толькі спатканні (з разлікам, каб не распесціць і каб не пасмела забыцца пра цябе), але і мой запал, мае пачуцці…

Гаспадар мой, ты нават не заўважыў, што жанчына, якую ты лашчыў, ніколі не адчула сябе па-сапраўднаму шчаслівай ад твайго кахання. Ты не здолеў ні разу адпусціць мяне ў фантастычны палёт, бо быў захоплены толькі сабою. Ты ж дзеля гэтага прыходзіў да мяне. Здаволіўшыся, ты хуценька збягаў, пакідаючы мяне недалюбленую і недалашчаную, і ўсё ж шчаслівую, бо я спяшалася да цябе зусім не дзеля гэтага, хоць… Як неставала мне тваёй любові!

Ты прагадаў, ты ашукаўся, прыняўшы шквал майго кахання за звычайны фліpт сярэднестатыстычнай асобы жаночага полу. Як шкада мне цябе, самаўлюбёнага і бяскрылага, з маналітам «жалезабетонных» разваг, задаволенага «сыта-квадратна-гнездавым ладам жыцця» і ўпэўненага ў непарушальнай «крэпасці» яго межаў і ўставаў, для поўнай ідыліі ў якім не хапала пункціка… дакоры твайго ўласнага сумлення. Салодкай дакоры ад здрады «ідэалам маладосці». Цярплівы да фальшу і маны, ты зайздросціў «*лепш уладкаваным*», вышэйшым па чыне, старэйшым па званні, спасцігаў іх урокі і звычкі, шкадаваў, што не здольны «дасягнуць вышынь», марыў аб прычаснасці да адной з імі кагорты. Ты і не ўяўляў, хто ты ёсць па сваёй належнасці, не цаніў сваёй боскай непаўторнасці, асобнасці…

Гавару табе:

— *Я не люблю цябе*! З той пары, як адчула ў табе здрадніцкую боязь выкрыцця. Цябе бянтэжыла мая адкрытасць. А мне не было чаго хаваць: я — кахала, гэта ты — «забаўляўся». Я свяцілася, а ты — хаваўся. Я «ятала», а ты — выкрадаўся. Я чакала і жадала, а ты — разлічваў. Я хацела адкрыць табе *тое*, чаго ты не ведаў, а ты здавольваўся цемрай. Я рвалася к святлу — ты зваў у багну…

Мне шкада цябе, мітуслівага і «прыбычанага» (быт), ты так апантана па кроплі збіраў свой мізэрны скарб і гнаўся за колькасцю… *Ты* не здольны аддзяліць вялікае ад дробязі, сапраўднае ад міражу, вечнае ад часовага… Ты за ўсё жыццё так і не навучыўся быць шчырым і праўдзівым з роднымі і самымі дарагімі людзьмі… нават сам з сабою. Ты не разумееш: галоўнай спадчынай нам і нашым дзецям ёсць толькі свабода душы: чыстай, чулай, высокай, простай, вольнай нікога не баяцца, не саромецца *сябе*, здольнай любіць без карысці і заганы…

Ты прымушаеш сябе думаць, што і зараз усё ў тваіх руках і цалкам залежыць ад тваёй волі, што ты па-ранейшаму гаспадар аднабаковай трагічнай гульні, хоць з трывогай заўважаў у люстэрку смяротны сум сваіх вачэй і неаднойчы адчуваў успамін слодычы насычанага ядам глытка…

Мной пасеяна ў табе вечнасць, праз цябе прайшоў сусвет. Табе ўжо вядомы *страх страты сутнасці*… Інтуітыўна ты адчуваеш, што азначае — страціць *мяне*…

Міне час, аднойчы заснеш ты і… больш не прачнешся, і толькі на імгненне стане ясным і зразумелым табе, *што* ты набываў і *што* ты траціў і… *якім прыгожым быў, калі я любіла цябе*…



## ТАЯ, ШТО ВАРТУЕ СВЯТЛО

Цемра захінула неба чорным покрывам. Золь з імжой прымусілі ўсё жывое схавацца, затаіцца і чакаць. Ноч пакутавала нікому не патрэбным святлом у адным-аднюткім акне, у верхнім праёме разбуранага дома, пад руінамі былога даху ўсё яшчэ свяціўся сумны жоўты квадрат… Вецер дужаўся з набрынялай дзверынай, глуха бухкаў ёю ў сцяну пустой будыніны, быццам нябачныя госці збіраліся на загадкавую вечарыну… Здаецца, вось-вось вуха ўловіць: музыкі ладзяць смыкі, дырыжор патрабуе ўвагі — ляскае палачкай аб пюпітр, звіняць бакалы, цурчыць густое віно, неўпрыкмет дамы перашэптваюцца з кавалерамі…

Спадарыня З. выходзіла ў такі час на свой штоночны абавязак… (Бездараж — не перашкода таму, хто не ведае, куды ісці… Хоць, па сутнасці, усе мы ідзём у адным напрамку, толькі кожны сваім шляхам.) Тупала-брыла па гразкіх завулках узад-уперад, напружана ўглядалася, не зводзіла вачэй з яркай пляміны ў чорнай начы — вартавала святло…

Некалі ў яе было шмат падменных, спадарыня З. мела магчымасць бяссонне разбавіць адпачынкам. Штосьці здарылася аднойчы — ніхто не з'явіўся, каб змяніць яе на варце… Мабыць, стаміліся і страцілі ў тым патрэбу, можа, загінулі ў цемнаце, а раптам… вартуюць у іншым, больш адказным месцы? З той пары спадарыня З. мусіць ноч у ноч несці варту адна. Не раз хтосьці настойлівым шэптам загадваў: «Пагасі святло». Даводзіў пра шкоду ад энергатраты. Той голас — не ўладар над ёю, адчувала спадарыня З. І зноў выходзіла, як звечарэе, на варту, гнаная страхам згубіцца ў цемры.

Бывае… Дом твой ператвараецца ў руіны… Жытло разбураецца не адразу — спачатку пачынаюцца сваркі: жартам, у асалоду, са слязамі і гарачым прымірэннем, мілымі капрызамі… потым раўнадушна… усур'ёз… злосна… пасля — як адзіна магчымае суіснаванне. Усё валіцца з рук, сам па сабе б'ецца посуд. Кінутыя ўчора абыдзенныя рэчы сёння назаўсёды забываюцца пра сваё звыклае месца, перастаюць быць патрэбнымі, паступова ператвараюцца ў хлам, апранаюцца ў пыл і бруд.

Зло тчэ свае кросны наступствам павуціння. Рой цяжкіх чэзлых мух аблеплівае куты і шчыліны. Звяглівыя дзверы галосяць іржавымі петлямі, нямытыя вокны ўтойваюць прыход раніц, мэбля скептычна ўсміхаецца перакошанымі шуфлядамі. Прытулак твой абвяшчае табе вайну: не дае спаць грукатам па даху, палохае стогнамі, варожым шоргатам; пракрадаецца жахамі ў сны, з'ядаючы іх колер і лёгкасць, прымушае і ўдзень марыць аб забыцці.



Неўпрыкмет і спадарыня З. асталася бяздомнай… Не толькі ж прастора твой дом: цела — твой дом, думкі, сябры, лад жыцця… Бывае: і жытло пры парадку і ў доме — «праз край», а няма ў ім табе месца. Ёсць *штосьці*, што трымае цябе і твой *дом* разам; ёсць мяжа, якая раздзяляе… Не пераступі! «Чым вышэй арыенцір — тым прасцей не збіцца з дарогі…» Лёгка быць адданым святлу, як не маеш спакусы. Толькі няма ў тым тваёй заслугі — *Бог* трымае далонь над тваёй галавой. І не таму, што ты лепшы, а таму, што ведае — не вытрымаеш, спакусішся. Не спакушаюць тых, у кім мала жыцця і любові…

Лёгка быць адданым святлу, калі свецяць жырандолі, гамоніць мірнае застолле, пахне цёплай ежай і комін дыхае жытлом. Толькі прыходзіць ноч, у вясёлай непрытомнасці палягуць госці, моцны сон зморыць гаспадароў, хутка цемра знішчыць апошнія доказы дня… Павінен заставацца хоць бы *хто-небудзь* адзін, здольны вартаваць *святло*.

— Ты прыдумала ўсё: і святло, і музыку, — назалялася непагадзь.

— І святло?

— Там, пад разбураным дахам, нават лямпачкі не засталося.

— Там штосьці свеціцца штоноч…

— Там цемра, як і паўсюль, — гэты голас сеяў смуту. — А што, як і праўда, агеньчык той — толькі водблеск учарашняга сонца? Насамрэч здрадніца-шыба люстэркам зліжа міраж пры набліжэнні… Сумненні ламаюць веру. З кожным разам цяжэйшай здавалася варта, макрэйшым дождж, сцюдзёнейшым вецер, цямнейшай ноч, слабейшым святло… Яго ўжо засталася адчайна няўлоўная кропля.

Спадарыня З. навобмацак, нялоўка прабралася ў завале па зыбкіх рэштках былой лесвіцы да верхняга пакоя — і душа яе зайшлася ў вусцішы: у дзірцы праламанай столі вецер сцябаў абрыўкамі электрычных правадоў. Абапал ваяўніча назубіліся неабазнаныя па знявечанасці, вэрхалам вязнёныя рэчы. «Тут — цемра», — сведчылі яны. «Я — цемра!» — нападала прастора, цвяліла, выкрывала ману. «Я — цемра! Паўтарай за намі…» — адзываліся сцены. Немасць здранцвелага языка перашкаджала адцурацца, утаймаваць напасць. Словы вызліснулі з памяці, нібы рыбкі з вялікіх вочак невада. Астрашэлы розум астатнімі сіламі змагаўся з вар'яцтвам. Імгненне — і ён распадзецца на хаатычныя атамы… Небыццё ўчапілася смяротнай хваткай. Кропля раздзяляла «я» з «*нішто*»… Рукі спадарыні З. механічна абшнарвалі закуткі і паліцы… шукалі (ну мог жа знайсціся нават у зруйнаваным жытле хоць бы маленькі агарачак свечкі…). «Я — цемра… — настойвала слабасць. — Згадзіся». — «А я — не!» — змагаўся розум, шапталі бязгучна вусны. «Я — *не*! — раптам спахапілася варта-

вая. — Я — *не*! *Не*! *Не*!» Яна ад жудасці моцна сплюшчыла веі, і ў вачах замітусіліся рознакаляровыя агеньчыкі, яны злучаліся ва ўзоры, яскравым серпанцінам плылі ў вышыню, пераліваліся, супакойвалі… свяцілі…

Спадарыня З. расплюшчыла вочы, агледзелася і ўзялася прыбіраць у пакоі — *ніколі* не позна парадкаваць *дом*. *Святло* не сінонім лямпачкі пад абажурам і не трапяткі пялёстак полымя над свечкай, нават сонца — не абсалют святла. *Святло* — здольнасць не ператварыцца ў цемру.





# МЕТАМАРФОЗЫ





## СОН

Сціпламу работніку канторы жыллёва-камунальнай гаспадаркі бухгалтару Гузіку прысніўся сон… Бухгалтар быў чалавекам уражлівым і прымхлівым. Вазьму на сябе адказнасць за такі смелы псіхааналіз: мне здаецца, прычынай кранальнасці яго душы стаў горб, з маленства абразіўшы хударлявую кволую постаць. Калецтва прымусіла Гузіка пазіраць на людзей і рэчы спадылба, касавурачыся. Заўсёды схіленая, на прыўзнятых плячах, галава не трымалася роўна скрыўленай хрыбцінай.

Такое гледжанне на свет з дня ў дзень не магло не паўплываць на характар чалавека. Самыя дробязныя прыкметы не пакідалі яго спакой, не напаіўшы атрутай: скінуты відэлец, рассыпаная соль, драпежны позірк чорнага ката… доўга вастрылі прадчуванне і насцярожанасць.

Сны… Яны асаблівым раздзелам значыліся ў жыццёвай «канцылярскай кнізе» Гузіка. Па бухгалтарскай звычцы давяраць паперы і трымаць яе ў належным «акурацe» ён не аднойчы заводзіў дзённік, куды пачынаў запісваць думкі, падзеі, на якія не багатым было яго існаванне, ды хутка дзённік ператвараўся ў соннік. У ім акрамя сноў-прывідаў, разваг пра сны, тлумачэння іх прадказання і паслядоўнага параўнання сноў з жыццёвымі фактамі не было іншых запісаў. Мелася картатэка: на асобных фармулярах, прынесеных з канторы, значыліся дата, час, змест сноў, уражанне. У скрыначцы са спісанага канцылярскага стала стройным шыхтам стаялі светлыя сны, асобным — змрочнага, некалькі фармуляраў фантастычных бачанняў і ў куточку, стосікам — эратычныя сны. За адсутнасцю магчымасці болей плённа накіраваць сваю патэнцыйную энергію, Гузік любіў перачытваць менавіта гэты стосік і наноў перажываць сны эмацыянальна.

Рэальныя падзеі з цяжкасцю ўціскаліся ў прадказаную праграму сноў, а самыя аўтарытэтныя сонніки супярэчліва трактавалі аднолькавыя сімвалы і вобразы творчай падсвядомасці «спячага суб'екта»; плюнуць бы на ўсю гэту містыку і жыць спакойна — не! Гузік шторанак трывожна ўчытваўся ў завучаныя на памяць старонкі соннікаў, глыбока «западаў» на зададзены настрой, трапятаў ад прадчування ракавых паваротаў лёсу, чакаў непрыемнасцяў ад начальства, абвастрэння хранічных хвароб, прыезду рэвізораў, урэшце, проста… штосьці страшнае падсцерагала яго за вуглом…

Дык вось… бухгалтару Гузіку прысніўся сон: гідкая бліскучая пярэстая вужака ўпаўзла ў яго нутро. Чаму і як здарылася такое — у сне не канкрэтызавалася: упаўзла і ўсё! Успамінаць дэталі і падрабязнасці бухгалтар не жадаў. Яму хутчэй хацелася забыцца, выкінуць, як смецце, з галавы



гэты сон. Так і не запісаў яго. Толькі засталіся ў памяці выразныя змяіныя вочы, вельмі, дарэчы, падобныя да вачэй новай работніцы, эканаміста па кадрах Лізаветы Антонаўны Штык, прывабнай дваццацічатырохгадовай дзяўчыны, нядаўняй выпускніцы тэхналагічнага інстытута.

Пасля сну Гузік ляжаў, як акамянелы. Халодныя кроплі поту закаціліся аж у вуха. Напружана прыслухоўваўся да свайго арганізма — ніякага сумневу! — штосьці варушылася ў ім. А там, дзе, па анатамічных звестках, павінен быць страўнік, прыўзнялася скура і ў жываце кепска боўтнула… Гузік падскочыў… Схапіўся за тэлефонны апарат, стаў накручваць нумар хуткай дапамогі і… паклаў слухаўку. Што ён скажа? Што ўбачыў жахлівы сон?

Што рабіць? Што рабіць?! Толькі не ляжаць! Не думаць. Нутро патрабавала чагосьці неверагоднага: прыслухаўся — вымалёўвалася перспектыва жорсткай падначаленасці. На покліч унутранай патрэбы рушыў у ванны пакойчык. (Справа ў тым, што Гузік даўно кінуў сачыць за сваім знешнім выглядам: перастаў мыцца, чысціць зубы, прасці бялізну… дык пакойчык, які прызначаўся праекціроўшчыкамі пад санвузел, хутка за непатрэбай ператварыўся ў кладоўку; з падлогі да столі аказаўся запоўненым выкарыстанымі рэчамі.)

Тут плесневелі скруткі ўпаковачнай паперы, каробкі з-пад макаронаў, круп. Звяслы поліэтыленавых пакетаў трывала трымалі млосны пах тхла. Паточаныя моллю і мышамі цюкі старой вопраткі, старамодныя зношаныя чаравікі; абшарпаныя чамаданы і партфелікі, напхнутыя няведама якім дабром, валам валяліся, загароджваючы праход да ўмывальніка, ды і ён таксама трымаў на сабе гару зацярушанага пылам «багацця».

Гузік разабраў праход, вызваліў ракавіну і пакруціў іржавы кранік. Вада палілася рудая і смярдзючая. Перачакаў, пайшла чысцейшая. Выграб з кучы лепшую мачалку, зубную шчотку, знайшоў змылак, сагрэў вады… Шчыра выконваў усё, што патрабавала нутро, але не адчуў палёгкі. Давялося мыцца з галавы да ног, замачыць брудныя кашулі. Да гэтай пары ён насіў іх нямытымі, пакуль не абтрапаюцца каўнер з манжэтамі. А мяняў, якая трапіць пад руку… Прачынаўся звычайна хвілін за дваццаць да работы, апранаў пакіданае «кубарам» тут жа, ля канапы, пакамечанае адзенне, з'ядаў тое, што заставалася ад ежы з вечара, хапаў з цвіка паліто — і за дзверы. Не вітаючыя з суседзямі, сумны крочыў на прыпынак маршрутнага аўтатранспарту.

Сёння ж не ведаў, чым збавіць час, бо да работы заставалася больш за гадзіну. Прыслухаўся да сябе — нутро выказвалася неспакоем: цела круціла, усярэдзіне калола…

Гузік памкнуўся да ложка — раптам удасца заснуць на хвілінку і ранішні лёгкі адпачынак выветрыць з галавы начны жах. Нібы токам апякло — толькі ўзяўся за коўдру, каб адкінуць і прылегчы! Прыйшлося

ісці на кухню гатаваць сапраўдны сняданак. І гэтага аказалася мала… Мусіў пагаліцца… (Добра — захавалася бруднае старое лязо, а за канапай апароў флакончык з адэкалонам, прыпёкся ім.)

Час цягнуўся як гумовы, і, каб пазбегнуць адзіноты, Гузік пешкі рушыў да канторы. Раніца сустрэла пругкім марозікам, рэдкімі сняжынкамі і чыстым з ночы паветрам.

Цяжка перадаць словамі здзіўленне калег пры з'яўленні Гузіка ў кабінеце… Тут патрэбен талент артыста-міма… Замест зашмальцаванага пінжака і праседжаных штаноў на ім даволі ладна, улічваючы хібы постаці, трымалася амаль што новая пара, а яе дапаўняў (сумысна не гавару — пасаваў) старамодны, занадта кідкі колерам, фрывольна ўзорысты гальштук. Шапку Гузік зняў з чыста вымытай прычэсанай галавы (бывала, смяшлівыя жанчыны-супрацоўніцы, жартуючы, употай выцягвалі з яго льсняных валасоў пер'е). А нязвыклы водар парфумы зусім азадачыў калег. (Ці грэх, ці не: вінаваціць у тым хворага чалавека, але па стану свайго запушчанага здароўя і па няўклюднасці арганізма бухгалтар не аднойчы меў промах пасля абеду незнарок «пусціць галубчыка», чым канчаткова псаваў і без таго спёртае паветра ў маленькім пакойчыку, які мусіў туліць аж шасцёра канцылярскіх работнікаў…)

Паколькі ўражанне ад сну не пацíхла і да вечара, Гузік гатаваў сабе вячэру «па поўнай праграме», а не еў хопам-лопам, як звычайна, што папала. Далей — болей: нутро запатрабавала раскласці ежу па талерках, забараніла цягаць лыжкай з каструлі, стоячы перад плітой і раскідваючы страву па падлозе і на сябе. Калі чалавек перастае аб'ядацца, то яго, вядома, не пучыць: за работай Гузік больш не ікаў і не рогаў, так што калегі асмялелі, пачалі загаворваць з ім — высветлілася, што гарбаценькі бухгалтар здольны не толькі сапці і смаркацца ў рукаво, а ўмее падтрымаць гутарку; шмат, аказваецца, чытаў і нават мае ўласныя думкі.

Нутро тым часам патрабавала большага і большага: раніца Гузіка пачыналася ўжо з фіззарадкі і водных працэдур. У пашчэрбленай, рудой ад іржы ванне бухгалтар абліваўся пакуль што «летняй» вадой, але па прагрэсіруючаму напору ўнутранага голасу адчувалася: хутка падагрэў вады будзе забаронены.

На палічцы ля ўмывальніка красаваўся новенькі прыбор для галення, свежая зубная шчотка, мыльніца. З'явілася новае люстэрка і яшчэ некалькі раней зусім, здавалася б, непатрэбных рэчаў…

Урэшце Гузік спрабаваў шукаць ратунку па дактарах: маўляў, дрэнна сябе адчувае, трывожыць нутро, штосьці са страўнікам… Пасля грунтоўнага абследавання дактары віншавалі яго: стан здароўя палепшыўся, зніклі хранічныя хваробы, канстатавалі стойкі імунітэт, а галоўнае, фантастычным чынам намецілася відавочнае выпрамленне пазваночніка! Яму хацелася, ды штосьці спыняла расказаць дактарам, як пачынаецца кожны яго дзень; як шторанак ён прачынаўся ахоплены невыносным жывёльным страхам. Не паспее расплюшчыць вочы — недзе са спіны, крыху вышэй нырак і адпаведна ўпераддзе ў ніжнім левым падрабрынні прыпякала. Непадуладная розуму хваля панікі перапаўняла душу. Смяротнага холаду рука кранала за плячо, загадвала ўскокваць з ложка, не дазваляе разняволіцца ні на хвілінку…

Праўда, ад такога напружанага рэжыму ўдзень ноччу Гузік спаў спакойна, перастала трывожыць бяссонне, і што цікава — у яго «канцылярскай» кнізе (сонніку) з той пары не з'явілася ніводнага запісу.

Праз нейкі час жыццё крыху падуціхла. Адпусціў страх. Загады і патрэбы нутро выказвала мякчэйшым голасам. На работу Гузік хадзіў з задавальненнем, завёў звычку з вядомага моманту хадзіць толькі пешкі, весела вітаў калег, жартаваў на перакурах. Сам паліць не прызвычаіўся, але любіў патусавацца ў курылцы… Пагаворвалі супрацоўнікі, што да яго па вечарах наведваецца кульгавенькая Вера, сакратарка з гаспадарчага аддзела. Бывае, яны дапазна разам бавяць час і нават у іх асабістым жыцці паспяваюць значныя перамены. Пад Новы год збіраюцца з'ехацца, каб жыць разам. Спрыялі падзеі…

Да юбілею стварэння жыллёва-камунальнай гаспадаркі раёна як асобнай арганізацыі высокае начальства ўручыла Гузіку ключы ад новай кватэры. Да таго ж павялічылі аклад, таму што і пасада яго пазначнела — на месца адбыўшай за мужам у іншае месца жыхарства Лізаветы Антонаўны Штык вырашылі паставіць работніка, які непазнавальна палепшыў свае прафесійныя адносіны да абавязкаў, гэта значыць яго, Гузіка…

Як раптам Гузік зноў бачыць сон… На гэты раз ясна, нават фізічна адчуў, што праз гарляк з яго хтосьці выцягнуў тую самую бліскучую пярэстую вужаку. Уражанне было не з прыемных. Нешта накшталт цяжкай страты, засмучэння… Звыкся, зжыўся, сцярпеўся — няхай бы ўсё заставалася як ішло… дык вось — выцягнулі. Гузік памкнуўся запісаць сон, але паленаваўся шукаць сшытак. Паляжаў у змрочным настроі, не выспаўся, глянуў на гадзіннік — спазніўся на работу. Пацягнуўся ў ложку: крыўда нашаптала яму на вуха, што за апошнія гады ён ні разу не хварэў, як тым часам калегі, нябось, выкарысталі не адзін бальнічны, дык чаму б і яму не адпачыць хаця б з тыдзень.

Са злосным задавальненнем бухгалтар выклікаў на дом доктара, а сам намеціў на перыяд хваробы чытво, паклаў побач з канапай некалькі кніжак і часопісаў. Доктар прыйшоў не адразу і Гузік аж да вечара праваляўся галодным, затое на сон напратаўся ўчарашняй падкіслай кашай, з чаго ўсю ноч яго ванітавала.

За хваробай кватэра абрасла павуціннем. Новае жытло Гузіка перажывала метамарфозы — нібы не жадаючы заставацца ў старой кватэры, у былым жыцці стойкі беспарадак паступова перабраўся за гаспадаром

і ўсталяваўся тут паўсюдна: пад канапай пыліліся так і не кранутыя кніжкі, побач, як і некалі раней, на падлозе — адзенне, абутак, посуд з падпсаванымі стравамі, ссохлыя скарынкі хлеба, відэльцы ў абдымку са шкарпэткамі…

А на рабоце чакалі стосы не апрацаваных папер. Думаць пра ўсё гэта не хацелася, і, калі скончыўся бальнічны, на службу Гузік не пайшоў. Патэлефанаваў і адпрасіўся ў начальства на дзень, спаслаўшыся на асабістыя абставіны. Не пайшоў і назаўтра, і потым, і потым…

Напярэдадні святаў, шэрай снежаньскай адлігай адыходзячага года некалькі работнікаў жыллёва-камунальнай гаспадаркі праводзілі свайго былога супрацоўніка ў апошні шлях. Суседзі новага жыхара кватэры нумар дванаццаць, які не так даўно засяліўся ў іх дом, не змаглі ўцяміць, як сюды трапіў стары гарбаты нябожчык і якое дачыненне ён мае да іх новага суседа, такога прыемнага мілага чалавека са смешным прозвішчам Гузік… Не разумелі, чаму сам гаспадар кватэры так і не з'явіўся на пахаванне…



## «ПА» З МАТЫЛЬКОМ

Увесь свет змагаецца са мной… Я змушаны туляцца глухімі завулкамі, не жадаючы трапіць на вочы тым, хто няспынна палюе на мяне. Кожны дзень паштар прыносіць позвы з пракуратуры. Ён грукае ў дзверы маёй кватэры, распытвае суседзяў, заглядвае ў замочную адтуліну — ледзь дыхаю, хаваюся па кутках… Мая паштовая скрыня напхана пакамечанымі лістамі і паведамленнямі з розных судовых органаў… Скрупулёзныя, законапаслухмяныя паштары дамагаюцца майго подпісу на новую і новую павестку…

Я стаміўся… Я запалоханы, мяне непакояць начныя жахі, я пакутую бяссоннем, мяне пераследуюць слухавыя і зрокавыя галюцынацыі…

Аднойчы меў я неасцярожнасць будзённым сонечным ранкам шырока расчыніць акно і вытыркнуцца на вуліцу… Мая вуліца!!! Мае дамы, мой горад, неба, сонца… Радасць! Радасць!!! Я смелы! Я самаўпэўнены! Усё ў маім жыцці — як трэба! Так было і будзе! Гэты *свет* — для мяне! Гэтыя людзі са мной за адно…

Прыляцеў… фанабэрысты… выхваляецца ўборамі. Сеў на далонь, страпянуўся, расправіў фарсіста крылы ў «турэцкіх кашамірах» — *махаон*! Я для яго ўсяго толькі пасадачная пляцоўка… Рука мая паплыла ўверх: трымаецца ўчэпістымі лапкамі — лёгкае казытанне па жылах… Рука слізганула ўніз, управа, улева — балетныя «*па*» з матыльком. Набіраю паветра: ф-ф-ф-ф — я для яго вецер; ф-ф-ф-ф — бура! Крылцы затрапяталі. Узлятае — лаўлю… Я шчаслівы! Я адкрыты. Гэты *свет* — для мяне! «Людзі, я люблю вас!» — напалохаў махаона…

Мінак панура крочыў паўз мае вокны, дакорліва пахітаў галавой. «Людзі, я ўсіх вас люблю!» Некалькі прахожых спыніліся: «Непрыстойна так адкрыта выказваць свае пачуцці — які сорам!» Запатрабавалі: «Змоўкні!», «Прыраўняць усіх разам?! І забойцаў, і зладзеяў, і бамжоў, і маньякаў?!», «А псіхічна хворыя? А ўрэшце, сэксуальныя адшчапенцы?!», «Якая бездухоўнасць — усіх раўнуючы любіць! На ўвесь свет пра тое крычаць!», «А чужыя жонкі? Пасягаць на сямейны спакой?!», «Маўчаць! Маўчаць!» Я зачыніў акно, пырскаючы ад рогату, і стаў збірацца на работу…

Перад адыходам я зноў зірнуў на вуліцу — пад вокнамі скандзіраваў мітынг: «Маўчаць! Маўчаць! Маўчаць!» Арганізатары мас разгарнулі плакаты і транспаранты з патрабаваннямі «блюсці» цішыню і спакой. Вялікія белыя літары па чырвонаму заклікалі: «весяліцца толькі па агульнапрызнаных прычынах і прынятым парадку».

Транспарт аператыўна даставіў драўляныя драбіны, пры дапамозе якіх планавалася «браць» мае вокны.

Я зашчапіў засаўку і шчыльна захінуў фіранкі. Дварамі збег на работу…

Наступным днём і была прынесена першая позва ў суд. Пракурор абвінаваціў мяне ў тым, што тры гады таму назад я адмовіўся вынішчыць у сваім палісадзе мае любімыя кветкі і па прыкладу перадавых ініцыятыўных грамадзян — жыхароў нашага горада разбіць клумбы з пунсовымі сальвініямі ў форме лозунгаў: «Мы — найшчаслівейшыя людзі *свету*!» Я не супраць лозунгаў — сальвініі не люблю…

Жадаючы заглушыць думкі пра судовыя мітрэнгі, я патроіў працоўны энтузіязм, гэтаму спрыяў і каляндарны дзень, які абяцаў завяршыцца салодкім змоўніцкім чаканнем ля невялічкага акенца з надпісам «КАСА»; з якога кожнаму ў свой час прыемна «адшалясцяць» порцыю купюр…

Больш за ўсё грэла надзея, што ўжо на гэты раз не прадбачыцца ніякіх незапланаваных збораў, узносаў і падаткаў… Аналізуючы папярэдні разлік, кішэню апалавінілі: «чырвоны крыж», «ахова помнікаў», «выратаванне на водах», «барацьба з п'янствам і алкагалізмам», дапамога хворым і малазабяспечаным, а яшчэ — стварэнне музея мясцовых знакамітасцяў…

Але халодныя маланкі бліскучых акуляраў касіркі прадвясцілі гром паведамлення: грошай не хапае — будуць выдаваць часткова латарэйнымі білетамі.

Чарга зацята праглынула затоенае абурэнне, яноператварылася ў пільнасць: дзясятак пар прагных вачэй рэўнасна сачылі за выкананнем справядлівасці — каб кожнаму адлічвалі па роўнай частцы «каляровых

— Ты ахранеў?! Ты знарок! Захацеў мяне здаць?!

Дзяжурны нічога не зразумеў, падаўся за ім да закратаванага закунурка, каб паглядзець, што так уз'юшыла маршалка.

— Там жа нейкае вашаб'еддзе інтэлігентскае! Ён жа ўсё чуў! Во цяпер мне дык точна — пі…дзец! — словы яго набылі зусім іншы, асэнсавана-драпежніцкі колер — куды дзелася разгубленасць?

— Яго Шкромандзь прывёў з аўтастанцыі. Без дакументаў, сварку ўчыніў…

Але маршалак ужо нічога не слухаў…

— Мы з малым вывозім яго на развілку, — зашаптаў ён збялелымі вуснамі. — Натаўчом у галаву і — «дэтэпэ»! Наезд… Там часта здараецца — туман, за два метры ні х… не відаць. Запраста: наезд!

— Я нікуды не паеду… — заплакаў хлопец-стажор.

— Хопіць! — падхапіўся дзяжурны падмаршалак. — Апаскудзіўся па вушы і нас за сабой?

— Што?! Падла! — маршалак кінуўся на дзяжурнага. — Мо забыўся, як роднага брата жонку, калі ён у войску служыў, на «начныя дзяжурствы» разам вывозілі? Дык я зараз напомню… тваёй.

Ён схапіў са стала тэлефонны апарат. Яго адабраў падмаршалак, але апарат выслізнуў з рук і бразнуўся аб падлогу, гучна прызнаючыся, што ўжо не здолее перадаць навіны ні жонцы, ні каму іншаму. Аскалёпкі чырвонай пласмасы паляцелі пад стол.

— Гэта не перашкода, — упэўнена рушыў да стацыянарнай сувязі маршалак.

Дзяжурны адштурхнуў яго, ударыўшы ў плячо:

— Г-гад!!! Ёй не сягоння-заўтра ў раддом…

Маршалак скруціў яго загрудкі:

— Дык вось і паскорым гэты працэс! А забыўся, як у выбары Асноўнага Вярхоўнага маршала са скрыняй, поўнай бюлетэняў, на хутары зашыўся — тыдзень шукалі?! Я ледзь адмазаўся, з-за цябе тады чуць пагоны не згубіў…

— Ну ты і сволач! Хто кіраваў бобікам? Ты ж настояў — першачку, першачку паспытаем… Ты добра знаў: нельга мне піць… А сам кінуў мяне, з'ехаў… Чаго ж ты скрыню не забраў з сабой? Тыдзень шукалі! Тапор пад лавай? Не ведалі, дзе я?! Адмазчык! Пагоны… Праўды захацеў? Дык я табе нарэшце яе выкажу. Можа, вам зусім не тая скрыня патрэбна была, калі вы яе *так* шукалі? А ці не за тую скрыню на нечыя пагоны лішнія зорачкі пакаціліся? Вы свядома… наўмысна рабілі з мяне казла, каб, калі што, было на каго звярнуць… Сволачы!

Маршалак абмяк, паспакайнеў. Раптам у яго галаве пачаў нараджацца новы, абсалютна надзейны і зусім не просты план. У ім усплывалі *такія* фігуры і падзеі, што сягонняшняе «выпадковае неасцярожнае забойства ў схватцы са злачынцам» само сабой адыходзіла на далёкі-далёкі фон… Тут палітыка закраналася… Тут пагроза ўладам…

— Табе гэта адрыгнецца… — ціха і страшна папярэдзіў маршалак.

— Усё! Хопіць. Адзінае, чым магу дапамагчы, гэта адпусціць затрыманага на аўтастанцыі дамоў. Ён, дарэчы, яшчэ нават і не аформлены — не было калі. Тут міністра чакалі — загадалі паперы прывесці ў парадак… Ды гэты хлопец нічога і не дапёр, бачыш, у яго штосьці з зубамі, вунь як пашчэнкі раздуло — жах! Яму не да цябе… А ты, калі жадаеш, з бамжамі дамаўляйся. У астатнім — як хочаш выкручвайся. Большага і не прасі! — дзяжурны забраў ключы і пайшоў адчыняць брамку…

Маршалак страціў цікаўнасць да «ўшывага» інтэлігента. Яшчэ лепш, што яго не аформленага дзяжурны падмаршалак выпускае… Шкромандзь заўсёды падцвердзіць, што дастаўляў. А вось чаму дзяжурнаму падмаршалку «ў дзень забойства ад сведкі спатрэбілася пазбаўляцца?» — гэта выкліча ў адпаведных органаў значны інтарэс! Адным словам, план вымалёўваўся грандыёзны!!!

5

Адразу з дзвярэй Левар'яна ахінуў густы туман. Мароз усё ж не ўтрымаўся… К вечару гурбы снегуператварыліся ў брудную квашаніну. Бушавала разводдзе… Можа, з-за пухліны, можа, проста звыкся, прыцярпеўся, але фізічнага болю Левар'ян не адчуваў… Ён прысеў, каб надзейней перавязаць шнуркі на абутку, трэба было шыбаваць дадому — дарога пешая чакала не малая і праз ноч… праз ноч… праз ноч…



## «СУПЕР Ж…»

Кагосьці выправілі на першы паверх да вахцёркі патэлефанаваць на «03». Галка істэрычна запатрабавала пілку з нажнічкамі, яе скруцілі спазмы з прыступамі вострых колікаў у правым баку жывата — складалася падазрэнне на апендыцыт: кусаючы ад болю вусны, вёрткая, як гімнастка, яна дацягвалася да ступняў — глянцавала пазногці, выштукоўвала педыкюр, а раптам доктар — мужчына…

Не! Галка ўсё ж сапраўдная «*супер ж…*» <анчына>, хоць і не любіла сваю недарэзаную мянушку, цярпець не магла праз яе недавершаную шматсэнсоўнасць… Натхнёны жаночай прыгажосцю віяланчэліст Фелікс Агаркаў у душэўным надломе пахмельнага сіндрому, падчас лекцыі ўвека-

вечваў сцізорыкам на драўляным стале сваё ўражанне, змушаны спыніць творчы працэс на літарах «*супер ж…*» (яго паклікалі да дырэктара), так і пакінуў «выяву» незавершанай. За дэбош і няспыннае п'янства яго менавіта ў той дзень выключылі са спісу навучэнцаў… Казалі — змусілі пайсці ў войска, неўзабаве выправілі ў Афган… Больш пра Фелікса я нічога не чула. А літара «Ж», крыху заваленая, бы ў прадчуванні ўзлёту, так і не дачакалася астатніх сяброўак, затое тры кропкі, намёткі будучых літараў, з цягам часу, дзякуючы невядомаму сааўтару, набылі тры вертыкальныя рысачкі, ператварыўшы іх у клічнікі, дадалі твору пафаснае шматсэнсоўе, праз якое Галка і не прыняла мянушку…

Хто сказаў, што жанчыне неабходна чытаць разумныя кнігі, звяртаць увагу на ацэнку педагогамі сваіх паводзінаў, грызці навуку да страты зроку, да скруту мазгоў перажываць свае не лепшыя ўчынкі? Няўжо мала прыкладаў з жыцця: каму-каму, а жанчыне дык зусім — «горе от ума». Разумныя мала каму патрэбныя…

Супраць кожнага выкладчыка ў Галкі меўся цэлы арсенал зброі, ім карысталася тонка і спрактыкавана. Пасля тыднёвых вакацый, якія расстаралася сама сабе дзеля праводзін каханага Васі ў войска, Галка з'явілася на лекцыю па этыцы да Ступаковай, тая павольна павяла арыстакратычным профілем у бок лайдачкі-прагульшчыцы, высакамерна ўскінула бровы, чытай: «абуральна!», а Галя, дэманстратыўна падкрэсліваючы паслушэнства, з папераджальным нахілам галавы ўручыла педагогу медыцынскую даведку аб прыналежнасці студэнткі «такой-та» да пачэснага атрада донараў краіны. Перад ненавісным аркестрам яна не шкадавала падпілаваць струну каштоўнай скрыпкі, каб тая ў разгар кадэнцыі дзынкнула, разлятаючыся ў розныя бакі. На Галіным твары «шчырае» здзіўленне — сама напалохалася ад «нечаканасці»! Калыхнуўшы россыпам залатых локанаў перад вачамі хлопцаў (мужчын!) чатырох курсаў, Галка пачынае збіраць ноты, рэчы — «зграбацца з рэпетыцыі»… Пакідала аўдыторыю няспешна, паводзячы ўдала замаскіраванай адсутнасцю клубоў, на адыход мелькам зыркне вільготным лязом жывога пажадлівага позірку на апошні рад пультаў, за якімі дзьмулі ў муштукі шыракаплечыя «духачы».

Спазнілася сказаць, што жыла я на першым сваім курсе ў адным пакоі з Галкай і яе сяброўкай Наташай, якраз выпускным для іх курсам. Жыла па той простай прычыне, што не мела пастаянных сяброўскіх прыхільнасцяў, мяне перакідвалі з пакоя ў пакой, вызваляючы ад перагружанасці блатныя і караючы мною, як баластам, праштрафленыя, такім вось нядобранадзейным і аказаўся пакой Галкі з Натахай, куды дабавілі мяне як лішняга жыхара, чаго не дазвалялі ў адносінах да іншых выпускнікоў.

Нярэдка па дарозе на свой пяты паверх да нас забягалі аднакурсніцы маіх суседак сёстры Люся і Таня Муха, яны жылі ўдваіх у блатным трохмесным пакоі.



Неяк Наталля зварыла цудоўны боршч, прыйшлося запрасіць і Муху з Люськай, бо тыя сядзелі на галоднай дыеце пасля пакупкі модных італьянскіх боцікаў на танкетцы ў сямнаццаць сантыметраў вышынёй. Першы раз абуўшы, Муха страціла прытомнасць, бо не разлічыла дальнасць паходу са сваімі фізіялагічнымі магчымасцямі цярпець мяжовы ўзровень болю. Калі лыжкі з баршчом накіраваліся да вуснаў, Галка пачала без задняй мыслі абмяркоўваць, колькі б дзён яны з Наташай маглі эканомна есці боршч, калі б сёстры адмовіліся ад прапановы. Люська папярхнулася, моцна закашляла і, падзякаваўшы, адклала лыжку, Натка пачырванела, здзіўлена заміргала вачамі — не знайшла, як выйсці з няёмкага становішча, а Муха ад нечаканасці правалілася ў дзірку між шафай і сталом: яна памятала пра трохножжа табурэціка, на якім сядзела, але ў крытычны момант не здолела ўтрымаць неабходнага ракурсу — страціла раўнавагу і аказалася на падлозе дагары нагамі — шлэпкі яе бессаромна выставілі напаказ напаўадарваныя падэшвы. Пасля доўгіх вечароў сварак і спрэчак з Наташай Галка шчыра так і не змагла зразумець, што ў яе словах усіх збянтэжыла…

Бачылі б вы ранішні туалет (драбнавата), рытуал, калі яна пачынае чысціць пёркі. Шкада, не хапае набокаўскага таленту жывапісаць! Галя сядала на краёчак казённага металічнага ложка — танюткая, бы трасцінка: панцыр сеткі амаль не прагінаўся пад яе вагой: ножка за ножку, вусны старанна шукаюць у люстэрку пераканаўчую пячатку элітнасці; Галя доўга-доўга любуецца сваім адлюстраваннем перад тым, як пачаць ашчадна і скрупулёзна даводзіць да шыку кожную рысачку твару. Шкляная гладзь перахопіць бесперапынны рух лёгкіх пластычных рук, адправіць у глыбіню неабмежаванай віртуальнай прасторы. На фоне замілаванай усмешкі, млявай павалокі праспушчаных веяў адточваецца адрасны позірк камусьці нябачнаму, дзеля каго і ствараецца ўсё гэта вядзьмарства…

Самае неверагоднае ў тым, што Галка зусім не прыгожая… Калі змывае касметыку, залізвае ў хвасток валасы, кідаецца ў вочы, што лоб яе ў шырыні смешна перабольшвае ніжнюю частку твару, надае яму падабенства перавернутай дуліне. Галка не прызнавалася ў існаванні школьнай мянушкі Лабагруша, бо наогул ніколі школу не ўспамінала з-за непрыязнасці да яе. У школе жорстка патрабавалі апранацца і быць «як усе»: шэрымі, непрыкметнымі, бясполымі, таго ж дабіваліся і ад студэнтаў, але, трэба сказаць, без асаблівай дбайнасці з боку дырэкцыі — больш для праформы і пратаколу. Таму Галіне ўдавалася лавіраваць між патрэбай натуры і рэгулярнымі вымовамі, незалікамі, пагрозамі і пакараннямі і ўсё ж заставацца ў ліку навучэнцаў…

Ніколі ў жыцці Галка не згадзілася б прызнаць адсутнасць прыгажосці ў сваім абліччы ці наяўнасць якіх хібаў постаці. Ёй падабалася ў сабе ўсё: і буйнаваты з гарбінкай нос, і вуглаваты авал твару з жоўтым адценнем

скуры, яна шмат паліла, маленькія, бы мышыныя, вочкі, бляклага колеру пялёсткаў адцвілых валошак, і сапраўды ніяк нельга было залічыць у загану; абрамлёныя штучным аксамітам чарнёных веяў, яны ператвараліся ў мутныя віры — сілкавалі позіркам самыя патаемныя, самыя нястрымныя фантазіі мужчынскіх жаданняў. Талія ў Галкі не вызначалася, даволі шырокія, пры росце метр пяцьдзясят, плечы плаўна пераходзілі ў пляскаты таз, а саломіны яе крываватых, невысокіх ног мацаваліся да «лыжаў» трыццаць восьмага памеру… І нягледзячы на ўсё гэта Галіна адыходзіла ад люстэрка феерычнай, чароўнай, надзвычайна абаяльнай паненкай. Адыходзіла яна толькі пасля таго, як кожная валасінка зойме сваё месца. Выдатны густ давяршаў варажбу над вобразам: не заўсёды багатыя, але абавязкова шыкоўныя спаднічкі, блузкі, сукенкі Галка прымушала максімальна слугаваць на прадмет сваёй прыгажосці.

Грубавата-праставатая Натаха з Варкуты старалася хоць бы ў чым пераўзысці сяброўку і не здолела ацаніць сваёй годнасці іначай, як пахваляцца цнатлівасцю. Часцей за ўсё яна разбаўляла гэтай звесткай не ўпершыню пераказаную байку пра аўтакатастрофу, што здарылася з ёй у школьныя гады, і ўжо праз даўнасць часу, па справядлівасці, «папутная звестка» магла б лічыцца сумнеўным фактам, аднак Наталлі відавочна падабалася ўспамінаць, як у момант спаўзання машыны са схілу пагорка мужчыны-буравікі жартам лапалі яе з аднакласніцамі і смяяліся: не так жыцця шкада, як цэлак непачатых. Натка абводзіла ў гэты момант вострымі шчылінкамі хітраватых вачэй усіх прысутных…

Галка з гонарам насіла тытул жанчыны ад пятнаццаці гадоў, яна зведала таямніцы інтымных адносін, у яе гутарках гучала незнаёмае слова «хінін» — загадкавае, незразумелае і палохаючае. На пытанні Мухі — ну як, страшна, балюча? — Галка для важнасці вытрымлівала тэатральную паўзу, інтанацыя голасу набывала глыбінны грудны прыглушаны нюанс, набліжаўся яе час. Гнуткая, бязважкая, паветраная істота выходзіла на паляванне — пачынаўся лоў у лабірынты яе ўласнага свету…

Як напалохалася яна аднойчы ў час прыезду Васі на пабыўку. Ён, тады ўжо слухач кафедры ваеннай хірургіі, вырваўся з Піцера (Ленінграда), каб адну ноч правесці з каханай… Раніцай Галка з шалёнымі заплаканымі вачамі бегала па дактарах. Памыляецеся, думаю, у здагадках… Не «залёт» — яе занепакоіла тое, што не адчула аргазму. Здарылася штосьці страшнае! Яна чула пра такое: шмат жанчын фрыгідных, але гэта не для яе. Трагедыя! Смерць! На крылах вярнулася да Васі. Гінеколаг здагадалася запытацца, колькі разоў Галіна мела інтымныя адносіны за апошнюю ноч, пачуўшы адказ, здзівілася.

— І сіл хапіла прыйсці сюды?! Ідзіце, адпачніце — усё будзе па ранейшаму.



Быў першы дзень красавіка, ключа на вахце не знайшлося, што адно ўжо насцярожвала — мае выпускніцы ў гэты момант павінны былі іграць генеральнае праслухоўванне праграмы па спецыяльнасці. У пакоі з маім прыходам запанавала напружаная цішыня: штосьці ўтойвалі.

— Дзе Галка?

Адмазаліся:

— Дамоў з’ехала.

Праігнаравала залік выпускной праграмы?! Пасля дазналася: Галю ў тым становішчы не спыніў бы і сам дзяржаўны экзамен…

Вася прыслаў ліст: «Галачка, прабач, буду любіць толькі цябе, але так здарылася… я павінен… яна чакае дзіця… ты мая самая-самая…» Ліст Галка не дачытала да канца… Яе ледзь выцягнулі з антрэсолі пад столлю… Галка — дзюймовачка, аднак у той праём (30–50–60) нават з яе габарытамі ўціснуцца — уявіць праблематычна! І зараз не разумею, як яна там апынулася?!

Адпаілі, адкачалі… Са словамі: «Сучка! За валасы да доктара зацягну! Такім чынам я і сама Васю даўно б акаціла. Пачвара!» — пакідала неабходнае ў сумку і рванула на папутку. Галка ні хвілінкі не сумнявалася ў шчырасці пачуццяў свайго Васі да сябе і ні на кроплю яго не вінавaціла, загадзя і бездакорна апраўдваючы любы яго ўчынак.

— Не памятаю, як даехала дамоў. Аднак перад візітам да свякрухі марафет навяла адпадны! — пасля распавядала Галка. — Пазычыла ў суседкі футра, боцікі — мне ж не было калі разважаць пра гардэроб, у чым стаяла, у тым і паехала… Заяўляюся да Васевай маман, бы нічога не здарылася, усміхаюся, сутаргай сківіцы зводзіць! Як справы? Як Васілій? Маман збянтэжылася: «А ты ад Васі ліст не атрымала?» — «Не…» — кажу. «Вася жэніцца…» Ну, я не стала час марнаваць: кінулася на вакзал — цягнік неўзабаве адыходзіў. Маман за мной! Штосьці крычыць — я не слухаю. Каб я крышачку пачакала — яна б здалася, не вытрымала, раскалолася б… Ну, ідыёты!!! Нікога ў яго няма — там у канцы ліста падкрэслена было: «1 красавіка. Дзень смеху!» Толькі я ўжо на першых радках зрок страціла. Маман сваю ён папярэдзіў, калі ліст не атрымаю — то пажартуе яна і адразу ж пасмяёмся, толькі я не стала ні чакаць, ні слухаць…

Галка разумела гумар, нават такі чорны, які мог скончыцца трагічна. Хоць, напэўна, Вася добра ведаў сваю каханую: Галка дасць сабе рады!

Перад самым выпускным Галіна ўсё ж сарвала мазоль з пальца па прычыне нерэгулярных заняткаў на скрыпцы. На прыстойную адзнаку і сэнсу не было марнаваць надзею. Не тое хвалявала Галіну. Старшынёй камісіі прыслалі з кансерваторыі даволі маладога прафесара, мужчыну прывабнага і цікавага. Адчаю было праз меру! Гала парыла, «кампрэсавала», масажыравала свой палец, накладала мазі: рана зацягнулася, але

на рэпрызе апошняй п’есы тоненькая скура не вытрымала, лопнула, на дэку пырснула кроў, расцяклася па грыфе — пальцы слізгалі, юзалі і зліпаліся… Галка атрымала свае законныя тры балы – на вышэйшае яна ніколі і не пасягала, хоць, казалі, менавіта прафесар гатовы быў дадаць бал, ды не стаў пярэчыць помсліва наважанай экзаменацыйнай камісіі. Галка атрымала глыбокую душэўную траўму праз такі канфуз.

На святочнай вечарыне ў рэстаране прафесар не адыходзіў ад Галіны…

Мы з ёй не лічыліся сяброўкамі і сустрэліся выпадкова праз шмат гадоў. Галку я знайшла такой жа асляпляльнай, магічнай, загадкавай жанчынай. Яна на той момант была ўжо двойчы маці, але я не адшукала і намёку на пабагацелае амплуа — толькі жанчына! І ніякай лішняй інфармацыі. На пытанне пра дзяцей Гала махнула рукой:

— А-а-а! Аздабляем чужы кветнік.

А як Вася? Яе чароўная ўсмешка азначала: *усё супер*!!!





# НЕ ПРА ВЕРУ, НЕ ПРА НАДЗЮ, НЕ ПРА ЛЮ…

*Ахвярую маім бацькам*
*Ганне Усцінаўне і Фёдару*
*Цімафеевічу Якушонкам*





## НЕ ПРА ВЕРУ...

Ліст з парадай не прымусіў чакаць. «Если проблема Ваша приняла столь затяжной характер — вы не избавитесь от нее без посторонней помощи. Решайтесь — вышлю адрес, есть человек, который уберёт все Ваши проблемы. Но убеждаю Вас! Никогда не обращайтесь за помощью к государству, я имею в виду — суд...» — пісаў чацвёрты раз асуджаны з УЖ 15/13.

Яна спакойна і нават смешна адказала ў тэлефонную трубку: «Ну, яшчэ ж не пераскочылі мяжу...» — тут быў сэнс... Нашы з ёй сыны аднаго ўзросту — рана вынікаваць. Знала, што нічога не змяню, — ад бездапаможнасці схапілася накручваць нумар тэлефона, а што, як па-простаму, па-бабску, скрычым «на сухія лясы, на гнілыя балоты, на глыбокія моры...» Не скрычалася. Жанчына стомлена і без веры апраўдалася: «Што я зраблю без бацькі? З маленства такі: карабаты, помслівы, злосці — хоць адбаўляй...»

Першы ліст прыйшоў нечакана... Займалася дома штодзённымі справамі і раптам адчула: трэба бегчы на пошту — мяне чакае пісьмо. У скрыні і сапраўды ляжаў канверт з незнаёмым почыркам, моцна прапахлы танным тытунём. Зваротны адрас — штамп калоніі. Адрасат выбачаўся «за няпрошанасць», пісаў, што ў яго рукі трапіла газета з маім інтэрв'ю. «Я не мог уснуть несколько ночей. Отбросьте пошлые мысли о жениховстве... Мне Вы увиделись тем человеком, с которым можно поделиться мыслями — от них разрывается моя голова, вернее, от отсутствия друга, способного выслушать и понять». Ліст здзівіў пісьменнасцю, не падручнікавай філасофіяй, выпакутаванымі высновамі. Так завязалася кароткае ліставанне. Не знайшла сілы перамагчы мяшчанска-ханжаскую баязлівасць вольна весці дыялог з вязнем. Правінцыйнае выхаванне замінала ставіцца абыякава да цэнзуры. Ён папярэдзіў, што кожнае слова, кожную думку перачытвае служака ў вайсковай форме. А я шмат каго, хто «хадзіў на работу ў турму», ведала асабіста, уяўляла духоўна-разумовы ўзровень знаёмых, таму і не адолела слабасці. З-за маладушша і мне зараз не стае сябра, схільнага самастойна развіважаць, не баяцца думак.

А сон сніўся. Босыя з сынам крочым праз цэнтральную плошчу да будынка з шыльдай «Народны суд». З усёй сілы сціскаю далонь, як некалі, упершыню трапіўшы ў мнагалюдны горад, трымала пяцігадовага сына за руку да хрусту костачак, каб не згубіць у натоўпе. Здавалася, вырвуць з рук, украдуць майго хлопчыка... Зараз яго далонь удвая за маю большая...

Парады пытаць не было ў каго. Без дазволу сына параілася з былым мужам. А той даверліва — інтэлігентная парода — завёў «пад лёгкім градусам» з хлопцамі дыпламатычную размову... Не падумаў, як сына падстаўляе, паддае жару зламыснікам, цвяліць іх на зачэпку: «За ябеду!», «За мамчынага сынка!»... Парады не было ў каго прасіць — запыталася ў адрасата з УЖ 15/13.

Памыляецеся, пісаў ён, калі мяркуеце, што за кратамі турмаў сканцэнтравана чалавечае зло. Тут канцэнтруецца чалавечае няшчасце. Сапраўдныя злачынцы чалавецтва рэдка трапляюць у вязні...

У выхаванні ўсё выдатна, чытала я ў наступным лісце, калі кожны выконвае сваю ролю: унукі — сваволяць, бацькі — караюць, бабулі — бароняць. Банальна? Завітайце ў сучасныя сем'і: бацькі — п'юць, бабулі — п'юць, унукі — колюцца. Дзяцей ганьбяць за пакінутых у інтэрнаце бацькоў, а адкуль, пытаецца ў мяне праз ліст новы знаёмы, у дзіцячых дамах гэтулькі пакінутых сірот? Аўтарытэт бацькоў — штучны. Па традыцыі, толькі на тым грунтуецца, што яны старэйшыя, дужэйшыя, таму маюць перавагу над безабароннымі дзецьмі, Яны не лічаць патрэбным «адпрацаваць» авансам атрыманы аўтарытэт, любоў і павагу. А калі іх страчваюць у падрослых, здольных разважаць, дзяцей, енчаць: «Якая няўдзячнасць! Мы гадавалі, карміілі-паілі, а вы з намі як?!»

Дзе вашы мужчыны? — чарговы ліст са штампам азадачваў жанчын (у маёй асобе) і сам жа адказваў. Вашы мужчыны схаваныя за краты, хто — не, для тых «арганізаваны» Афган, Чачня, Чарнобыль... Магутныя чорныя невідавочныя сілы інспіруюць ход механізма. Нікога асабіста ні ў чым не звінаваціш. Наладжаны механізм працуе без перабояў. Наўмысна знішчае разумнейшых, мужных, адважных. Пакідае кволых, паслухмяных, зломленых.

Я нарадзіла сына ў 1979 годзе. Як у казках — «рос не по дням, а по часам». Здаровы, вялікі, моцны, вагой аж за чатыры кілі. Вось за гэтыя чатыры кілі і быў адлучаны адразу пасля з'яўлення на свет ад сваёй мамы на трое сутак. Ажно выходзіць, мець такую вагу, на думку савецкіх дактароў, паталогія. Няхай ляжыць у казённай палаце, «наводзіць фігуру», крычыць без мамчынай ласкі, чалавечага цяпла, нармальнай дзіцячай ежы. Праз адлічаныя гадзіны, згодна з рэжымам, яму торкнуць у сасмяглыя вусенкі гумовую соску з салодкай вадой. Ад гэтага потым усё жыццё чалавек пакутуе на алергію. А ў яго маці камянее малозіва ў грудзях, ад штучнага выціскання запякаецца і прападае малако, падымаецца тэмпе-

ратура, а ўсё разам замінае нармальна скарачацца дзетародным органам у жанчыны… Механізм спыніць складана. Сістэма аховы здароўя і далей будзе пільна сачыць за выкананнем распрацаванага рэжыму выхавання і кармлення савецкага чалавека. Карміць дзіця строга паводле раскладу, праз пэўны адрэзак часу. Спіць? Разбудзіць! Не хоча есці — будзе, бо трэба! Соннае дзіця лена пацёгае і зноў засынае, а неўзабаве прачнецца ад голаду. А нельга! Яшчэ не час, чакай наступнага кармлення гадзіны дзве. Вадой напівайся, а малака — ні-ні! Малако ты, маці, сцэджвай і вон вылівай… Грудзі смыляць, дзіця і маці нервуюцца, плачуць, малако прападае, а дзіця галадуе… З кволанароджаным дазволена пабыць семдзесят пяць дзён, а калі нарадзіла здаровага — праз пяцьдзясят шэсць дзён, калі ласка, на працу!

«Я с четырёх лет в детдоме, — чытаю пісьмо. — Мой жизненный путь был изначально предопределён. Не уродился я покладистым, способным не высовывать голову, не заходить за линию, не открывать рот… В четырнадцать лет после первой мальчишеской драки, развязанной не нами, детдомовцами, за решеткой колонии оказался я, кого некому было откупить. Вернуться из тех мест никому не удаётся с прежним человеческим лицом. Так это у кого оно было, кто знал обычную жизнь в человеческом обществе, а кто её и до заключения не видел? Детдом — та же тюрьма, её разновидность. Вернуться — куда? Тебя никто не ждёт, твоего места просто нет, особенно с моим характером, не способным терпеть унижения, помыкания… Осмотритесь вокруг, нет ли в вашей местности недавно появившихся «ниоткуда» людей с осанкой, выдающей надломленность духа, болью в глазах и трагической печатью «лишнего» в обществе. Чаще всего они безобидны, совсем не много занимают места в этом мире, они уступили его вам. От них спешат избавиться органы правопорядка — портят показатели, слишком бросаются в глаза своей несчастностью, слишком наглядно показывают вам, как же несовершенно общество, если в нём нет места всем, кому сам Бог его гарантировал…»

Сын трапіў у бальніцу… Не! Спачатку быў звычайны зімовы вечар. Ён вярнуўся са шпацыру, цішком прабраўся ў свой пакой, лёг на канапу тварам да сцяны. Увесь яго выгляд выдаваў надзвычайнасць: нервовы, узрушаны, прыгнечаны — сам не свой. «Што здарылася?» — «Усё нармальна, мама». Інтанацыя голасу не дазваляла верыць сказанаму. «Я адчуваю — нешта здарылася». — «Усё добра. Нічога не здарылася». Фізіялогія яго цела такая, што на ім не ўтваралася сінякоў, зразумець самой, *што* здарылася, было складана. Але ён не пераканаў мяне. Падышла, села побач. Стась нейкі час удаваў, нібыта спіць. Потым лёг на спіну, утаропіўся ў столь: «Як жыць? — нечакана вымавіў ён. Не да мяне, рытарычна, па-дзіцячаму — роспачна і страшна: — Як далей жыць?» Раніцай Стась не змог устаць з ложка, яго ванітавала, кружылася галава… «Хуткая» забрала сына ў бальніцу — чэрапна-мазгавая траўма, страсенне мозга, страта прытомнасці. Запатрабаваны дактарамі ўчастковы засведчыў пабоі, аформіў акт, перадаў у аддзел міліцыі. Як жа не хацелася судзіцца!

Калі назубілася варожасць паміж Стасем і яго аднагодкам Дылам? Зацягнулася на гады. Тым часам Дыл хадзіў завадатарам… Не паказваў ён на *лідара* — бракавала патрэбных на тое рысаў характару. Адно што — дэфіцыт адпаведнай асобы. Спаконвечная праблема ў славянскім народзе, здольным на самазнішчэнне, хутчэй, на знішчэнне ў сабе (народзе) лепшага. А як на бязрыб'і, то і рак — рыба… Злы, карабаты, помслівы, як і сказала яго маці, Дыл не ўмеў дараваць самай дробязнай крыўды. Яго ворагамі лічыліся тыя, хто ў маленстве сыпануў пяском у вочы, пацэліў з рагаткі, абазваў мянушкай, калі не здагадаўся перапрасіць пакрыўджанага, альбо яшчэ як іначай убіўся ў ласку. З года ў год, з класа ў клас расла і шалела зацятасць…

Падзеям шмат спрыяла секцыя бокса, запачаткаваная нядаўна пры мясцовай школе і «на ўра» падтрыманая дырэктарска-выкладчыцкім калектывам. Толькі хутка высветлілася: мэта — навучыць хлопчыкаў самаабароне і заадно «культурна бавіць час» — не спраўдзілася. Чамусьці ў інтэлектуальных «человеческих детенышей», якім найбольш і трэ было абараняцца, не ставала спрыту і жадання таўчы сабе падобнага кулаком у твар. Затое хутка згуртаваліся быдлаватыя хлопцы-мацакі, у якіх і так рукі свярбелі папрактыкавацца на «жывым матэрыяле», а тут — лацно! Многія з іх ездзілі ў Ветрына, іншыя вучыліся ў Вілейцы, а па дарозе, у тамбурах цягнікоў трэніраваліся на студэнтах ВНУ. «Стаўлялі пячаткі на лоб». На той час не вучыўся ў школе і Дыл, але наведваўся часта з хаўруснікамі ў школьны туалет, там зручна было на перапынках «производить естественный отбор среди подрастающего поколения — учить жизни…»

Ёсць хлопцы, правяраць якіх няма патрэбы, пакора вызначаецца самой іх постаццю, паводзінамі. Ёсць, не шмат, па характары вясёлых, жартаўлівых, «лёзных», такія пасябруюць з самім чортам, такіх у жыцці рэдка чапаюць. А сустракаюцца людзі — самі па сабе, раўнадушныя да праяў «калектыўна-масавых інстынктаў», здольных без напружання бавіць час сам-насам…

Грымелі ўзмацняльнікі. Сківіцы ціскалі жуйкі, рукі-ногі танцораў торгаліся ў такт аднастайных акордаў. Дыл павольна праходзіў паміж равеснікаў, за ім цугам дыбалі брытагаловыя ілбы — выглядалі ахвяру.

Выпадкова выбраны палучаў кулаком у нос, ціха выціраў юшку і выходзіў на двор. Там яму падавалі цыгарэту, «па-сяброўску» краталі за пляча — гэта значыла: цяпер ён свой і калі што — за яго заступяцца перад чужакамі.

Стась не любіў папсовую музыку, на танцах у Доме культуры не перадкаваў.

На той час перайшоў ужо ў адзінаццаты, рыхтаваўся да ўступных. Яго пакуль што не білі, хоць не раз, быццам незнарок, штурхалі локцем і «выбачаліся», цвыркаючы слінай праз зубы. Ён меркаваў знайсці разумнае выйсце з любога становішча, на тое ж дадзена чалавеку слова… Трэба сказаць, што «спачатку і было слова»… Дыл пры братве прапанаваў «цесна сябраваць». Рэгулярна выходзіць разам «на прагулянкі», «трымацца адной думкі з тусоўкай», на лаўцы ў скверыку пацягваць напаказ з рыла «чарніла» і «вучыць іншадумцаў»…

«Мы па-рознаму глядзім на сяброўскія адносіны», — як мага добразычлівей адказаў Стась, спадзеючыся застацца зразумелым.

Дачка — малодшая сястра Стася — са слязамі прыбегла са школы, пад сакрэтам (брат забараніў) расказала, што яго ўжо не першы раз «баксёры» выводзяць з класа «на разборкі»… Хацелася рынуцца на абарону дзіцёнка! Прыцягнуць да адказнасці выкладчыкаў: чаму такое робіцца ў сценах школы? Папярэдзіць бацькоў, застрашыць «байцоў»… Шмат чаго можна было змяніць разумным ураўнаважаным падыходам… Сын не падаваў знаку, супакойваў, усміхаўся, запэўніваў: усё нармальна, нічога страшнага не адбываецца, звычайная ўзаемная непрыязнасць і не больш. Не дазваляў умешвацца. Дык і не дзеці ж, за ручкі не развядзеш, «ашчаперыцца» не прымусіш, у прымірэнні не злучыш…

«Ну, яшчэ ж не пераскочылі мяжу…» — той тэлефонны званок да маці Дыла пацвердзіў марнасць спроб паразумецца з бацькамі, бо з усіх — гэта была адзіная «благополучная» сям'я. Амаль усе «баксёры» былі бязбацькавічы, калі не фармальна, дык рэальна. Не ставала сэнсу дапытвацца якасці выхавання ў мацярок, чые сыны даўно перараслі страх перад бацькоўскай дзягай. Некаторыя з хлопцаў мелі праблемы з міліцыяй, былі суджаныя, мелі ўмоўны тэрмін і хадзілі пад наглядам. Распачаўшы сур'ёзныя разборкі, маладых людзей наўпрост выправіў бы ў калонію, жывучы ў мястэчку — значыла на ўсе жыццё пагразнуць у міжсямейнай нянавісці, нажыць ворагаў. А педагогі? Мелі сваіх дзяцей і марылі палюбоўна разысціся з усімі ў свеце «баксёрамі».

Дыл запатрабаваў біцца. Адзін на адзін. У чым прычына такога «рыцарства»? Можа, дыпламатычныя Стасевы спробы павярнулі нейкі



рычаг агульнабрыгаднага «сумлення»? Ці хлопцы замысліліі праверыць самога Дыла? Ці той перад кодлай зняслаўіцца стыдаўся: пасля душэўных прапаноў сябраваць — нападаць зграйна? Назначылі час і месца. Дылу не спалася. Вінаваціў сябе. Як мог так пралічыцца — далі б у нос, як іншым — без цырымоній! Яго злосць палала нібы кнот у лямпе і мела зараз канкрэтны кірунак. Нянавісць то заглушала страх, то сама хавалася ад страху. Біцца Дылу даводзілася ўпершыню. Вось так: твар у твар. Што лічыць рынг, дзе правілы, суддзі, што лічыць «тычок у пысу», якім замацоўваўся яго аўтарытэт сярод нясмелых аднагодкаў, ды пры «цэлаахоўніках»..? Не звёў вачэй і Стась — да гэтай пары не замахнуўся рукой на ката ці сабаку, а тут — біць чалавека. Уяўляў сябе, як ад першага ўдару скруціцца ў абаранак і паваліцца на брудную падлогу школьнай прыбіральні, дзе мелася быць бойка. Раніцай блажыла, снедаць не сеў, бледны, затарможаны на ўроках, лічы, адсутнічаў. Спрабаваў падбадзёрыць сябе дзесьці прачытаным: «Страшна толькі да першага ўдару», — не памагала.

З ліста. Быць баязліўцам і баяцца ўдарыць чалавека — абсалютна розныя з'явы. Баязлівец — хто баіцца сваіх думак і трымаецца «калектыўнага падраду».

Самае складанае — заставацца сабой, не падпасці пад гнёт зграі…

Сярод драпежных позіркаў Дылавай каманды яны стаялі адзін перад адным: роўныя ростам, падобнага целаскладу, аднолькава разгубленыя, няўмела, кожны па-свойму, хаваючы страх, задыхаліся ад моцных удараў сэрца. І Дыл, не толькі Стась, адчуваў: вакол іх зараз няма сяброў. Бо сярод яго каманды не знайшлося б ніводнага, хто ўпотай зараз не насміхаўся з яго становішча. Не сілай і не розумам ён верхаводзіў. Кожны прыхавана бачыў сябе не горшым «каралём», перад якім скараюцца ўсе, аднак штосьці змушала слухацца Дыла…

А што, як вось тут, на іх вачах гэта *штосьці* зламаецца, перастане існаваць?..

З ліста. Гуртавацца зграйна, скарацца ўсякай сіле, як і жаданне самому стаць цэнтрам зграі, змушае страх перад адзінотай. Схільнасць адасабляцца ад уплыву чужой волі і ўлады, як перашкоды засяродзіцца на ўласных думках, дае голас веры. *Вера* — антонім адзіноты… Вось яшчэ з ліста, даслоўна: «Смелость — мерило, низвергающее с небес или возводящее в боги. Она же есть — мерило отсутствия или присутствия веры». А што такое *вера*?

Першы ўдарыў Дыл і ад першага ж удару ў адказ упаў у брудную смярдзючую лужыну, якую сам жа некалькі хвілін таму і нацурыў ра-

зам са сваімі паплечнікамі… Выратаваў званок на ўрок і крыкі: «Атас! Дырэктар!»

Неба не раскалолася, як здавалася, цуду не здарылася, як марылася. Не прыйшла і палёгка, бо Стась, хоць крыху і супакоіўся, ведаў: гэтым не скончыцца, гэта толькі пачатак. Тое ж думаў і таго ж баяўся Дыл. Змрочныя думкі забрадзілі і ў голеных галовах — схлынула першапачатковая затоеная радасць за Дылаву ганьбу, узамен прынесла мінтрэнгу і хваляванні. Раптам і сапраўды Дыл не здолее перамагчы? Тады хто згуртуе тусоўку, накіруе хлопцаў? Не выпадала пасмяяцца з Дыла. Так ці іначай Стася трэба было перамагаць… І хто б ні быў на яго месцы — і таго адолець неабходна, такі парадак…

Другая сутычка адбылася на пустцы, за майстэрнямі. На гэты раз Стася свідравалі напоўненыя злосцю вочы Дылавых паплечнікаў. І зноў упаў Дыл, падняўся і ўпаў, падняўся і…

— Годзе, — сказаў ён. — У мяне слізкія падэшвы.

Можа, і праўда — не паверыў у свае сілы Стась. На трэці раз яму загадалі з'явіцца ў клуб, на танцы. Пад музыку, сярод натоўпу, меркавалася, куды прасцей неўпрыкмет пераламіць ход бойкі і наваліцца купай. Стась мусіў ісці ў клуб, але страху ў ім ужо амаль не заставалася. Ён стаміўся разважаць, разлічваць, спадзявацца. Апошнія дні мала што разумеў і адчуваў. Ішоў, куды ішлося, рабіў тое, што прапанаваў наступны момант. Ён не бачыў іншага выйсця. Ведаў: перамагаць прыйдзецца яму, бо ні час, ні абставіны, ні асабістыя варункі не пераменяць становішча. Тут вызначаецца нешта на ўсё жыццё, і дапамогі прасіць нельга… калі яе табе не прапануюць. Адмовіўшыся біцца сярод танцзалы, Стась прапанаваў выйсці ў двор, павярнуўся да выхаду і нечакана атрымаў ззаду моцны ўдар. Біў Дыл жорстка, каб адразу вырубіць. Стась утрымаўся на нагах. На яго нахлынула злосць — біў, не думаючы аб правілах і забаронах. Ніхто з кодлы так і не пасмеў умяшацца. Збегліся дарослыя, разнялі. Дыл паціскаў Стасеву руку:

— Мір! Усё. Даволі. Разыходзімся сябрамі. Мір!

Стась паверыў, лётаў у эйфарыі, адчуваў шчасце: «Выстаяў! Без дапамогі!..»

Не быў бы Дыл сабою… Нездаволеная помста штурхала яго на вытанчаныя здзекі. Ён загадаў не звяртаць увагі на Стася, затое гугжылі кожнага, хто пасмеў выказаць радасць за Стасеву перамогу. Білі сяброў, аднакласнікаў.

Аднойчы да Стася прыбег прыяцель Вацык:

— Шурка пайшоў у суседнюю вёску да сваёй дзяўчыны, а Дыл збірае кодлу, каб пераняць яго па дарозе…



Не хацелася Стасю ісці — адмовіцца не змог: сябрамі былі з Шуркам. Яны пабеглі наўздагон, папярэдзіць і вярнуць Шурку дамоў.

Дыл замысліў не жартоўную помсту, таму і не хаваў намеру. Удала заманіў Стася ў пастку. Сам жа разумеў: яму, асуджанаму адзін раз на ўмоўны тэрмін, «свяціцца» нельга. Пераапрануты да непазнавальнага ў чужое, ён воддаль, з-за дрэў, даваў загады. Калі мацакі перагарадзілі хлопцам дарогу — ні Шурка, ні Вацык ім ужо не спатрэбіліся. Чалавек дзесяць акружылі Стася і накінуліся на яго без размоў — «псярылі ад душы!» Стась помніў толькі тры ўдары.

…Апамятаўся, калі Шурка з Вацыкам сіліліся яго прыўзняць. Стась тады яшчэ не ведаў — «сябры» падышлі толькі пасля таго, як кодла дала дзёру…

Стась ляжаў здратаваны ў снежнай мешаніне пад зорным небам, і было яму спакойна-спакойна, нічога не трывожыла (не разумеў, што на нейкі час страчваў прытомнасць) — сябры побач, усё скончылася. Цяпер Дыл назаўсёды адчэпіцца ад яго, зараз ён пойдзе дамоў і маці ні аб чым не здагадаецца — на ім не застаецца сінякоў… Стась не змог устаць…

Разважыўшы Дылава становішча і не жадаючы псаваць «показатели», участковы параіў згадзіцца на першы тэрмін, не чакаючы новага, які пагражаў стаць значна даўжэйшым. Дыла «схавалі» ў калонію…

Як жа не хацелася судзіцца! Але ехаць у раённы аддзел, забіраць акт, адпраўлены ўчастковым, было звыш недарэчным, асабліва пасля таго, як «байцы» наступным днём наведалі Стася ў бальніцы — мірыцца прыйшлі, ды не прамінулі здзекліва давесці: «А нічога нам не будзе! Калі толькі штраф заплоцім…»

Суд адбыўся. Пасля доўгай цяганіны ў раённую пракуратуру, нуднага чакання ў цесным калідоры аддзялення, касых позіркаў бацькоў абвінавачаных… Нягледзячы на тое, што з першых хвілін працэсу пацярпелы бок заявіў аб нежаданні пасадзіць маладых людзей, маючы намер пачуць тлумачэнне такіх учынкаў, адвакаткі відавочна запланавалі «перавыканаць узятыя на сябе абавязкі». Яны наперабой хвалілі харошых, простых, працавітых і паслухмяных… Больш таго, ва ўсім вінавацілі Стася і маці.

— Трэба было адразу звярнуцца ў міліцыю.

— Гэта калі — адразу? З садка, з першага, другога класа? Дык вось звярнуліся — вынік які? Нас жа і вінавацяць, а каб без сур'ёзнай прычыны?!.

Судовы працэс прайшоў без адзінага напамінку пра «галоўнага героя» — сапраўднага вінаватага. «Показатели надлежащего порядка в районе» не дазволілі псаваць нікому — усе выканаўчыя асобы, ад участковага, следчага да самога суддзі, рабілі выгляд, што агучанае пацярпе-

лым прозвішча ніякага дачынення да справы не мае. Ён жа, і сапраўды, не біў у той, апошні раз. Дылаў удзел змоўчвалі наўмысна. Судом быў прадэманстраваны фарс, сістэма фальшу і маны, навука, як пазбягаць пакарання… Адвакаткі дарапартаваліся да таго, што паставілі пад сумнеў нават медыцынскую даведку, «якую можна было і купіць». (Што праўда, то праўда! Дзяржаўным судом такая магчымасць дапускаецца! Нам даведку выдалі толькі пасля адказу на пытанне — хто біў? І калі галоўны доктар не пачуў сярод пералічаных прозвішчаў «гучных імён», перамяніў строгі тон на спачувальны. Дадаў: «Правильно, таких надо наказывать, а то они наших детей бьют». Дык, дарэчы, і пабілі. І «іхніх» таксама, крыху пазней…) Я заплакала, сын суцяшаў, сам ледзь стрымліваючы слёзы… але не ад крыўдных слоў «абараніцелек», яны заступаліся за такіх жа, як і ён, па сутнасці, «не зрэлых людзей», як маглі, як умелі… Гняла здрада…

Менавіта ад Шуркі і Вацыка (сын жа непрытомны быў) Стась дазнаўся пра падрабязнасці таго вечара. Пры бацьках і ўчастковым, а потым пры следчым яны не раз расказвалі, хто і як, колькі разоў наносіў удары, сціпла змоўчваючы ўласнае «недачыненне». Без сумневу сцвярджалі, што Стася білі нагамі па галаве, а самы накачаны сеў зверху на беспрытомнага і тоўк у твар локцем. А сёння… Сёння Шурка і Вацык прыехалі ў суд разам з Дылавай камандай. Сарамліва апускалі галовы, адказвалі:

— Не памятаем. Не бачылі. Адвярнуліся ў той момант…

Нават пракурор не вытрымаў:

— Хлопцы, як вам не сорамна?! Вось жа вашы подпісы, вашы словы, — ён зачытаў вытрымкі з пратаколаў.

— Не, мы не бачылі. Снег ішоў. Мы далёка стаялі…

Так скончылася шматгадовае сяброўства Стася з Шуркам. Скончылася не ад зацятай крыўды — Стась дараваў… Развяло жыццё. Шурку прызвалі ў войска, а Стась стаў студэнтам. Рэдка прыязджаў дамоў. Яны не раз бачыліся пасля таго, не цураліся адзін аднаго, але ў кожнага ўжо было сваё жыццё…

З ліста. Нярэдка бывае, што поспех на справе аказваецца толькі рэшткай былой *формы* жыцця… Сам жа *сэнс* яго, саспелы неўпрыкмет у новую якасць, пачынае разгортвацца нечаканымі з’явамі. Так і наша «часовая» здрада сабе. (Вось толькі адзін разок, зараз і больш ніколі! Толькі даб’юся жаданага, а потым буду самым чэсным і справядлівым.) Знаходзяцца апраўданні: абставіны, становішча, хвароба. Не будзе потым інакш, паследуе горшая і горшая здрада сумленню. Адзін раз куплены білет у бок ад святла ўцягне ў варонку непераадольнай энергіі. Непераадольнай таму, што сам адмовіўся ад дапамогі тых сіл, якія здольны перамагаць зло. Самае крыўднае — ні кроку (да жаданага, што і штурхнула на здраду) не будзе «за так аддадзена». Кожны мізэрны поспех прыйдзецца асобна аплачваць да той пары, пакуль не засведчыш незваротна — ты не выпадковы спадарожнік, ты і ёсць — сама цемра…

З ліста: «Вы отвергли мое предложение помощи, прекратили переписку, оскорбившись “кощунством рецидивиста”… Но жизнь — непостижима: самые простые явления она способна превратить в мистику, а невероятные события преподнести обыденно…»

У дваццаціпяцігадовым узросце трагічна скончылася жыццё Дыла… Шурка дажыў толькі да дваццаці двух…

Апошняя сустрэча Стася з Шуркам адбылася на летніх вакацыях. Сям’я наша мела вялікую патрэбу ў грашах, а Шурка намякнуў, што хацеў бы купіць «Масквіч». Стась надта шкадаваў машыну, яна дасталася ад бацькі, а таму — ад дзеда… Аўтамабіль лічылі ў сям’і шчаслівым. Праз дзедаву падслепаватасць «Масквічу» не раз давялося кульнуцца ў кювет, аднак машына прынароўлівалася не толькі зберагчы жыццё пасажыраў, а нават, пакуляўшыся, стаць зноў на калёсы… Грошы былі патрэбны — на тым і пагадзіліся: Шурка забраў «Масквіч». Праўда, як потым высветлілася, гэта не вырашыла эканамічную праблему сям’і — купец аказаўся неплацежаздольным. Шурка запознена папрасіў дазволу разлічвацца пакрыху, праз паўгода. Стась не прывык выракацца дамоўленага — машына засталася ў Шуркі. Шурка меў залатыя рукі: разбіраўся ў тэхніцы, не цураўся сялянскай работы, так што прыемна было бачыць, як «Масквіч» стаў яму ўва ўсім памагатым. Праз паўгода мусілі напомніць — прыйшоў час пачынаць разлічвацца. Шурка ўзяўся збіваць першую цану. «Дамова даражэй грошай!» — пакрыўдзіўся Стась і загадаў прыгнаць машыну ў гараж… Неўзабаве Шура ездзіў на другім, на чырвоным «Масквічы».

— Не… На нашай машыне ён туды не паехаў бы. Яна не павезла б яго туды…

— Можа, і так…

— Ты ж ведаеш, *якая* гэта была разумная машына! Памятаеш, як мы ледзь не трапілі пад цягнік? — напомніла я непрыемны выпадак.

У той дзень мы вярталіся з пляжа. Як на грэх, занадта весяліліся і так смяяліся, што не заўважылі сігналу на пераездзе. А Стась, яшчэ не спрактыкаваны кіроўца, пры пераключэнні хуткасці не справіўся з каробкай перадач (заўсёдная праблема «Масквічоў»). Машына заглухла на чыгуначных пуцях. Шчасце ў тым, што ніхто з пасажыраў не павярнуў галавы направа… Убачылі б цягнік, які «рукой падаць» рухаўся на нас,

паніка выврашыла б усё іначай. *Нешта* літаральна ссунула машыну з рэек, па якіх праз імгненне пранёсся састаў…

— Не, не павезла б наша машына яго ў тое месца. Дурань! Ад такой разумнай машыны адмовіўся!

— Чалавека няма, а ты…

— Ты і праўда дараваў яму?

— Быццам не ведаеш — сябрамі мы былі.

— Ведаю. Была сапраўдная здрада, а ты з ім — быццам нічога не адбылося…

— Мы пагаварылі… Я ўсё выказаў, што думаў.

— Ён зразумеў!.. Цябе ж з-за яго… Тады… Ты яго ішоў ратаваць.

— Не. Здрада — адно, а прычына не ў ім. Спаткалі б аднаго дзе-небудзь, тое самае было б, можа і горш, невядома. Прычына ім не патрэбна была.

Восеньскім лагодным дзяньком пайшлі чуткі: Шурка прапаў. На рабоце лічылі — захварэў, а родныя думалі — на рабоце «запарка». Спахапіліся — у гвалт! Сталі дапытвацца — высвятлялася, што ездзіў у начны бар на сваім «Масквічы». Здзіўляла, што машына, дарэчы, таксама яшчэ не выкупленая, стаяла ля дома, а Шурку з той ночы ніхто не бачыў. Прыяцель заблытана мармытаў, што машыну прыгнаў ён, быццам усю ноч праспаў п'яны ў аўтамабілі, нічога не чуў і не бачыў… Раніцай прачнуўся — Шуркі не знайшоў і паехаў дадому адзін на яго машыне… Шурку знайшлі. Спачатку чаравік, потым цела. У рачулцы, ля моста… Паводле медыцынскага заключэння выходзіла: не нажавое раненне, як падалося спачатку, калі непадалёку знайшлі і акрываўлены нож, стала прычынай смерці, а тое, што, цяжка паранены, ён доўга праляжаў у вадзе… Забойцаў хутка забралі. З наркатычнай непрачуханкі мала што патлумачылі. Казалі — ён прасіўся… маліў не забіваць…

— Ты лепш знаў Шурку, чым я. Мог ён сп'яну пачаць задзірацца, сам нарывацца на разборкі?

— Ніколі! Звычайна змрочны і маўклівы, ён наадварот рабіўся лагодным і прыязным, калі выпіваў…

З ліста: «*Вера* — не слепое чувство, свойственное отдельным личностям… Вера — высшая степень *знания*, естественный отклик души на видимый мир. Души, способной видеть, слышать, ощущать, понимать, принимать, чувствовать этот мир полнее и объективнее, чем это делают неверующие».





## НЕ ПРА НАДЗЮ…

Ёсць згадка: хутар, яблыня, сцежка, палі жытнёвыя ў абсяж, дзе слых адточваюць трэлі птушак; металічным строкатам конікаў прастора настройвае на касмічныя хвалі, кнігаўкай над меліярацыйным ровам просіць не забывацца пра душы продкаў. Гарачы водар квецені лугавых красак, якія сцяной усталі абапал вузкай крывой сцежкі — бяжыць у кавалёўскую царкву — «хрысціліся — таіліся, вянчаліся — хаваліся…» і неба. *Неба*, дзе зрок будзе практыкавацца на выявах зор, на штомгненнна зменлівых абрысах аблокаў — не наглядзецца ў блакітную бездань поўдня, у чорную прорву нянаснай ночы, у нізкае цяжкае неба восені, у трывожна-нервовую чырвань захаду, у прыветна-лагоднае, для ўсіх ахвярнае надзеямі, неба світанку…

У філосафаў сустракала думку, што чалавечае жыццё разгортваецца сярод шматварыянтных магчымасцяў, і ўсе дзейсныя і даступныя. Рука лёсу — не абцугі. Даецца выбар, магчымасць штосьці мяняць, пераўтварацца самім, ратавацца з лабірынтаў абставін… Страх перад невядомасцю перашкаджае карыстацца шанцамі, а яшчэ: ленасць пачынаць усё з нуля, сквапнасць страціць набытае, звычка хоць бы да якой, а ўтульнасці, адсутнасць жадання… жыць.

Ёсць працілеглая думка: не дадзена чалавеку і на кроплю вырвацца з акрэсленага кола. Хто пераступаў гэту рысу, ведае, якія сілы дрэмлюць, вартуючы круг. Такія сілы!!! Не будзі, калі не ведаеш навошта. Разамкнуўшы ланцуг, ніколі не вернешся ў наезджаную каляіну. Кожны крок мусіш пракладаць сам, па цаліне і навобмацак.

Пра Нэлю запытаў адзін чалавек, убачыўшы мелькам з салона аўтамабіля, як яна самнамбулай пераходзіла крыжаванку ўпоперак сігналу святлафора — дазнайся дзявочае прозвішча гэтай жанчыны. Няўжо можна так змяніцца?! Можна — усе мяняемся, проста збоку ўражвае мацней, чым уласны адбітак у дамашнім люстэрку…

Мужчыны да старасці не страчваюць жадання ацэньваць жанчын па прыгажосці цела — іх зразумееш: не дзеля сябе стараюцца… Як той казаў: «Вы-то свае адлежыце і ў шэсцьдзясят, а нам — паспрабуй выстаяць!» Стымул — не апошні крытэрый…

Каб любіць горад з яго мітуснёй, таўкатнёй, хуткасцямі, маштабамі, адзінотай «чалавечай адзінкі» ў людскім акіяне, у ім трэба нарадзіцца.

Сучасная глыбінная вёска, не створаная напаказ, — жудасная з'ява. Мутацыя сялянства, вытокавага патэнцыялу любой цывілізацыі, за савецкі перыяд дала буйныя ўсходы: беспрасветнае п'янства, дэградацыя і дэбільнасць… Нашы невялічкія гарадкі, мястэчкі — рассаднік коснасці, ханжаства, мяшчанства… скон духу. Галоўны рухавік фарміравання ў іх духоўнасці абываццеля — зайздрасць.

За доўгі час жыцця ў гарадскім пасёлку, хочаш не хочаш, трапіш адзін аднаму на вочы. Так і з Нэляй у нас: цеснае візуальнае знаёмства, лічаныя разы праяўленае моўным кантактам…

У росквіт маладосці Нэлю цяжка было не заўважыць. Лёганькая, зграбненькая, мініяцюрная фігурка Нэлі ярка кантраставала з правінцыйным «дзяржстандартам». Нават не абцяжараная лішкам інтэлекту, яе прыцягальнасць не аддавала шэрасцю: адкрытая, непасрэдная, рэзкая, ды не злая, простая, але не прымітыўная. І гук «р» яе, грасіраваны на французскі манер, не псаваў уражання, дадаваў пікантнасці. Тыя самыя рысы зараз паспрабуй дэканструктаваць так, каб пры ўсёй іх наяўнасці атрымаць поўны антыпод былой прыгажуні Нэлі… А патрэбна ўсяго толькі пераназваць: *танюткае* — хваравітай худзізной. Былую *лёгкасць* тых жа сарака-пяцідзесяці кіль яе вагі прыйдзецца напоўніць такім невыносным душэўным цяжарам, які здолее ператварыць *зграбнасць* у робатападобнасць. Гэтыя метамарфозы — вынікі адной, але самай важнай перамены — страты агеньчыка вясёлай адзірлівасці ў вачах і ўзамен прыдбаным атупелым ад болю мозга і душы позіркам «у нікуды».

Няшчасці, што здараюцца з людзьмі, магчыма, дачасна нікім не падрыхтаваныя? Спатканыя на бездарожжы, куды чалавек збочыў ад свайго лёсу? А можа, крах жыцця прыходзіць, калі не на тое спадзяёмся?

«Напішы пра маю Надзю…» — Нэля прасіла не першы раз. Напомніць хацела, ці сама запамятала, як падыходзіла да мяне на беразе возера, дзе ўчарнелая, ссохлая на шкілет яе постаць, горам «у крык» балючыя вочы палохалі жудаснай недарэчнасцю сярод дагледжаных млявых цел бесклапотных загарэлых адпачыванцаў. На фоне радаснай сіні, чэрвеньскай спякоты, прыбярэжных райскіх шатаў успрымалася ненатуральна, бы жалобны крыж у чорным убранстве на хмельнай вясельнай вечарыне. На пляжы і зараз, у мястэчковай краме, сярод паліц з бананамі і жуйкамі, за прылаўкам якой мне давялося пастаяць пару тыдняў і куды штовечар скіроўвала па дарозе дамоў Нэля, каб набыць пачак недарагіх цыгарэт з запальнічкай — на ноч хопіць… голасам без пачуццяў, без інтанацыі просьбы, ды і не да мяне зусім, да *таго*, каго апошнім часам настойліва патрабавала ў субяседнікі, прамовіла адыходзячы, у самых дзвярах: «Напішы пра маю Надзю…» І на пляжы, і тут змоўчала адказ, бо знала — не напішу… І зараз — зусім не пра Надзю…

Геніяльнаму пісьменніку пад сілу апісаць трагедыю народа, хроніку гістарычных падзей, карціны прыроднай стыхіі, сямейную драму. Шмат што паддасца таленту ад літаратуры. Не сустракала здольнага жывапісаць крах адной чалавечай душы… Не пошукі і памкненні «героя нашего времени», не страту надзеі, веры, любові, не ціхую тугу, звыклага да бядоты Івана Афрыканыча, а самы банальны крах чалавечага жыцця… Калі ўчора жыў, весяліўся, клаўся ў ложак з жартамі, а раніцай прачнуўся і аказаўся між *тым* і *гэтым* светам.

Той яшчэ не прымае, а гэты самому ўжо не патрэбен… За факты з лёгкасцю бяруцца дэтэктыўшчыкі, ды ў іх яны вымалёўваюцца такімі цікавымі і займальнымі, быццам само чалавечае жыццё не каштуе і дзіркі ад абаранка… Каб жывапісаць, падобнае трэба пережыць. Перажыўшы, пісьменнікамі перастаюць быць…

А прылавак — месца, стоячы за якім, хутка заўважаеш: людзей падманваць не сорамна.

Разам з Нэляй вадзілі маленькіх дачок у адну групу садка. Так што ейную Надзьку я знала яшчэ ружавашчокім кірпаносым «адуванчыкам». Ад першых гадоў выдавала на «дзелавуху», так назавуць у нас завадатара, актывіста, схільнага паўсюль верхаводзіць і перадкаваць. Спрыт чытаўся ва ўсіх яе замашках і памкненнях. Адмалку з характарам, зухаватая, бойкая… Такія заўсёды — любімцы настаўнікаў, у такіх, бясспрэчна, равеснікі прызнаюць лідара…

Наняты вадзіцель з аўтамашынай, я ды Нэля… гэтак мы везлі дачок-выдатніц у нарачанскі лагер «Зубраня». Першае больш-менш блізкае сутыкненне з Нэляй. Пасля паездкі гэта жанчына па-ранейшаму засталася мне прыемнай, хоць і аказалася з тых, хто «я гавару — што думаю». Ну не пашанцавала чалавеку з залоўкай… Мне дык аднойчы выхаваная адукаваная жанчына, старэйшая за мяне гады ўсяго на чатыры, сястра майго мужа, адказала: «А разумны чалавек перш падумае, а пасля толькі скажа».

І адбіла жаданне ганарыцца дурнаватай звычкай, якая выдае нявыхаванасць, нястрыманасць, глупства.

Мы ўсю дарогу мусілі слухаць, якая Нэля першая ў свеце прыгажуня, як яе любяць, праходу не даюць маладыя хлопцы, як яна і дня

не пражыве без сваёй Надзькі, ну проста загнецца за гэты няшчасны лагерны месяц…

Турцыя, Мальта, Кіпр… Пра такія геаграфічныя кропкі нашаму чалавеку ў тыя гады ведаць было без патрэбы. Крым, Сочы, Анапа… Ды не была яна нідзе, як і большасць яе знаёмых. На тое не разлічвала палітыка дзяржавы: каб савецкі чалавек мог пазнаёміцца з «іншым» ладам існавання, гэта перашкодзіла б яму ўспрымаць жыццё, як па блату адрэзаны кавалак шчасця. Нэля ўпершыню выбралася з хутара ў горад пасля сёмага класа, аб’елася марожаным — «аж шаснаццаць пачак па шаснаццаць капеек: дрэнна было, ванітавала, на ангіну перахварэла…» Затое ўражання — на ўсё жыццё. Роўна, як для большасці савецкіх мужчын — адзіны ўспамін і гонар, што ў арміі служыў. Папросту больш няма чаго ўспомніць. Адсюль і нянавісць да тых, хто не лічыць галоўнай годнасцю чалавека вайсковую службу. Здагадваюцца: тым вядома штосьці больш значнае за армію. Потым Нэлю вазілі арганізаванай паездкай ад прадпрыемства ў цырк з абавязковым наведваннем музея Вялікай Айчыннай. «Вунь як у вайну народ гараваў. Няма чаго з жыру бясіцца!» Дык і мне прыпомнілася такая культпаездка ў Ленінград, калі ні адзін мужчына не выйшаў з аўтобуса за чатыры дні вандроўкі наведаць музей ці галерэю, хіба толькі «да ветру» — адпілі ўвесь тэрмін культурнага мерапрыемства. Жанчыны больш рупныя, між чэргамі ў магазінах паспявалі і праз Эрмітаж прабегчы.

На зваротным шляху Нэля прыдбала ў нарачанскай краме бутэльку, запрашала да сябе «пагараваць» пра разлуку з дзецьмі. Не кампанейскі я чалавек…

Мела непрыемнасці з гэтай прычыны: мяне цураліся, я пазбягала людзей, траціла прыхільныя адносіны, праслаўлілася адшчапенцам… Так адбылося і ў той раз. Хацелася бліжэй пазнаёміцца з Нэляй: цёплая душа адчувалася, і людзі цікавяць мяне — п’янак не цярплю. Да таго ж не было часу мне «гараваць пра дзяцей» — яшчэ двое дома чакалі.

«Бацькоўскім днём» у сярэдзіне лагернага тэрміну мы з Нэляй наведвалі дачок. Як дзецям хочацца дагадзіць нам! Яны пад кальку пераймаюць нашы паводзіны, баяцца пакрыўдзіць бацькоў сваёй неадпаведнасцю — а мамы ж самыя найлепшыя ў свеце!

Гэтым разам слухалі Надзю ўвесь адведзены пад сустрэчу час. Усе пагалоўна лагерныя хлопчыкі паўлюбляліся ў яе. Астатнім дзяўчынкам выпадала толькі зайздрасць…

Ледзь не запамятала. Там, на пляжы, Нэля яшчэ расказала сон: «Сяджу гэта я на нашым востраве ў кампаніі… ну, ты ж знаеш — я п’ю. Гляджу — ад возера Надзька мая ідзе… А чарната!!! А вецер!!! Яна міма мяне праходзіць, я да яе: “Надзя, Надзя!”, а яна такімі халоднымі вачамі глядзіць, аж мароз па спіне. “Я — не Надзя…” — “Надзя, ты што? Хадзі да мяне,



дзетка…” — “Я — не Надзя. Ты забылася… Твая Надзя прыгажуняй была, са сцэны спявала, на медаль вучылася… А я — *ніхто*. Ты не дала мне нарадзіцца. Вось і няма тваёй Надзі, а мяне ты забіла…” Гэта ж я аборт зрабіла. Угаворвалі мяне — пакінь, неяк выгадуецца, а я ўжо нажылася тады з мужыком-п’яніцам — нашто, думала, яшчэ адно малое. Мой праз п’янку неўзабаве пад машыну папаў, ды і пахавалі. Лічыла: зусім разумна зрабіла — ну, а што, каб цяпер адна з дзвюма немаўлятамі засталася?! А як жызня ўсё перакруціла!»

— «Ветер с моря дул, ветер с моря дул, нагонял беду, нагонял беду», — спявала Надзя пад гітарны акампанемент. Слухаюць і спяваюць такія песні ў сямнаццаць — актуальна. У сямнаццаць кожны дзень здаецца драмай. Зал узрываўся авацыямі, патрабавалі «на біс». Надзю любілі…

Выпускнікі адчулі сябе дарослымі. Хлопцы адзін перад адным дэманстравалі пераходнаўзроставы «пафігізм». Збягалі з урокаў, сядалі на лаву перад дамскім туалетам і пачыналі паляваць на сарамлівых (яшчэ не перавяліся такія), каб «паржаць і пагнабіць», калі тыя па дазволу выйсці мусяць, туляючыся, паўз іх нахабна-цынічных позіркаў прабірацца ў туалет. «Несучасныя» хавалі вочы і не ведалі, куды дзецца, — рукі-ногі перашкаджалі рухацца ад сарамлівасці. А Надзя? Упэўнена цокае абцасікамі па калідоры, не зважаючы на яўную «засаду». Аднак і яе спыняюць сальныя смяшкі і жарцікі. Падышла да хлопцаў, паставіла ножку на беражок лавы і акуратненька націснула на краёчак. Іх многа, але «дайте мне рычаг — и я сдвину шар земной». Надзя — выдатніца! Кавалеры — дагары нагамі на падлозе, а яна, бы нічога не здарылася, рушыла сваім напрамкам. Зваротным ходам Надзя зарабляе гучныя апладысменты, усміхаецца ў адказ. Закаханыя вочы з захапленнем цікуюць да самых дзвярэй класа. Шкада, збеглі з урока, а маглі цішком да званка назіраць за ёй.

Ну як не закахацца, калі табе сямнаццаць?! Калі ты ўжо зусім дарослы. Уся твая істота чакае, жадае, прадчувае незямное каханне. На векі вечныя, на ўсё жыццё, на вернасць, на шчасце, на радасць да самай смерці… І ён тут як тут!

Каралевічам, ды па вуліцы пасёлка. Дэсантнік! Толькі што дэмабілізаваўся з войска. Прыгожы, мужны, самаўпэўнены, гжэчны (з табой!), аднак здольны позіркам адным паралізаваць няўмелага кавалера, калі той насмеліцца пасупернічаць. Табе ўсе зайздросцяць. Каму б не хацелася быць каханым… да страты розуму…

Адно тое, што Рамана не стрэнеш у забягалаўцы за бутэлькай «чарніла», як многіх іншых, і не самых апошніх, хлопцаў, заслугоўвала ўвагі. Пры той «жызні», што вакол п’юць бацькі, суседзі, знаёмыя, бабулі-дзяды,

сёстры, браты, аднакласнікі. Хоць ёсць такія праявы чалавечай натуры, такія таямніцы псіхікі, у параўнанні з якімі п'янства, калі ціхае, — хвароба дзіцячая…

Каб стаць патэнцыйным кавалерам, цяперашні хлопец павінен ехаць у замежным аўто. А ў наш час дастаткова было мець фірменныя джынсы. Можна ношаныя-заношаныя, перакупленыя, ды яшчэ поліэтыленавы пакет… Самы звычайны, іх у СССР тым часам яшчэ не ўмелі штампаваць. У фарцоўшчыка каштаваў восем рэ, што ў пераліку на хлеб значыла пяцьдзясят боханаў. Нават не зважаючы на ўсе пеpажытыя інфляцыі, дэнамінацыі, абвалы і крызісы, чыста матэматычна, і пры дапамозе тых жа буханак, атрымаеш «нехилую зарплату» за паўметра поліэтылену з надпісам «Левайс» альбо «Мальбара». На ўсе прыбамбасы заўсёды будзе попыт, бо ў дэфіцыце самадастатковасць.

Зайздросцілі Надзінай радні аднасяльчане. Гэтай малой канаплянцы толькі пальчыкам трэба было кратануць — і такі дэфіцытны, такі неабходны ў гаспадарцы камбайн ездзіў па полі, абрабляў гектары шчаслівых вяскоўцаў, за якіх замовіла перад Раманам Надзя. Бацькаў камбайн, а той сына разумеў, давяраў тэхніку, хоць да самога гаспадара дaступіцца — чарга — краю не відаць.

«Ты не паверыш мне, — не я гэта раблю! Клянуся табе! — бажылася Нэля. — А яны мяне другі раз павесткай выклікаюць. Участковы страшыць: калі зноў разбуру — прыцягнуць да адказнасці. Дык я ім разанула: калі вы да мяне яшчэ раз дачэпіцеся, то ўжо точна — узарву вашу мянтоўку і памятнік той разам. І хто гэта Раманава надгроб'е разбурае? Пэўна, Надзькіны ўхажоры…»

І ў наш пасёлак вярнулася мода на рэлігію. Пайшлі маліцца ў былы пункт прыёму шклатары. Пад храмы ахвяраваліся старыя будынкі віннагарэлачных магазінаў, не па той прычыне, што народ піць кінуў, — новыя «заведения» ўзвялі пад румачныя: сучасныя, утульныя. Вярталася мода і на святы, не толькі чырванасцяжныя. Тры канфесіі завяліся ў мястэчку, афіцыйна зазывалі пад сваё крыло, абяцаючы рай толькі сваім накірункам, выкрывалі цемрашальства альтэрнатыўных. Чужой рэлігіі заўсёды баіцца той, хто не ведае, каму моліцца. Рэлігія — адзін з напрамкаў культуры чалавецтва, праява агульнанароднай духоўнасці, выпакутаванай яго лепшымі, асобнымі адзінкамі…

Мой ранішні сон не прадвяшчаў нічога непрыемнага, не абяцаў ніякіх жудасных навін ні настроем, ні сімваламі, ні вобразамі. Быў голас: «Зараз



“евангелісты” павіншуюць Падсвілле з Вялікаднем. Ужо да цябе ідуць», — і ў дзверы пастукалі: «Чулі?! Надзю задушанай знайшлі на беразе возера, пад дрэвам ля царквы».

…На зямлі, куртачка пад галавою, рукі зложаны на грудзях, сукенка акуратна распраўлена… Маленькае сямнаццацігадовае дзеўчынё. Жыццё абарвалася прафесійным прыёмам дэсантніка. Пералом шыйнага пазванка.

Фрэйд шмат даведаўся з прыроды сноў, але, як усе людзі, меркаваў па сабе і заключыў, што прарочых сноў не бывае. Выдатна апісаўшы тэхніку іх узнікнення ў нашай падсвядомасці, ён «выплеснул ребенка из воды» — спісаў усе сны на сэксуальны інстынкт. Фрэйд упусціў сэнс, нават не паставіў пытання: навошта так стараецца наш розум, не дае спачыць нам — «пасите овец своих денно и нощно»… Навукова некарэктна лічыць усіх людзей аднолькавымі.

Калі аўтар быў няздольны бачыць прарочыя сны, гэта не дае яму права рабіць выснову, што іх не бывае. Не можа дальтонік быць геніяльным жывапісцам, як тугавухі ад прыроды стаць музыкантам (Бетховена — не лічыць! Ён аглух з гадамі, да таго ж — меў ідэальны, абсалютны слых), тугадум не назавецца філосафам. Мы ўсе розныя. Хтосьці ледзь складае пальцы рук у адну лічбу, а каму дадзена адкрываць законы светаўтварэння. Хтосьці не адрознівае трох колераў, а ёсць майстры карыстацца мільёнамі адценняў і паўадценняў. Таму, хто ніколі не любаваўся шумам дажджу, голасам ветру, не зразумець Божых пасланцаў. «Познавший Бога уразумеет иные языки…» «Иные языки» — не тлум стыхійнай слоўнай абракадабры, выпнутай, упершыню пачуўшы пра Бога, з эйфарычнай утробы цёмнай істоты пад час малельнага экстазу. Гэта векавечна прысутныя ў свеце «*миры муз*», здольныя быць нам на кропельку прыадчыненымі ахвярным жыццём геніяў, анёлаў, тытанаў праз мову музыкі, паэзіі, танца, літаратуры, тэатра, навукі, філасофіі… Толькі пазнаўшы Бога, можна адрозніць «иные языки» ад «бразготкі пустой смакоўніцы». Няма навукі іншай адчуваць усёй істотай свет, як навучыцца самому сябе пераўзыходзіць.

Пасля года сяброўскіх адносін знікла лёгкасць першых вечароў. Галава не кружылася ад чакання сустрэчы, выпадковае сутыкненне рук не апякала хваляй пачуццяў. Даўжэй затрыманы позірк ва ўпор больш не тумaніў вачэй пад прыспушчанымі веямі. Усё часцей па Надзіным твары прабягаў халадок і калючая адчужанасць. Сышла эйфарыя пераможнай гульні ў дарослую жанчыну, бо само сабой падкралася дарослае жыццё і… ў кадрах яго ўяўлення не знаходзілася месца Раману. Надзя бачыла сябе студэнткай сталічнага ўніверсітэта, а перспектыва была абсалютна рэальнай, толькі засярoдзіцца і сканцэнтравацца. Клас як ніколі здружыўся пад фініш. Сумесныя планы, перажыванні, апошнія ўрокі, білеты,

экзамены прынеслі ў адносіны равеснікаў цеплату і ўзаемаразуменне. «Свае» здаваліся самымі блізкімі і роднымі: развітвацца не хацелася ні на хвіліну — разам на возера, у лес, на дыскатэку…

Раман пелегаваў самыя сур'ёзныя намеры. Змена настрою і холаднасць Надзі нядобра адазваліся ў ім. Паспрабаваў спакойна ўталкаваць — лепшага хлопца, які б *так* кахаў, ёй не знайсці. Запатрабаваў ад аднагодкаў трымацца на адлегласці ад яго дзяўчыны. Гэта з яе характарам?! Пачалося жорсткае супрацьстаянне — хто каго. Здаўся, канечне ж, Раман. Прыйшоў «па рэкамендацыі Клары Цэткін» Восьмага сакавіка з кветкамі. Як заўсёды: цвярозы, акуратны, прычэсаны, з белым шалікам пад чорны каўнер новай стылёвай пары… «Хто каго любіць, той таго чубіць…» Выбіў шкло ў дзвярах (Надзя хавалася на кухні), кідаўся біцца да сямейных. Сітуацыя выйшла з-пад кантролю, Надзю ён губляў. Навалілася жудасная скруха, дэпрэсія. Ні днём, ні ноччу не давала продыху. Раман часамі сценюгаўся ля школы толькі дзеля таго, каб ганарлівае дзяўчо, хмыкнуўшы, прабегла міма. Некалькі разоў было — хапаў за танюткую руку і сілком адводзіў «на разборкі». Яго зломлены дух то згаджаўся, здавалася, на любыя ўмовы: паступаць? — паступай, едзь вучыся, паедзем разам — буду працаваць, зарабляць грошы, здымем кватэру… То ўскіпаў бескантрольнай злосцю, пагражаў, папярэджваў аб самым страшным. Надзіны гарызонты далёка збягалі ад Раманавых арыенціраў. Сям'я? Муж? Назаўсёды застацца тут, дзе людзі здольны сотні разоў смяяцца з аднаго і таго ж анекдота, дзе ўсё жыццё жартуюць парай завучаных фраз з рэкламы, дзе нават чыноўнікі могуць павітаць адзін аднаго: «кергуду!» — «бамбарбія!», а выкладчык мовы і літаратуры без сораму назаве парожнюю поліэтыленавую бутэльку з-пад напітку «хершынай». Яна без пяці хвілін студэнтка! У яе жыцці ўсё толькі пачынаецца: навука, лекцыі, заняткі ў лабараторыі — вось што для яе. Думкі пра Рамана з'яўляліся толькі пад прымусам з яго боку і псавалі настрой. Ганарліва-задзірыстыя вочкі Надзі напаўняліся здзеклівай атрутай. Не пакідалі і саломінкі надзеі на паратунак у віры мутнага водавароту, у якім ужо шчупальцамі спрута абхапіў Раманаву душу змрок і адчай: круціў, круціў, высмоктваў радасць і волю, не даваў апамятацца, супакоіцца, абыцца, абвыкнуцца…

Мы, свабодныя і прыгожыя, інтэлектуальныя і цікавыя, вясёлыя і ўпэўненыя, робімся нібы звязанымі, нямеем і губляемся перад тымі, каго любім, ды не адчуваем прыхільнасці. Пастка! Так анёлы даюць зразумець — не тваё… Любоў — святло, радасць, спакой, калі ж душа выкручваецца — ёй дрэнна, яна пратэстуе.

Па завядзёнцы кожны год дружбаны Рамана шырока і гучна адзначалі сваё найпершае свята — Дзень ВДВ. Раман ужо знаў, як сустрэне



яго, і ні ад каго не ўтойваў. Парадная форма ляжала напагатове: «Пакладзіце ў труну». — «Дурань!» — адмахваліся, не верылі сямейныя. «Кінь бясіцца! — смяяўся, не прымаючы ўсур'ёз, сябар. — Адна дзеўка ў свеце! Паглядзі, колькі прыгажунь — любая рада табе будзе». — «Адна! І будзе маёй!» — прыпячатваў Раман, адводзячы цяжкі позірк чорных вачэй…

Інтуіцыя — з вышэйшых форм логікі. Здольнасць імгненна рэагаваць на любую інфармацыю, дзякуючы генетычна назапашанаму вопыту. Яна не слугуе, калі на яе не зважаць…

Да дня дэсантніка дажыць не падавалася магчымым — сілы канчаліся. Было б за мяжой цярпення вытрымаць адсутнасць Надзі ў час уступных экзаменаў.

Дэпрэсія — не новая хвароба — заўважаць сталі нядаўна. Не магло існаваць хваробы органа, якога не прызнавалі ў наяўнасці: душы. Па тэорыі прычынна-выніковай сувязі дэпрэсія — спадарожніца сямі смяротных грахоў: зайздрасці, маркоты, ленасці, пралюбадзейства, злосці, сквапнасці, абжорства. Яна пачынаецца прыемна, жаданнем пашкадаваць сябе, паўпівацца тугой, пагнявіць лёс незадаволенасцю… Мы прыходзім у праяўлены свет, несучы з сабой уяўленне аб ідэальнай форме існавання, з якім параўноўваем рэчаіснасць, і застаёмся ў крыўдзе на жыццё. Адкуль нам вядома *іншае*, па якому заўсёды сумуем? У дэпрэсіі каварны, вераломны характар. На першых праявах, прыемных і салодкіх, яна паддалася б адпору, калі б замест шкадавання падвергнуць сябе жорсткай сумленна-разумовай рэвізіі, папросту — пакаянню. Наступная стадыя хваробы замыкае кола парушэннем арганічных працэсаў цела, што ў свой час, нібы снегавы ком, абрастае новымі праявамі хваробы душэўнай, якія патрабуюць новых і новых перамен у фізіялогіі арганізма. У чалавека яшчэ ёсць непрызнаны «орган» — той, які і адзін у полі воін, — *дух*. Калі душы не маем (па сённяшні дзень спрачаюцца, колькі яна важыць, калі толькі ёсць), то ўжо дух — зусім з галіны фантастыкі. Само слова ўжываецца ў літаратурна-побытавым сэнсе, аднак ён і блізка не бываў там, дзе і што ёсць *дух*. Хто завісаў над безданню — разумее: толькі дух ёсць тое, што нам даецца незваротна.

На дыскатэку пайшлі класам. Перад тым пасядзелі за сталом, выпілі. «На сёння назначана галоўная разборка», — некалькі разоў паведаміла Надзя, але праз смех і гоман ніхто не звярнуў на яе словы чаканай увагі, да таго ж за апошні час усе прывыклі да зацягнутага рамана. Пайшлі ў клуб. Ля парку абазначылася знаёмая постаць. Раман выйшаў з цемры, схуднелы, пануры, змрочны… Параўняўся з Надзяй, тая рашуча накіра-

валася да яго. «Я даганю», — кінула сябрам. Пара спусцілася да возера ў густы зараснік алешніку.

Недалёка ад возера, у старожцы харчовага прадпрыемства, па начах, кожны сваёй чарадой, сярод іх і маці Рамана, неслі службу вартавыя. Жанчына выйшла ў двор паслухаць, як гуляе моладзь. Ля царквы ўскрыкнула дзіўная начная птушка, незнаёмая і сумная… Адзін раз, другі… Цішыня… Падалося?

Праз нейкі час Раман заходзіў у танцзалу, углядаўся ў твары вясёлых аднагодкаў, шукаў меркаванага саперніка — не знайшоў…

— Нэля, спіш?
— Сплю…
— А ці дома твая Надзя?
— Зараз гляну… Няма. Учора Вялікдзень святкавалі — недзе заначавала…

Крыжык, які не здымала з цела, чамусьці ўпершыню застаўся ляжаць на палічцы… Забылася, а можа, ланцужок не пасаваў з дэкальтэ…

Нэля не плакала ні ля царквы, дзе пад дрэвам, ля плота, ляжала халоднае цела яе дачкі (здалёк было відаць, як білі Нэлю сутаргі. На хвіліну адпусціць — перавядзе дух і зноў, нібы да электратоку падключаецца — калоціць, скручвае, выбівае з чалавека апошнія прыкметы былога жыцця), ні дома, ля труны, ад якой не адыходзіла і так сюррэалістычна-гасцінна запрашала кожнага, хто заходзіў у дом. Расказвала-пераказвала, нахваліцца не магла сваёй дачушкай. Тры дні, бы ў маўзалей, цякла няспынная чарга, дзверы не зачыняліся, так на плячах, перадаючы адзін аднаму, і данеслі труну да кладоў… Хто знае цану слязам, шаптаўся: «Не ачомаецца Нэля…»

У сырым цёмным пад’ездзе шматпавярховага дома гулялі тры дзяўчынкі гадоў дзесяці. Выпадкова гасне святло. Злосны мужчына, мажны, нібы з гліны збіты мацак, выходзіць з кватэры паглядзець у шчыт. Дзяўчынкі падаліся яму вінаватымі. Ён б’е адну з іх пад дых: за якую няма каму заступіцца, бо ні маці, ні бацькі не мае — не жывуць з дачкой… Гэта было даўно…

Той мужчына прыязджаў на бераг возера на веласіпедзе, глядзеў на Надзю: «Усе ж такі зрабіў сваю работу! Каб ты дамоў не вярнуўся!» Разгублены, забыўся пра ровар, вяртаўся па яго… Ён прыходзіў да труны, у якой ляжала прыбраная ў нявесту дзяўчынка, стаяў на каленях, галасіў, маліў даравацъ… І ў яго кватэры тым часам ляжаў нябожчык. Рамана знайшлі апоўдні тым жа днём у сваім гаражы, пад столлю, на вяроўцы…



Бацьку — сына хаваць, дачку — маці…

Яшчэ на пляжы Нэля гаварыла: «Аднаго б хацела — прыйсці ў дзетдом, стаць у дзвярах, пазваць: “Надзя!”, — якая адгукнецца, тую б і ўзяла… ды хто ж мне дасць, п’яніцы».

Нэлі не было сарака…



## НЕ ПРА ЛЮ…

Эфект Гало — так называецца тая з’ява, апошняя загадка. Больш ніякіх таямніц. Здавалася: карона чорная, трывожная вакол асляпляльна пульсуючага сонца на рэдкасна ясным небе можа значыцца толькі адпаведным прадвесцем. Так меркавалася запачаткаваць апошняе апавяданне. Апошняе не толькі ў нізцы «Не пра Веру, не пра Надзю, не пра Лю…». *Трэці закапаў свой талент у зямлю.* Ёсць адно слова — яно сказана, ёсць адна кніга — яна напісана. Усе астатняе — «суета сует», пошукі формы, для не намі адкрытых ісцін…

Адно слова, адна кніга, а цемра бясконца перайначвае іх біблейскае значэнне, і мы ўжо не здагадваемся пра іх першародны сэнс. Што было *сочувствием* — мець адны пачуцці з табе падобным у радасці і ў горы, стала шкадаваннем чалавека, калі яму горш, чым табе, — радавацца за іншага няпроста. Што было *презрением* — убачыць у сабе падобным найлепшае: «презрел Бог на Авеля», стала праявай нянавісці і брыдоты, бо лепшае бывае толькі ў сабе. Блытае і блытае хаос сэнс *слова*, каб не маглі адрозніць добрае ад злога, любоў ад нянавісці, праўду ад крыўды, *яго* ад не яго…

Каб адрозніваць, трэба мець свабоду выбару, каб любіць, трэба ўмець знаходзіць *яго* ў цемры, каб пазнаць, трэба *са*твараць, быць з ім за адно.

Сон, які доўга не паддаваўся асэнсаванню, раптам раз’ясніўся. Ніхто не запальвае свечкі, каб паставіць пад збан. Знайшла закапаныя пад зямлёй два скарбы: безліч абразоў! Яны павінны свяціць людзям — усім, вядома. Поле, чорныя скарбы, на асвятленне якіх патрабуецца жыццё. Я стаю сярод ночы. *Страшна*! Напалохалася, пачала хаваць іх, каб ніхто не ўбачыў. «Трэці закапаў свой талент у зямлю…»

Бяссонніца крэсліць межы між *пад* і *свядомасцю*, ты не заўсёды адрозніваеш сон ад яўнасці. Твае начныя паходы ў падсвядомасць касымі

позіркамі блізкіх і знаёмых атрутна намякаюць на перамены псіхічнага стану. Адным дадзена бачыць святло, другім — праз цемру. Ты даеш сабе зарок: Больш ніякай творчасці! Звычайнае нармальнае жыццё. «Трэці закапаў свой талент у зямлю».

*Прости меня, Господи!*
*За все испытания, не посланные Тобой по ничтожности моей.*
*За великую гордыню, призывающую Тебя в собеседники.*
*Прости за рассуждения о Тебе, за неоправданные надежды.*
*За несвершённые дела, за тщетность прожитых дней.*
*За непонимание сути своей, за жалость к себе, слабость и безволие.*
*За мерзость, полонящую душу, когда забываю о Тебе.*
*За желание получать, за жестокосердие, сладострастие.*
*За эгоизм и суетность, праздность и тщеславие, попустительствующие греху…*

Звычайнае нармальнае жыццё? А тыя, што чакаюць промня, цалуюць рукі ў сне і палохаюць, палохаюць. Не трэба цалаваць маіх рук! Вы нябожчыкі! — Мы тут лепш ведаем, каму рукі цалаваць. Ты зноў баязліва і няўмела спрабуеш прыадчыніць дзверы, упусціць промень — шукаеш фарбы, запісваеш думкі.

«Дачушка, баюся, Зладзей перахрысціць тваю душу…» — у сне хвалюецца мой памерлы бацька… І я гэтага баюся ўсё жыццё, тата, але тады б гэта была ўжо не *Я*.

У першым класе з намі вучыўся Славік Альхімовіч. Маленькі худзенькі хлопчык з вялікімі сумнымі вачамі. Ён часта без прычыны смяяўся. Чым больш смяяўся, тым больш сумнымі рабіліся вочы, пад канец цяжка было зразумець, смяецца ён ці давіцца ад слёз, якія бобінамі ссыпаліся па карэлых шчоках. Міміка твару: вочы — пакутавалі, голас, вусны — смяяліся. Ад такога блюзнерства дзеці ў класе рагаталі да ўпаду. Славік рос без мамы — памерла, бацька прывёў у дом маладую мачаху. Аднакласнікам нам у тым узросце да яго асабістай драмы было «па-леваму». Куды большы ўплыў на клімат адносінаў мела наша настаўніца. Мы адчувалі, як яна «любіць» Славіка за падрыў дысцыпліны. Скардзілася бацьку.

Аднойчы падглядальная дзірачка, такія былі паўсюль, у дзвярах нашага класа зацямнілася. У клас уварваўся незнаёмы мужчына, падбег да парты Славіка і з размаху моцным кулаком саданууў хлопчыка ў твар, аж галаву адкінула назад… Славік і тады не заплакаў, захінуў твар рукамі, утуліўся ў парту, праз шчыліну на падлогу пацёк барвовы цягучы ручаёк. Аднавокая Рыма Фёдараўна здзіўлена таращчыла жывое вока, бы філін з



буквара. Славіка ў хуткім часе здалі ў дзетдом, толькі тады яна з палёгкай уздыхнула.

Славік слаў нам адтуль цёплыя пісьмы, можа, іх ён таксама, як і мы адказы, пісаў пад дыктоўку выкладчыка…

*Тебя я вижу во всём, Господи!*
*Ты — единственная любовь моя,*
*Свет жизни моей, восторг разума.*
*Неиссякаемый источник радости сердца!*
*Как сильна любовь Твоя, Господи!*
*Как солнца луч бездну пронзает,*
*Так имя Твое есть суть всего сущего.*
*Не покинь души моей.*
*Не переставай любить меня и далее,*
*Не убирай руки с плеча моего.*
*Открой путь, коим следовать.*
*Проведи сквозь тьму Своим именем.*

Эфект Гало аказаўся апошняй таямніцай. Найпершай падаўся пажар на чыгунцы, які запыніў ход цягніка, і пасажыры з апошняй станцыі мусілі пакінуць вагоны, каб пехатой вярнуцца дамоў. Зараз пажарамі на пуцях не здзівіш нікога, а тады не было моды паліць сухую мінулагоднюю траву — сама ўспыхнула, таму і пажар успрынялі як цуд. Ён спыніў уцёкі драпежніка, не дазволіў схавацца, адсядзецца, каб далей чыніць чорную справу…

Мая школьная сяброўка Каця чытала разумныя кнігі, хадзіла ў музычную школу, выдатна вучылася, у дом «абы-каго» не вадзіла, без дазволу бацькоў па вуліцы не гуляла, не сваволіла, лепш за ўсіх нас ведала, дзе і як сябе паводзіць і што паследуе за тым ці іншым учынкам. Яе нервовы твар, ледзь што, успыхваў і праяўляўся хваравіта-чырвонымі плямамі. Бацька Каці — дырэктар прадпрыемства, маці — бухгалтар. У іх узорнапаказальная сям’я. У дні нараджэння каго з сямейных вывешвалі ў доме каляровую насценную газету з віншаваннямі. Перад бацькоўскім сходам тата з мамай дзяліліся сакрэтамі выхавання паслухмяных дзяцей…

У туалеце аднойчы я выпадкова зірнула на Кацю ў той момант, як яна задрала сукенку — мяккае месца было спаласавана на зебру: чорны пас — ружовы, чорны — ружовы…

— Што гэта ў цябе?!

— Быццам ты не ведаеш сама…

А я не магла знаць… Мае «цёмныя» бацькі не білі мяне.

Я назірала эфект Гало, а радыёдыктар трывожна апавяшчаў аб здарэнні: «…хто бачыў ці чуў… просім паведаміць. Дапамажыце ў пошуках дзесяцігадовай дзяўчынкі…»

У Алы была пераходна-ўзроставая клептаманія, без яе не абыходзіцца ні адно дзіця. Брала без дазволу дробязныя рэчы, выкідвала іх у сметніцу альбо адразу дарыла сяброўкам. Бацькоў выклікалі да дырэктара, педагагічна і культурна намякалі звярнуць увагу на паводзіны дачкі. Пакаранне не рэкамендавалася. У Алы імпазантны папа, сучасная, какетлівая мама, выбачаліся, «недоумевали, как у *их* дочери» магла прывіцца такая загана. Раніцай Ала з'явілася на занятку, палова твару — чорная. Папа ўдарыў аб сцяну галавой.

Эфект Гало праявіўся апоўдні, самай спякотай. Дыктар паведамляў ад учарашняга вечара. Любачку шукалі… Учора яна выйшла ў суседні магазін і не вярнулася. Літаральна метры раздзялялі пункт «А» з пунктам «Б». Некалькі крокаў ад дома да маленькай крамы паўз хмызняку, праз роў, па пустцы на ўзбоччы могілак.

Маці Любачкі, Тоня, гандлявала ў прывакзальным буфеце. Нацярпелася ўчарашнім днём ад пасажыраў. Стомленыя, злосныя вярталіся з паўдарогі: пажар на перагоне Падсвілле–Баравое. Вымяшчалі на буфетчыцы крыўду, лаяліся, псіхавалі і тут жа без сораму прасілі «на вексэль» бутэльку, цыгарэт, яшчэ чаго хадавога… Давала, такая яе работа. Звяртаўся і чарнявы, міргануўшы на адыход нетутэйшым вострым вокам. «Сем раз нярускі!» — выручыла і яго, хоць не дужа ведала чый, адкуль прыязджае, відаць толькі, што з далёку-далёку. Пасля работы, паглядзеўшы чарговую серыю «Рабыні Ізаўры», кінулася шукаць дачку. Апытала суседзяў, абзваніла сяброваk, дабегла да радні. Вечарэла. Радачкі не даваў ніхто, дзе магло дзецца дзіця за нейкія хвіліны. Магазіншчыца пацвердзіла: «Была, купляла, пайшла дадому…» Дамоў не вярнулася.

Наша першая настаўніца вясной замест апошніх урокаў павяла клас на прыроду. Пакінула сумку пад кустом, загадала вучням ісці за ёй назіраць і слухаць «как журчит ручей». Вярнуліся. У кашальку недалічылася «пяцёркі». Рыма Фёдараўна абшуквала нас да трусоў і маек, перагортвала кожную старонку сшыткаў і падручнікаў — згубы не знайшла. Там конюх вадзіў жаробку, а можа, іх там і не было, грошай? Мама часта забывалася, куды «тарканула» рубель, і кожны раз жорстка кляла нас, сваіх дзяцей, а пасля грошы знаходзіліся між шпалер, пад зрудзелай газетай на этажэрцы. Мама здзіўлена паціскала плячыма, а мы ні кроплі не крыўдзіліся на яе за даўнюю кляцьбу. Рады былі, што рада мама…



Жанчына пасцяліла абрус на стол, забавілася з суседкай. Малая дачушка знайшла нажніцы і павыразала ружы з новага прыгожага абруса. Ашалелая маці вырвала нажніцы і пазбівала імі ручкі малой. Загнаіліся, пайшла буяць гангрэна. Аднялі… Дзіця, ачомаўшыся ад наркозу, радая бачыць сваю маму пасля жудасных працэдур, пыталася, гледзячы на абрубкі: «Мамачка, а дзе мае ручкі?»

Эфект Гало даўно знік, а Любачку так і не знайшлі. Яшчэ з раніцы панаехала абласной міліцыі ад малых да вялікіх чыноў. Раіліся, спрачаліся, аглядалі кожную пядзю зямлі, апытвалі, меркавалі, а дабрахот-сведка, той самы «сем раз нярускі», знайшоўся сам. Бачыў, аказваецца, як сядала на матацыкл да незнаёмага мужчыны. Бегалі варажыць — сядала! Паехала, хутка вернецца. Участковы, малец біты, ухапіўся за сведку. Надта настойлівым падаўся, вадзілі ў аддзел, дапрашвалі, падазрэнне ўелася канчаткова. (Не палез бы — каму ў галаву прыйшло б, што ў суседнім з магазінам ля могілак доме некалькі дзён гасцюе пляменнік з Кіргізіі.)

Рая адмалку не прывыкла сядзець без справы. То спяшаецца, нясе ў бітончыку малако бацьку — ён будуе дом, то падмятае падлогу, чысціць снег, бегае на лыжах, збірае ў кош пасінелымі ад холаду рукамі конскія качулкі на адкорм свіней. У вольны час Рая любіць маляваць. Дома знойдзецца сшытак скапіраваных ёю рэпрадукцый папулярных у той час карцін сапраўдных мастакоў. Якіх папяровых прынцэс з блакітнымі сукенкамі выштукоўвала Рая сваім сяброўкам! Малявала з натуры краявіды, панараму горада, новабудоўлю з кранамі і мудрагелістымі прыстасаваннямі. Рэпрадукцыі яе малюнкаў памяшчалі не раз на старонках рэспубліканскіх піянерскіх газет. За гэта Рая атрымлівала па пошце ганарар — то тры, то пяць рублёў. Ёй хацелася мець новыя алоўкі. І вось аднойчы ў вагончыку па вуліцы Яснай, куды выправілі Раю купіць хлеба і маслянкі, яна ўбачыла ўвасабленне сваёй мары. За шкельцам невялічкай вітрыны вагончыка выставілі напаўадкрытую каробку з алоўкамі. Сэрца закалацілася, Рая адчула, як моцна пахнуць дрэвам бліскучыя рознакаляровыя палачкі. Якія яны мілагучныя, калі ўсе разам пакруціць у далонях, а потым параўняць пучок у жменьцы аб незасланы стол. Прылеплены да каробкі ярлычок «Ц. 15 кап.» значыў, што без дазволу бацькоў прыйдзецца недакупіць адну буханку хлеба. Рая доўга разважала, хвалявалася, прапускаючы сваю чаргу, пакуль прадаўшчыца не высунула з акенца галавы: «Ну? Закрываюся». Рая падала грошы. Вечарам бацька прыйшоў з работы цвярозы. Рая стаяла на каленях ля печы, ён лупцаваў яе шырокім салдацкім рамянём, аб які па раніцах, калі з вечара не быў п'яным, іструў брытву перад тым як галіцца… Вырасла Рая, вывучылася на мастака, а мастаком не стала —

пайшла працаваць на мясакамбінат, «каб дзеці не зналі галечы», а ўсё ж жорсткай з імі была і таксама карала сваіх дзяцей за малую правіннасць…

Эфект Гало застаўся нікім не заўважаным, калі толькі знайшоўся хто са звычкай глядзець у неба… Збіліся з ног шукаць. Пайшлі цугам па ўсёй пустцы. Раптам сяржант спыніўся, збялеў тварам: нага правалілася ў глебу, а пад бацінкам — дзіцячая ручка. На гародзе, у вуллі знайшлі вопратку, гадзіннічак, слоік смятаны. Сведка ператварыўся ў злачынцу. Прызнаўся: даўно хадзіў па дварах, шукаў ахвяру. Тут і жыхары пасёлка прыпомнілі: «Хадзіў, партфель пры ім падазрыцельны, ля дзяцей круціўся». Ахвяра сама ў рукі прыбегла. Пакуль Любачка ў магазіне была, Звер схаваўся ля сцежкі ў кустах, там пуставала некалькі пакінутых паграбкоў, у якіх некалі, па адсутнасці халадзільнікаў, зберагалі прадукты, туды і зацягнуў малую. Хацеў гэтым жа днём збегчы, ды пажар перашкодзіў. Мусіў вярнуцца. Як апусцеў пасёлак, спачуваючы рабыні Ізаўры, выйшаў закапаць цельца.

У буфетчыцы Тоні было назапашана пара скрыняў гарэлкі — час такі, грошы гублялі вартасць. Пайшло на пахаванне…

«Мама! Мама! Мамачка!!!» — штомоцы крычаў трохгадовы хлопчык, чапляўся за маміны ногі, падаў, каціўся па асфальце, нялоўка ўскараскваўся на ножкі, бег наўздагон… Яна модная, гордая, сучасная (хлопчык таксама пастрыжаны і апрануты — супер!) не звяртала ніякай увагі — чымсьці ўгнявіў. З каменным тварам жалезнай хадой рухалася яна па цэнтральнай вуліцы горада. «Мама! Мамачка!» Яна са злосцю адштурхнула малога, аж ляцеў той на тры крокі ад яе. Хрыпла дыхаў, пісаўся, сёрбаў сапылямі, крычаў адчайна, істэрычна, нездарова. На псіхічны шок дзіцяці ніхто не звяртаў увагі — звычайнае відовішча. Маці ці бацька саб'е малога на горкі яблык за выпацканую кашулю, за тое, што «памераў лужыну», што сказаў не тое… на вачах усяго двара, яшчэ і падзыгнуць — вучы, вучы, пакуль поперак лавы ляжыць…

Эфект Гало прадказваў, дыктар папярэджваў, пажар прадухіляў, невядомая сіла змусіла Звера торкнуцца з парадамі. Дарослым нам няма калі прадчуваць за справамі, серыяламі.. Пакуль дарослыя людзі вырашаюць свае праблемы: аддаюць загады, выконваюць іх, будуюць кар'еру, ваююць, страляюць, самасцвярджаюцца, кахаюць, падманваюць адзін аднаго, слугуюць юру і жарсцям, зарабляюць, трацяць грошы, п'юць, — маленькія чалавекі чакаюць. Чакаюць увагі, цяпла, пяшчоты… Маленькія чалавекі анёламі ахоўваюць і берагуць жыццё дарослых сваёю любоўю і думкамі аб нас…



На вуліцы Жданава павесілася маленькая Фарыда, на вуліцы Кірава атруцілася Тома, кінулася пад цягнік Люба Камінская з новага мікрараёна. Доўга чакаў сваю маму чатырохгадовы хлопчык, пайшоў у ноч шукаць яе з шостага паверха.

*Господи! Переполняется душа моя Тобою!*
*Ликует существо моё одной мыслью о Тебе!*
*Не оставил меня Ты в часы моего смятения.*
*Не обратил гнева своего на меня за грехи мои:*
*За уныние, за маловерие…*
*Как верна любовь Твоя!*
*Как кротка, как всепроникающа!*
*Как щедро даришь Ты себя каждому,*
*Обернувшемуся лика Твоего!*
*Нет совершенства Тебя совершеннее!*
*Нет абсолюта Тебя абсолютнее!*
*Нет сути вне Тебя!*
*Нет истины кроме Тебя!*
*Нет любви без присутствия Твоего.*
*Нет счастья без славы Твоей.*

Рая мыла посуд, калі пачула разгублены ціхі голас меншай сястры. Сэрца зайшлося — адчула штосьці жудаснае. Імгненна прыбегла з калідорчыка ў спальню, дзе за печкай на ложку ляжала маці, малая стаяла побач, усміхалася, а вочы выдавалі моцны перапалох. Рая кінулася на ложак.

— Мама! Мамачка! Ма… — яна трэсла маміну галаву, цалавала яшчэ цёплыя шчокі, лоб.

Маці засмяялася, адкрыла вочы, села на пасцелі.

— Ну, як малая енчыла, цярпець яшчэ можна… Ужо як Рая загаласіла — не ўтрываць…

(Захацелася паглядзець, як будуць паводзіць сябе дзеці, калі памрэ маці.)

Рая вырасла і не памятае той выпадак з далёкага дзяцінства, у малой — псіхічная траўма на ўсё жыццё, аб якой не ведалі, нават не здагадваліся бацькі… Дарэчы, маці дажыла да васьмідзесяці пяці гадоў.

*Благодарю Тебя, Господи!*
*За всё ниспосланное Тобой.*
*За счастье узнавать Тебя повсюду.*
*За зоркость души, всё измеряющей Тобою.*
*За любовь, не знающую смерти в сердце моём.*
*За пути, запрещённые тобой,*
*В кои звана была соблазном.*

*За миг тьмы, давший познать свет.*
*За боль, уточняющую цену блаженства.*
*За предавших меня, тем на миг*
*Приблизивших понимание креста Твоего.*
*Благодарю за мгновения безверия,*
*Сравнявшие жизнь с пустотой,*
*Дабы явить силу веры.*
*Благодарю за потери,*
*Тобой возмещённые сторицей.*

Калі ты дзіця. Пасаджаны ты ў незнаёмы аўтобус. Ён павязе ўсіх пасажыраў у невядомым напрамку… Напэўна, знайшліся б спадарожныя з прыязнымі позіркамі і тварамі, дык… хатулі, хатулі… патрабуюць няспыннай аховы і пільнасці. Ты спрабаваў дапытацца: «Куды? Адкуль едзем?» Ніхто не ведае, не цікавіцца… Ты кратаў за руку суседа: «Навошта? Чаму? Дзеля чаго?» Цябе не пачуў ніхто. Засталося толькі акно. За шклом мітусліва віравалі краявіды, міргалі зоркі. Хутка прыйшла здагадка: ці не налаўчыўся ўвесь свет палохаць і падманваць цябе? Ты намерыўся пабачыць, што хаваецца за высокім будынкам, а дарога звярнула ўбок, нават самі будынкі схаваліся ад тваіх вачэй. Магутнае дрэва, чакалася, праплыве паўз тваё акно. Выйшла: аўтобус пакінуў яго далёка на адлегласці. Далягляд абяцаў паказаць, як неба сыходзіцца з зямлёй. Ты чэсна цярпеў, напружана ўглядаўся ў кожны знак арыенціра, падман і тут бессаромна раскрыўся. Кожны знак перадаваў эстафету наступнаму толькі дзеля таго, каб аддаліць сустрэчу з блакітам на недасягальны момант. Ты стаміўся чакаць. У галаве закружылася. Мабыць, сеў ты не на сваё месца? Ці глядзіш не ў тое акно, а магчыма, пасадзілі цябе не ў свой аўтобус і коціць ён па чужой дарозе?

Большасць пасажыраў, каб не глядзець у вокны, гамоняць усю дарогу альбо проста дрэмлюць… За шклом — ноч, сон змарыў і цябе. Ты сніш, што лятаеш. Усё цікавае, што хавалася ад тваіх вачэй, адкрылася выразна і яскрава, як ніколі не адкрыецца тым, хто баязліва адварочваўся ад акна.

*Земно кланяюсь Тебе, Господи!*
*Ты указал мне врага моего.*
*Это — Я сам…*
*Укрепи меня, Господи, в борьбе с грехом.*
*Позволь оттаять моему сердцу, прозреть глазам.*
*Обостри мой слух, просвети разум, истончи душу.*
*Дай силы одолеть врага!*
*Ты сотворил мир, чтобы познать Себя,*
*Так не отрекайся от дитя Своего…*



# «Я НЕ ПАЭТ, МНЕ ПРОСТА СНЯЦЦА СНЫ…»





У рэстаране былога Дома літаратара насоўка, падпісаная і падораная на памяць «паэтам нумар адзін», ды яшчэ зблытаная незнарок дата!!! Адкруціла жыццё назад… Наваражыла гады жудаснай скрухі, зняверання і тугі… Калі раптам каго пакінуць анёлы — чакай, яны там, дзе патрэбны больш, чым табе…

## ПРА ПАЭТА

*(страшны сон)*

Хто галаруч? Ка мне, да вогнішча!
Тут быў пажар… Во папялішча.
Дачакаемся дня…
Штосьці ў ім ёсць — гучыць імя.
Вунь, за тым сядзіць столікам.
Я гарэлкі не п'ю… Толькі з Толікам.
«Вочы чорныя, вочы страшныя…»
Ды не ўспомніць ён учарашняе.
Смелы будзьце з ім — не пакрыўдзіцца.
Не «паставіш» ты — неяк прыйдзецца,
Неяк знойдзецца, неяк купіцца…
Ля яго зашмат люду круціцца.
«Не збяднее рука, даруючы…»
Дзень як дзень… Вые воўк уначы…
Ах вы, сабутэльнікі-забулдыжнікі!
Ці вам куражыцца,
Зайздроснікі-злоснікі?!
Што не *напісана*,
То ўжо не скажацца.
Не шукайце праўды за аблокамі.
Яна тут, пад бокам.
Не ўглядайцеся ў нябёсы,
Калі сляпыя перад носам…
Рукі дадзены ці жалець, ці біць?
А душа, згадай?
Не будзі. Хай спіць…
Дайце добрага кухталя пад бок!
Ды яго ўжо выракся Бог…
!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!
Ад яго адхрысціўся Бог?!



СытыЯ, мажныЯ, моцныЯ, важныЯ,
ЦіхіЯ, сонныЯ, самаўлюбёныЯ,
ВёрткіЯ, згодныЯ, льсцівыЯ, гнуткіЯ,
Носам па ветру чуткіЯ-чуткіЯ…
ДзесяцітомныЯ, псеўданародныЯ,
ЗлыЯ, зайздросныЯ, бронзазнамённыЯ!!!
ЗначныЯ, удзячныЯ, нізкапаклонныЯ,
Богам на *слова* не блаславёныя…
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Пераблытаць хаўтуры з народзінамі…
Не ля кожнага храма юродзівы…

Што было — ёсць і будзе наноў, наноў.
А не варты, Гасподзь, мы Тваіх сыноў…
Ці ж яму *чашу* тую выпіць да дна
За сябе, за мяне, за цябе, за нас…

*1998 год*

Я не паэт па сваёй сутнасці. Гэтыя радкі з'явіліся раптам, і чым больш я потым дазнавалася новага з біяграфіі Анатоля Сыса (радкі прысвечаны яму), тым больш здзіўлялася прыродзе паэзіі… Адкуль гэта: пажар, воўк?! У той час, калі верш прыйшоў, 1998 годзе, я пра Анатоля Сыса не знала амаль нічога, акрамя асабістага ўражання пасля некалькіх кароткіх сустрэч.

Кадр збіў мяне з толку, зламысны прыём рэжысуры — «падмена козыраў», вядомага дакументальнага фільма пра адраджэнцаў (здаецца, 1995 г.) «Дзеці хлусні» Ю. Азаронка… Ад бяссілля і нематы аж перасядала ў горле, ды яшчэ:

— Што гэта за валацуга поўзае з бутэлькай па сцэне?! — абурылася я па-бабску, не даючы думкам апярэдзіць эмоцыі.

— Не спяшайся з высновамі… Гэта Толя Сыс, паэт. Лепш пачытай яго вершы. Я некалі вас пазнаёмлю… — суцішыў мяне сябар А., паэт з Віцебшчыны. Хутка яго абяцанка здзейснілася.

Адзін літаратар адзначаў юбілей. Аказаліся запрошанымі і мы з А. Гэта быў студзень 1998 года. У фае Дома літаратара да нас падышоў чалавек, з А. павітаўся як даўні знаёмы.

— Першы паэт Беларусі! — адрэкамендаваўся ён мне не жартоўным тонам.

— Вось гэта і ёсць Толя Сыс, як я табе абяцаў.

Гэты дзень я чакала, бо знайшла-такі некалькі яго вершаў на старонках даступных мне ў глыбінцы літаратурных выданняў. Сумесь ўражання ад кадра з уражаннем ад паэзіі нарадзіла балючы непакой, які авалодаў мною цалкам пасля *жывой* сустрэчы. У фае перада мной стаяў інтэлігентны

чалавек. Ён быў неяк хваравіта чыстаплотным. Гладка адпрасаваная бялюткая кашуля, як нішто іншае, сваім здрадніцкім фонам выкрывала ў надломлена-ўчарнелым вобразе ракавую трагічнасць, якая ўжо бязлітасна намеціла ў рысах прыгожага твару дэгенератыўную тэндэнцыю… А яшчэ ён не быў гжэчным з жанчынамі, гэта адчула без відавочных фактаў, ён па-асобаму трымаўся, не так, як іншыя мужчыны (у параўнанні, да прыкладу, з паэтам Алесем Пісьмянковым, чалавекам сціплым і нават сарамлівым, а ўсё ж неардынарна гжэчным), быццам у жыцці Анатоля Сыса адсутнічала такая з’ява, як *яе вялікасць жанчына*. Зусім не маю на ўвазе інтымныя адносіны. Штосьці іншае. Што, безумоўна, паспрыяла яшчэ горшай абвостранасці яго трагічнага жыцця. І канечне, страту цікавай *тэмы* ў яго паэзіі. Але!!! Ці не цураўся ён наўмысна дзяліць людзей па палавой прыналежнасці. (Як уласціва і мне самой.) А толькі на *асобы*! Тут не ўсе так проста… Як ён адчуў душу *Алаізы*!

Пакуль рыхтаваліся да вечарыны, на маіх вачах ад інтэлігентнага чалавека не засталося напаміну. Надта спрыяў факт, што многія з прыезджых гасцей, якім хутка трэ было прад’явіць сваю творчасць на жывыя вушы са сцэны, імкнуліся заманіць *паэта* ў патаемны пакойчык, адкуль выходзіў той з кожным разам усе менш і менш падобным на сябе ранейшага. Яго звычка, седзячы ў першым радзе, на ўсю залу не хаваць уражання ад верша, палохала вершаскладальнікаў і графаманаў, нікому не хацелася пачуць, што «кароль усё ж такі голы»… Занепакоіўся крыху і мой сябрук, паэт з Віцебшчыны. (Дарэмна. А. удавалася на тую пару прычакаць музу, дык жа… наша правінцыйная няўпэўненасць.)

— Трэба было б пачаставаць Толю… Выручыш мяне? — запытаўся А.

Я не стала пярэчыць, нават наконт «выручыш» — не мог ён сам пачаркавацца за сустрэчу… Яшчэ і па той прычыне, што прадстаяла выходзіць на сцэну. І я, да тых гадоў заўзяты і прынцыповы «непіток», згадзілася на гарэлку. Безумоўна, не з альтруістычных памкненняў, вельмі хацелася паглядзець зблізу на *паэта*.

За тыя паўгадзіны, што сядзелі ў рэстаране, Анатоль Сыс некалькі разоў змяніў свой настрой на палярную процілегласць. Ад блюзнерскага да змрочна-зацятага, ад шчыра-сяброўскага да афіцыйна-высакамернага, нахабна-задзірысты саступаў глыбока скрушліваму, вінавата-даверлівы сум пераходзіў у выразную жорсткасць. Цяжка яму было ўтрымацца і фізічна ў адным стане, як кажуць, не мог знайсці сабе месца: падскокваў ў запале гутаркі, кагосьці падзываў, падбягаў да афіцыянтак, вітаўся з новымі захаджанцамі, падыходзіў да столікаў. (І гэта пры відавочным энергетычным спадзе: здавалася, яму не хапае жыццёвай сілы.) Мы размаўлялі пра сучасную паэзію, і адносна навамодных стыляў Анатоль паўтарыў: «як выказваюцца мастакі — спачатку навучыся пісаць класічны партрэт, а потым “выя…вайся” хто як жадае»… Не хацелася згаджацца з такой думкай, але маўчала. Выходзіць, калі перафразаваць: перш напішы, як Гайдн, а пасля «рабіся» Шнітке, альбо — спачатку навучыся пісаць пад Пушкіна, а потым будзь Бродскім? Магчыма, ён меў на ўвазе, што мастак (у вялікім сэнсе) патрэбен абапірацца на прыдбанае вякамі?.. І тут бываюць выключэнні.

Паказаў нам рукі… абмарожаныя, распухлыя, чырвоныя.

— Калядаваў па сваім Гарошкаве. П’яны заваліўся ў сумёт і заснуў… А кніжку сваю першую я пахерыў!

Я ўпершыню мусіла глянуць на сябе староннім вокам — Анатоль між іншым, нібы пакрыўджанае дзіця кінуў:

— Вось А. — добры чалавек, а ты — не…

Да гэтага часу лічыла сябе зусім неблагім чалавекам, тут задумалася і знайшла яго словы справядлівымі, асабіста ў параўнанні з А., той і сапраўды меў прыродную дабрыню ў адрозненне ад маёй, культываванай у сабе.

На развітанне Анатоль падаў А. самапіску:

— Пішы добрыя вершы.

А мне дастаў з нагруднай кішэні новую чыстую насоўку. (Ніколі не бачыла такой чысціні насоўкі. Пакладзі яе ў кішэню — і адразу загнуцца беражкі, начэпіцца нейкіх валасінак, крупачак, а тут!.. Зноў гэта чысціня…) Напэўна, ён, як і я ў той момант, забыўся: насоўкі не дораць!!! Гэтай наймацнейшай варажбіцкай прыладай перадаюць слёзы. Падпісаў на блакітным полі: «Людцы, каб любіла Сыса». І подпіс… просты і кароткі. Потым дата… Трэба ж такому было нарабіцца!!! Ён (як мне гэта знаёма! Спытай, які год, месяц сёння, — добра задумаюся) зблытаў год!!! Яшчэ незнарок дадаў варажбы, ды якой!!! Любы вядзьмак пацвердзіць — адкруціць назад дату — не жартачкі!!! Я трымала насоўку і радавалася… Знала, *хто* перада мной. Пры выхадзе з рэстарана Анатоль, засаромеўшыся дапушчанай адкрытасці, рашыў выправіць нечаканую слабасць, здзекліва вымавіў:

— А-а! Я тут наплёў абы-чаго, разыграў вас, а вы і паверылі…

— Ну гэта яшчэ хто каго разыграў… — кінула я, да канца выручаючы сябра.

На вечарыне Анатоль Сыс сеў на першы рад і, здавалася, задрамаў, ды не ўпусціў ніводнага радка харошай паэзіі. Паэт не глядзеў на пасады і прозвішчы — так адпляскаў: «Малайчына!» Ірыне Дарафейчук, дзяўчыне (на той час) з Полацка, што любы прызнаны літаратар пазайздросціў бы. Свае, сталічныя, пачалі абурацца: «Колькі можна цярпець такое?!», «Дайце яму добра ў карак!», «Выштурхніце з залы!». Алесь Пісьмянкоў мусіў прасіць яго выйсці, адчувалася, што рабіў гэта ён не па душэўнай патрэбе — пасада вымагала. Сыс выйшаў і хутка вярнуўся.

Намачыла насовачка! Мае слёзы абрынуліся адразу, як паселі ў аўтобус на зваротны шлях. Я адгаласіла ўсю дарогу… і… гады потым. Перажыла жудасную дэпрэсію, якая прымусіла перагледзець жыццё… Пакінула пост

дырэктара музычнай школы, адмовілася ад пасады начальніка аддзела культуры, якую жадалі і прарочылі многія «знізу», дык яшчэ і абяцалі-сулілі «зверху». Былі моманты, што кожная хвіліна давалася нечалавечым намаганнем, здавалася: яшчэ імгненне — і разарвуся на атамы, перастану існаваць як асоба. У самыя страшныя дні парывалася спаліць насоўку, было так шкада… Паліла свае дзённікі, карціны, прозу. Потым зноў карціны, дзённікі, прозу… Выразала аўтограф, каб пакінуць, а насоўку спаліла. Ды вельмі хутка зрабіла тое ж самае і з маленькім скуточкам, дзе вялікімі размашыстымі літарамі Анатоль Сыс прасіў памятаць аб ім і любіць…

Не адна, мільёны сцежак вядуць нас туды, куды *мусім* прыйсці! Сысова насовачка была толькі маленькай зачэпкай з мільёнаў — не прычынай.

Ёсць талент светлы, які даецца ў асалоду — радкі лёгка прыходзяць, каб званочкам звінець чытачу. Але жыццё двуадзінае… І хтосьці мусіць «адчыніць браму», упусціць промень… бачыць праз цемру. Гэты дар *такі балючы*, што ніхто не мае права асудзіць носьбіта, за «не так» пражытае жыццё… Бо ніхто не здольны і на кроплю адчуць балезнасць аголеных нерваў, адпаведную *такому* дару.

Некалі вельмі прыгожыя, калі меркаваць па здымках, глыбокія сумныя вочы Анатоля Сыса займелі на той час ужо багата атрутнага жудаснага адцення. Яны не глядзелі… зазывалі ўгледзецца ў яго сусвет, дзе было яму так холадна, страшна, адзінока… «Там — ноч. Там — цемра… Там галлё мёртвых дрэў, калючае, учэпістае — па твары!.. па твары!!! Там пацалункі вострага карчэўя чакаюць каленяў на бездарожжы… Там гады паўзучыя сцерагуць босыя ногі… Там крумкач-«вырвівока»… Там хмары галодных ненажэрных кажаноў… Там жудасны храп за спіною… О! Гэты храп тройчы азначанага паўторанай лічбай звера… Там ісці ды ісці… Там не ходжана *Богам*… Там страціш усё… Пройдзе там толькі той, хто не нясе з сабой нічога, акрамя памяці і святла…»

Калі хварэе народ, Радзіма, хтосьці павінен ахвяраваць жыццём, каб гэтую хваробу *выявіць сабой*. Блокам, Лермантавым хварэла Расія. Сысом — Беларусь. Мне тады ўбачыўся Анатоль Сыс, такі трагічны, прыніжаны, зганьбаваны, забаронены, горкім *сімвалам* беларускай паэзіі, літаратуры, ды і ўсёй беларускай культуры — не адглянцаванай, выхалашчанай на паказ, а той, якой вякі векаваць. Ён пры Доме літаратара быў, што жабрак пры царкве, якога міласцінай адораць, з якога і жахнуцца, і пасмяюцца, і ў карак выштурхнуць, а потым *святым* прызнаюць…

Адраджэнцы сваёй жорсткасцю, рэзкасцю, непрымірэнчымі паводзінамі, можа, і адштурхнулі ад сябе людзей. Але як бы паводзіліся бацькі, на вачах якіх гвалтуюць, катуюць іх дзіця, альбо дзеці перад калесаванымі бацькамі?! Што будзе нормай: жорстка рынуцца на абарону ці памяркоўна супрацоўнічаць з гвалтаўнікамі? *Баліць*! Таму і кіпучыя эмоцыі. *Адчуваць* і *думаць* заўсёды балюча.



Была яшчэ сустрэча. У 2002 годзе па запрашэнню і рэкамендацыі Г. В. Далідовіча мяне прымалі ў Саюз беларускіх пісьменнікаў. Зноў між афіцыйнымі асобамі сцэнюгаўся *паэт*. Мы вельмі доўга чакалі — не збіраўся кворум. Ужо тады адчуваўся нейкі разлад у «вярхах». Нарэшце дачакаліся. Мяне на «А» запрасілі першай. У зале па інерцыі працягвалася мітусня, перабіралі паперы, перасоўвалі крэслы… Тут жа, у цэнтры, Анатоль, як любімец (гэта чыста маё ўражанне!) Вольгі Іпатавай, бы малое шкадлівае дзіця, якому заўсёды не хапае ўвагі і цеплыні, круціўся ля яе, як ля мамкі. Я чакала пры ўваходзе, пакуль сцішыцца рух, і было прыемна адчуваць, што маю нейкую прычыну знаходзіцца *тут*, дзе пануе *паэт*… Індыком прайшоўся былы вялікі чыноўнік: хацелася перад жанчынай напомніць аб сваёй персоне — мы мелі «цікавы момант» даўняй сустрэчы па рабоце і паспрачаліся не на жарт! Праўда і тое, што ён не аказаўся помслівым, інакш, пры такой пасадзе ды магчымасці ўплываць на *ход* культуры, не прыйшлося б мне самой праз некалькі гадоў прымаць рашэнне аб змене месца работы. Анатоль Сыс быў цвярозы, але «вырабляўся» і наўмысна прыцягваў увагу. Хтосьці з кворуму груба абсёк: «Ды, урэшце, абсядзься! Што пра нас людзі падумаюць!» Я апамяталася. Голас дакладна дзяліў на *іх* і нас. Былі і ёсць *яны*, хто вырашае: друкаваць — не друкаваць, прывячаць — не прывячаць, заўважаць — не заўважаць… І мы, хто гадамі мусіць учытвацца ў кожны *чох* і *бзік* іх «творчасці» на старонках літаратурных выданняў, ці не ахвяруецца краёчак паперы для нашых радкоў. Вышукваць па шапіках чарговы нумар часопіса, у якім ужо *іх* дзеці і ўнукі зарабляюць грошы, друкуючы ўспаміны і дзённікі, у якіх усплывае тваё імя як таленавітага (аказваецца!) аўтара, «якога неймаверна якім ветрам здула з літаратуры»!!! Вецер гэты заўсёды дзьме ў тым напрамку, які задаюць калялітаратурныя дзеячы… Сыс раптам панік. Выходзячы з залы, буркнуў: «Не дурнейшыя за вас людзі, самі ўсё разумеюць… Каму гэты фарс патрэбен?!» Ён адразу вярнуўся, але больш не «выдзействаваў». Пасля афіцыйнай часткі Сыс раздаваў свежаспечаным пісьменнікам сваю новую кніжку. Я тады знаходзілася ў глыбокай дэпрэсіі — стаяла асобна воддаль, павярнуўшыся да акна, ён паглядзеў у мой бок і не падышоў… На той момант я і не зразумела, *што* натварыла… Трэба было самой бегчы наўздагон, на каленях паўзці, прасіць. Толькі гады счакаўшы ўспомніла. Як я шкадавала! У 2010 годзе чамусьці ўспаміны ўсплылі так горача, балюча! Шмат перадумала, дакарала сябе, што не зберагла насоўку, упусціла яго зборнік вершаў… І вось хутка «падарунак ад Сыса» сам знайшоў мяне. Выпадкова трапіла ў маладзёжную кампанію, а там дазналіся пра мой дзень нараджэння і… дзяўчына працягвае зборнік вершаў Анатоля Сыса. Я ажно войкнула: чаму *Сыс*? Там у яе поўная сумка кніжак была — з выставы забегла, і корпалася ж яна доўга, выбіраючы, штосьці перакладала, прыкідвала… Адкрываю дзе папала: «Гуляе з пацеркамі хлопчык…» — і слёзы пакаціліся па шчоках…

Ён прадказаў свой «тэрмін» — пяць не поўных дзясяткаў. «Адну здзяўбе паджары певень…» — апошні дзясятак на палове абарвецца, — Анатоль памёр у год вогненнага пеўня…

Паўтараюся — не паэт я! У тыя бяссонныя ночы дэпрэсіі 1998 года самі сны склаліся радкамі:

## ПАРОМШЧЫК

Даў зарок — руку да сэрца — пераправіць «на той» бераг
І слязьмі зацвердзіў шчырасць…
Як не верыць?
Той паромшчык быў няўдалы, альбо куплены зладзеем,
Мо на добрае надвор'е меў надзею?
Бура плыт пагнала ў мора…
Пад ім — пашча вод бязмежных,
У небе — бездань: чэрань-прорва!
Каб *то* гора…
Рызыкантаў там чакалі
Каты, краты і кайданы,
Адвакаты на забаву,
Экзекутар на расправу,
Пракуроры на падман…
Свіст ляза ды стук сякеры
У вушах стаяў да ранку.
Шчыраваў мяснік на славу!
Лопаў крыламі груган…
Ці мой розум з глузду сходзіць?! —
Да мяне чарга даходзіць?
Да мяне чарга даходзіць!!!
Да мяне чарга дайшла…

Лёгкі дотык кволых лапак
Па дзісьдзень душу кранае…
(Ластаўкі наўкол лятали — ад сну ўратавалі…)

## СОН ПРА ХАТУ

Наўзбоч вёскі багатай — хата.
Пакінута-рынута… Вам не патрэбна?
Вочы-вокны павыбіваны — аслепла…
Хто ж тут жыў у ёй?
Дрэнь гаспадар! Недарэка.
Смецце, бруд, павута ды галеча…
Печ не цеплена, столь задымлена,
Стол стаіць раскірэкай.
Во бяда… Дайце рады!
Свечку ў рукі вазьмі — дык вачам не паверыш!
На паліцах анёлы і Божая Мацер!
Хата бедная здасца домам высокім:
Сцены крэпкія, дах і падмурак — *што нада*!!!
Толькі нечысці збавіцца ды пасвянціць,
Кветкі высадзіць, вокны зашкліць ды анёлаў адмыць —
Іх, крый Божа!, магло і зусім тут не быць…
Не для кожнай хапае…
Хата добрая — можна ў ёй жыць…

## СОН ПРА МЛЫН

Чорнай ноччу чорны млын меле белы свет на клін…
А я з гары ды ў гору.
З вялікага «шчасця» — у гора…
Сціхне вецер, стане млын, як з мукой — то будзе блін…
А я — з агню ды ў полымя!
Не забыцца б сваё імя…
Ой, млыны, млыны, млыны… Дачакаемся ж вясны…
Ці там рунь, ці трава?
Каму баліць галава?!.
Жорны склыгаюць нібы ведзьмін смех.
Млынару душу панясу за мех…
«Крутится мельница — все перемелется…»
«А як маеш грошы, то і сам харошы!»
«Ну, жысць, дзяржысь — не то брошу!!!»

## СОН ПРА БЫКА

Бык ланцужны закуты, затоены, дзікі…
У цёмным хлеве — жыццё!
Вочы — «ўбераг» балезнай,
Невычэрпнай бруяцца тугою.
Я пазбаўлю быка той аковы жалезнай!
Павяду яго смагу спатоліць вадою…
Долу прывязь!
Вароты наўсцяж!
Гэць за мною!

О-о-о!!! Як жудасна мне ад рагоў за спіной…
Толькі крочу адважна іх абвіўшы рукой.
Мной вядзёны тупоча бы цень паслухмяна…
«Туп»…
«Туп»…
«Туп»… — капыты і зямелька — «дагоры».
Чую — мора даносіцца шум…
Я так веру ў знаменні!!!
Вось-вось сцішыцца сэрца, развеецца тлум.
Мае чары усе «на нет» зводзіць сумненне…
А ці п'юць-то быкі ад салёнага мора?..

## СОН ПРА КАТА

Хітрыя вочкі, хапкія лапкі…
Сліну глытае пажадлівы кот.
Я ўжо — не я…
Хавайся, душа мая, ты без патрэбы.
Толькі б самой мне цябе не згубіць…

## НАСТРОЙ У СТЫЛІ БЛЮЗ

Самотнай восеньскай залевы кроплі
Адлічаць у люстэрку мокрага асфальту час,
Імгненні вечнасці сплятаючы ў гадзіны, дні і тыдні
Журботных сноў канаючага лета;
Замружаць мроі,
Сплаканых вачэй-вакон патушаць дзёрзкасць,
Прымусяць свет memento mori.
Пад ветрам-сышчыкам распранутыя дрэвы
На доказ выставяць аголеныя рукі ў апраўданне.
І нават золату кляновых лістабоеў
Не здолець вытрываць тугі выпрабавання —
Дарана стлее ў прах…
А рэшткі зорных караблёў — чыіхсьці смелых летуценняў,
Што спора так ссыпае млечны шлях
На чорнавераснёўскія нябёсы,
Усё ж даруюць нечаканыя надзеі…

***1997***



# ГЭТА ТЫ





## «АДКЛІКОЎКА»

Бацькі не давалі нам грошы на цацкі. Кніжкі — гэта іншая размова, не зараз… Я пра дзіцячыя дробязі, гульні, забаўкі… З даступнага былі калі толькі адклікоўкі (пераводныя карцінкі). Дык жа гэта сапраўдны цуд! Сягоння яны зусім не падобныя на тагачасныя ні тэхнікай пераводу, ні самім выглядам. Цяперашняя пераводка вызваляе дзіця ад самага галоўнага — прычаснасці да стварэння цуду. Паклаў у ваду, выняў, плясь на паверхню — і адбітак гатовы, калі не яшчэ больш прымітыўны спосаб, з клеявой прамазкай на адвароце, — сарваў плёнку і ляпі куды задумаў спрошчаны да немагчымасці суперкаляровы сілуэт альбо сімвал нейкай рэчы, жывёлы, расліны, пазбаўлены жывой цеплаты і пазнавальнасці.

Нашы «адклікоўкі», перш за ўсё, патрабавалі неймаверных намаганняў, акуратнасці, ледзь не ювелірнага майстэрства. Карцінку не проста было аддзяліць ад ахоўнай паперы. Тэмпература вады патрабавала адмысловай градацыі. Патрымаўшы неабходны адрэзак часу (не больш — не менш) карцінку ў вадзе, потым на рабочай паверхні, яе прадстаяла вызваліць ад баласту — лішняга, непатрэбнага надалей наслаення паперы. Дрыжачымі рукамі, няўпэўненымі рухамі дзіцячых пальцаў качулачка за качулачкай сціраліся паціху слаі… і вось ён — цуд!!! Паравоз, кацяня ці букет пахнючага бэзу — не-е! — не памыляюся — менавіта пахнючага, бо пераводкі нашага дзяцінства былі жывымі… А магло стацца — не атрымаецца, лопне, распаўзецца танюткая плёнка малюнка, скруціцца разам з папяровай качулкай, залішне перамокне альбо не прапітаецца дастаткова вільгаццю — і цуд не здзейсніцца, атрымаеш брудную пляміну на белым аркушы паперы…

Мне бачыцца такім — праяўленне жыцця, чалавечай асобы…



## КАДР ПЕРШЫ

Маці казала, што не магу памятаць тое — надта малой была, калі бацька будаваў наш дом у Глыбокім, — а я памятаю, хоць ранняя памяць у мяне зусім не выдатная, літаральна некалькі кадраў, і то неяк зверху, быццам хтосьці трымае над зямлёй і паказвае: «Вось гэта ты, гэта будзе тваім жыццём». Кадры праяўляліся без эмацыянальнай афарбоўкі — як пра чужое. Чаму менавіта гэтыя запомніліся ў ходзе бясконца доўгага ў дзіцячым уяўленні часу маленства?

Іду за руку са сваёй старэйшай на шэсць гадоў сястрычкай Раяй праз вуліцу Жданава на вуліцу Шпітальную, дзе хутка будзе жыць наша сям'я, — бацька перавёз з вёскі Шыпы, сваёй радзімы, у Глыбокае хату, дабудаваў трысцен і ўжо крые дах, нясём яму ў бітончыку малако. Можна было б той «успамін» прыпісаць як пераказанае кім іншым з сямейных, каб не асабістае ўражанне: мы аж трасёмся — баімся «мальцаў».

Так выпала, што ў акрузе (па Жданава найгорш!) спрэс жылі забіякі — дзяўчынкам не прайсці. Можа, «траслася» толькі я, а сястра і не думала? Не! Страх передаўся ад яе, не маглі ж «задзіры-мальцы нападаць на дзіця»… — мне было каля двух гадоў, крыху больш. Бо…



## КАДР ДРУГІ

Тры мае гады ўжо шырока адзначылі разам з пераходзінамі ў новы дом. І была такая гулянка зімой у лютым, а бітончык насілі не ў халодную пару. Вось і другі кадрык. Суседка вымкнулася, што Шаравы (не ведаю, хто яны, бо далей у маім крыху свядомым дзяцінстве такое прозвішча больш не ўпаміналася, напэўна, пераехалі ў другі горад) падораць мне вялікую ляльку. Я прастаяла ў сенцах паўдня, пры дзвярах чакаючы тых Шаравых. А мне ўсё дарылі і дарылі адрэзы крэпдэшынаў і крэпжаржэтаў, якія потым вярнуліся мамай назад у краму, бо беднасць сям'і не дазваляла насіць такія сапраўды шыкоўныя тканіны. Праўда, з аднаго адрэзу, блакітнага полем у дробную ружовую кветачку (тюльпаны з лісточкамі), маму ўгаварылі пашыць сабе сукенку, і я памятаю, як доўга гадамі яна служыла ёй па святах і як пасавала і мамінай цемнавокасці, і доўгім каштанавым валасам!

Ляльку дачакалася-такі! Распаўсюджаная ў тыя гады цацка з пластмасы, галыш, памерам з немаўля. Жыла яна ў нас да трынаццаці маіх гадоў, абшываная-абуваная з маіх рук. Магла б радаваць і зараз маіх дзяцей-унукаў, але сястра Рая спаліла ляльку ў печы, калі гумовыя звязкі ручак і ножак расцягнуліся, перасталі трымаць форму.

Гэта была не толькі першая з маіх цацак, амаль што адзіная з купленых, не лічачы дробязі, да якой душа не прырастае. Быў яшчэ медзвядзёк, падабраны мамай на сметніцы, адмыты і перасыпаны новымі апілкамі, быў сапраўдны, цёткай Нінай спечаны для маёй лялькі хлябок, які берагчы можна было вечна, па майстэрскай тэхналогіі яго прыгатавання…



## КАДР ТРЭЦІ

…Быў ложак жалезны для лялькі, яго зварыў бацька ў рабочы дзень з металічнага прута і прынёс дамоў, з нецярплівасці напрасткі ўкраўшыся з работы, на якую не аднойчы за руку вадзіў і мяне — «мой Васілёк» — рэкамендаваў ён дачку сваім калегам. Я гуляла там сярод кучаў металалому, ды і не кучаў зусім, напраўду — гор!

У той час у Глыбокім на чыгуначнай станцыі зладзілі звал металалому, там можна было заблудзіць сярод аўтамабільных кабін, кузавоў, запчастак, гаек, балванак, металічнай стружкі… Я чакала, пакуль рабочыя пілі ў бытоўцы, седзячы на перакуленых скрынях, хадзіла па складах і цахах, забрыдала ў кузню да нямога каваля, ён толькі (мне чамусьці здавалася) выдаваў сябе за нямога…

Бачу праз акно, як нецярплівы бацька нервуецца з лялечным ложкам у руках ля закрытых дзвярэй, ляпае ў фортку дашчатага калідорчыка, спяшаецца ўзрадаваць дачку — мяне (мама мыла падлогу, таму і накінула зашчапку, а так — вырасла я ў доме, які ад пачатку і да канца нашага ў ім існавання, а гэта з 1960 па 2005, «замыкаўся» вішнёвым прутам: замком з назвай «дома нікога няма».



## «ШТО-ТА ЗАКАДРЫЛА…»

Смешныя дарослыя… Мяне маленькую часта палохалі Гневышом: «Вось будзеш плакаць — прыйдзе Гнявыш і схопіць цябе. Не дурэй, а то Гнявыш заберыць! Ну чаго ты енчыш, хочаш, каб Гнявыш да сябе знёс?» Канечне ж, я не верыла ім і знала, што ніякага Гневыша няма… Таму ў чарговы раз смела засталася плакаць, лежачы на падлозе, а мае дарослыя выйшлі за дзверы, пакінулі мяне адну.

Напэўна, я дужа страшна закрычала, бо яны імгненна і ўсе адразу вярнуліся, абступілі мяне.

— Што здарылася? Чаму ты гэтак крыкнула — спужалася?

— Там Гнявыш… — паказала я рукой пад шафу, а сама не адважылася паглядзець яшчэ раз.

— Дурачок, няма там нікога, паглядзі.

— Не, я бачыла! Ён ішоў да мяне.



— Мы падманулі цябе, палохалі. Няма ў свеце ніякага Гневыша.

— Ёсць!!! Ён там, пад шафай! Ён жывы, ён глядзеў на мяне, варушыўся…

— Ну паглядзі, паглядзі — не бойся, няма там нікога…

Пасля доўгіх угавораў я ўрэшце асмелілася зірнуць у чорны прамежак між падлогай і шафай — там сапраўды ўжо нікога не было, нават якой-небудзь рэчы, каб быць з перапалоху прынятай за жывую істоту, ды гэта не магло нічога змяніць… Я яго бачыла і ён быў жывы, падобны на белага труса, але ж ён — Гнявыш, і таму вельмі страшны. Мае дарослыя доўга ўгаворвалі, суцяшалі, смяяліся з мяне і насцярожана перашэптваліся, а ўголас усе як адзін запэўнівалі, што Гневышоў не бывае ў свеце. Смешныя дзівакі дарослыя. Калі я ім не верыла — сцвярджалі, што ён ёсць, а цяпер, як я ўбачыла яго на свае вочы і ніхто мяне ўжо не пераканае ў зваротным, дарослыя кажуць: «Вер — яго няма».



## «НЕНАРМАЛЬНАЯ»

Бацькі часта паводзілі сябе як малыя дзеці, а дзеці бываюць і жорсткімі, і неразумнымі.

Прыехаў бацька позна ноччу з камандзіроўкі, пабудзіў малую мяне, уручыў шакаладку, доўга смяяўся, гледзячы, як ем рэдкі ласунак, маці невыразна пярэчыла, бацька падбухторваў: стаграмовая шакаладка з'едзена адным махам — дзіця нежывое… Як мама казала — гэтак «абмірала» ты не раз… Мне добра вядома, што азначае рускае «еле-еле душа в теле».

Звалілася з невысокай лесвіцы: бацька спужаўся ды так накрычаў, што я знепрытомнела. А субота дык зусім «улётны» дзень — лазня. Маці будзе наліваць у таз кіпень і мыць дачку. Ні слёзы, ні ўшчуванні старонніх: «Асцярожна — дзіця! Вада для яе загарачая» — не працуе. Маці ўпартая, дачка чыста вымытая, спарадкаваная ляжыць — не дыхае на каменнай лаве.

— Мы ад першых дзён зразумелі — «ненармальная», — казала яна. — Гэткага рабёнка біць няма як. Раз трошачкі хляснулі, а ты і — не жывая.



## ІМЯ

Шыпы значацца ў маім пашпарце як месца нараджэння, толькі гэта не зусім так. Мае бацькі канчаткова дамовіліся перабрацца ў Глыбокае і апошнія дні дабывалі ў вёсцы Шыпы якраз у час майго нараджэння, таму пашпарт сведчыць аб іх прапісцы — я жыла ў Глыбокім ад першага дня.

У Шыпах з'явіліся на свет мае сёстры і памерлы ў пяцідзённым узросце браток Лёня. Мяне адну мама нарадзіла ў Глыбоцкім раддоме.

Канечне, бацькі чакалі хлопчыка: дзве дачкі падрасталі, — таму мама і не спяшалася з навіной, што радзілася яшчэ адна. Але трэба знаць бацьку. Той прымчаўся рана, у цыдулцы (перадаў праз санітарку) напісаў: «Сніў сон — далі ў рукі дзяўчынку, сказалі — Люся». Ён сніў сны… як, дарэчы, уся наша радня.

Гэта Люся перарабілася потым рэгістратарамі ў пасведчанні ў Людмілу, і мне цяжка было ў першым класе звыкацца з чужым імем. Да таго ж мая старэйшая на дзевяць гадоў сястрыца Леакадзія не згадзілася з «пшэцкім» імем, перамяніла яго сама ў шаснаццаць гадоў на імя Людміла. І стала нас дзве ў адной сям'і. Ці добра гэта? Зноў усе сямейныя цяжка вымучвалі з сябе чужое імя і доўга прывыкалі да яго. І цяпер наструньваюся, калі да мяне звяртаюцца Людміла, хоць з ім пражыла паўвека і ад дваццаці гадоў хадзіла Людмілай Фёдараўнай (па педагагічнай рабоце і па звычцы мужа так называць мяне) — не маё.

Мала-мала, адзінкі людзей, ведаюць, што я — Люся, альбо адчуюць гэта ўва мне самі і так цёпла, бы з дзіцячага сну, звернуцца — Люся.

Наогул з імёнамі ў мяне зусім не проста… Бацька так і паслухаў *тых*, са сну! Ён сам сабе быў цар, бог і воінскі начальнік, аўтарытэтаў не трымаўся. Назваць — назваў, а для яго дачка была Васільком. І я да замужжа «паралельна» хадзіла ў Васільках, Васятках, Васюньчыках…

Акрамя таго, многія людзі жартам, але ўпарта называюць мяне Таццянай Фёдараўнай. Каб хто адзін — спісала б на няўважлівасць: сама такая да чужых імёнаў, не памятаю, блытаю. Дык розныя ж людзі, і менавіта — Таццяна.





## «ИЗ ВАГАНТОВ»

Так хацелася вучыцца — аж плакала. Пакідалі дома адну, я сядала на падаконнік (дзіцячыя ногі якраз умяшчаліся ў праёме вузкага акна ў нашым невялікім драўляным доме па вуліцы Шпітальнай, тады яшчэ № 27, а потым перанумараваным у трыццаць першы, марыла пра школу — маці абяцала наступнай восенню адвесці мяне ў першы клас, і слёзы ад нецярпення каціліся па шчоках.

Ужо куплена прыгожая форма: блакітнага колеру блузачка, крыху цямнейшага тону сарафан з бліскучымі зашпількамі на выбар даўжыні і жакецік-бескаўнерык з кішэнямі і металічнымі гузікамі. Форма ляжала ў квадратнай каробцы з кардону на шафе.

У выхадны дзень бацька ставіў мяне на зэдлік і мераў форму. Ён, не здольны кіраваць пачуццямі, радасна пляскаў у далоні, смяяўся на ўсю хату і прыгаворваў: «Ай жа ж, якая спрытненькая. Якая ж красівенькая!!!» Я не давярала яму, але любіла…



## ХАМАЎ ЧАРВЯК

Гэта так складана, між дарослымі і дзецьмі: адны — дарослыя — увесь час мухлююць, падманваюць, здраджваюць; другія — дзеці — выдаюць, што вераць, нічога не заўважаюць, не разумеюць, напраўду — вучацца ў дарослых і падросшы, робяцца «такімі ж».

Мы часта з бацькам хадзілі «ў горад», так казалі ў нас, калі з крайніх сваіх вуліц выпраўляліся ў цэнтр. Там ён сустракаў каго знаёмага, заходзілі разам у задымленую «Чайную», дзе чай ніхто ніколі не піў, а, стоячы за круглымі высокімі столікамі, мужчыны пілі віно ці гарэлку і бесперапынна дымілі цыгарэтамі.

Па дарозе дамоў бацька рабіўся змрочным, аглухлым, ён крэпка сціскаў маю руку ў сваёй далоні і не адчуваў, як мне балюча.

Было, мы завіталі ў дом на другім канцы горада і я з дзяўчынкамі, якіх людзі звалі «дурнымі», дзве сястры: старэйшая і мая равесніца, бегалі па іх сядзібе, у двары між спелых моцна пахкіх смародавых кустоў, пакуль мой тата з іх мамкай пілі ў доме. Іх дом мне падаўся вельмі чыстым і не бедным.

Потым, дарослая, я ўглядалася ў гэтых двух сясцёр, адна з якіх, старэйшая, была хваравіта поўнай, ціхай і нязграбнай, другая, мая аднагодка, — мітуслівая, утрапёная, скандальна-крыклівая, жабравала па дамах смачную ежу і гарэлку, а як напівалася, «вырацала» на ўсю вуліцу мярзотныя непрыстойнасці. Яны абедзве стаялі ў малебныя дні ля царкоўнай брамы, на паперці…

Брыдкі Хамаў чарвяк у маёй галаве не-не, ды іншы раз падбухторваў, наперакор розуму і стыду, углядзецца ў іх твары, шукаючы нейкага па…

…Усё гэта мне прымроілася…



## ЗАБАСТОЎКА

Вось і першага верасня. І букеты, налатошаныя па чужых палісадніках ноччу сястрой з сяброўкамі, уручаны настаўніцы. А я як была невукам, так і застаюся — маці не пускае ў школу на заняткі.

Бацькі забаставалі!.. У 1965 годзе!.. У Савецкай Беларусі!..

Супала так, што гэты навучальны год спраўляў наваселле ў новенькай, нявідана па тым часе ўладкаванай школе, якую адразу, яшчэ ў працэсе будоўлі, называлі рускай. А старая месцілася ў некалькіх маленькіх будынках былой канюшні, лічылася беларускай.

Пакрыўджаныя бацькі дзяцей, якіх не пусцілі ў новую школу, сталі гневацца, выказваць нязгоду. Хтосьці разумны зверху імгненна скумекаў: калі накіраваць «негодование и ропот в нужное русло», можна забіць двух зайцоў — суцішыць бацькоў і пазбавіцца ад шкоднай мовы назаўсёды.

На бацькоўскім сходзе выкладчыкі «сталі за інтарэсы» дзяцей: «Доколе мы ходить будем в невеждах? Это как же наши дети будут поступать в вузы? Да их с такой неразвитой речью, косноязыких не пустят на порог заведений! Неужели нашим детям веками оставаться дремучей деревенщиной?! Вторая школа — русскоязычная! А нам — дурманить детям головы?»

Бацькоў напалохалі — якая ўжо там школа нумар два, з яе «наваротамі», трэба дзяцей ратаваць ад цемрашальства.

Пра сцюдзёны дашчаты туалет наводшыбе ў цемры, пра тое, што з урока на ўрок прыйдзецца вучням перабягаць праз двор, бо мала, што школа месцілася ў двух адасобленых будынках, — майстэрні, ваенны кабінет, сталовая — усё размяшчалася паасобку ў маленькіх дамках, а дзеці, вядома, палянуюцца кожны раз апранацца і будуць бегаць без паліто, і будуць часта хварэць і шмат, шмат пра што іншае ўжо ніхто не ўспамінаў… Бацькам *дазволілі* баставаць супраць роднай мовы.





## НЕ «КАЧКА», А «УТКА»…

Трэба сказаць, што ў класе не мала было рускіх дзяцей: Глыбокае заўсёды мела шмат прадпрыемстваў, а кіраваць імі на ўсіх узроўнях «здольнымі выяўляліся» толькі рускія. Баставалі не ўсе. Палова класа нейкі тыдзень не наведвала ўрокаў.

І вось нарэшце я дачакалася! Сястра адвяла мяне ў клас, пасадзіла за парту.

— Дети, что вы видите на картинке? — настаўніца торкнула ўказкай у плакат. Прыгожанькі чарнявы хлопчык аж падскочыў, трасучы паднятай рукой, так хацелася адказаць перад новымі дзецьмі, яны ж не хадзілі ў школу і не ведалі, а ён ужо знаў, *што* намалявана на плакаце.

— Качка!

— Нет, Миша, с сегодняшнего дня ты должен отвечать: «утка».

Гэта быў першы і апошні адказ Мішы Грыцкевіча, хлопчыка з маленькай вёскі Жураўнёва, на ўроках. Я вучылася з ім да восьмага класа, мы сядзелі побач, цераз праход, яго выклікалі — Міша ўставаў з-за парты, таропіў вочы ў падлогу, дуркавата ўсміхаўся і ўпарта маўчаў. Атрымліваў чарговую «цугу» (мы так казалі пра двойку), сядаў і бубніў выдатна вывучаны матэрыял сам сабе пад нос, але каб пачула я.

На Новы год у сёмым класе Міша прыслаў мне паштоўку з прызнаннем у каханні, не ад свайго імя, ад Дзеда Мароза, але хіба хто яшчэ ў той час прызнаўся б у каханні на роднай мове? К сёмаму класу мы ўжо ўсе парабіліся «немымі», «актыўна, аж ад пятага класа, ажно па дзве гадзіны ў тыдзень» вывучаючы родную мову.



## «КАК СЛЫШИТСЯ — ТАК И ПИШЕТСЯ…»

Выкладчыкі беларускай мовы ў школе, ды потым і ў вучэльні, абавязкова пачыналі ўрокі са здзеклівага правіла, чамусьці складзенага на рускай мове: «В белорусском языке всё как слышится — так и пишется». Дык жа ж, калі «слышится»… а калі думаць і разважаць? Ці гэта нікому і не абавязкова — «што загадана, тое і рабі».

Без жартаў, да таго моманту ніякай думкі выказаць ва ўзросце самага вострага светаадчування мы аказаліся не здольнымі. Каб мысліць і раз-

важаць — мову трэба адчуваць генетычна і адмалку пашыраць слоўны запас з яе багатай скарбонкі. Школьнае вывучэнне чужой мовы мала таму спрыяе, ва ўсякім разе, у школе тых гадоў і таго моўнага стану грамадства. Ці не гэта і было галоўнай мэтай *забастоўкі*. Мы сталі самымі звычайнымі «быдлосамі»! Мы саромеліся сваёй мовы, а я яшчэ і свайго імя Люся, бо ў галаве засела з практыкі: усяго, што дома, трэба стыдацца. І я стыдалася.



## ГАВАРЫ, ДАЧУШКА, ЯК ЗОЯ

Маці дабаўляла: «Чаму ты, дачушка, не гаворыш як Зоя? Красі-іва!» А мне рабілася балюча ўдвая. Чаму я, яе дачка, павінна гаварыць «*як Зоя*», значыць, я не такая харошая і мяне нельга любіць, як *Зою*, да таго ж ува мне было штосьці ўпартае наконт мовы. Я не любіла крыўляцца і пераймаць чужыя словы, фразы і думкі, ды і мала арыгінальных думак чулі вучні нашага пакалення.

Скараспелыя на абрусенне хамы, сарамліва глытаючы нязвычныя для генетычна абумоўленай артыкуляцыі гукі, спяшаліся «загергаць» з вульгарным акцэнтам, які, проста як на пасмешышча, прыжыўся ў народзе і закаранеў трывучым пустазеллем: «Гаварат, пракрасна жывем! Моат быць, моат быць… Харошанькава — па-нямношку! Сіводня *такой* празьнік, такоя *шоу* устроили, лучшэ, чэм вчэра и пазавчэра! Вааще — харэ балдзэц, рэбята! Кахда ужэ прэкрацяцца эці разгаворчыкі!» — аднолькава абражаючы Купалу і Пушкіна. Я не хацела *так* размаўляць. Мой нявёрткі язык беларуса ў школе, дома і паўсюль імкнуўся пазбягаць доўгіх гутарак, размоў з аднагодкамі, каб не зачапіцца аб вуглавата-вострыя рускія «г» і «рь», не паслізнуцца на птушына-шчабятлівых «чь» і «щя», каб не ўжываць чужых для душы слоў і фраз… Ведаць рускую мову — *за*!!! Замяніць ёй сваю — *не*!

…Дарэчы, пра «забастоўку» — з усяго класа, а гэта ў тыя гады трыццаць з гакам чалавек, «в вузы!» паступілі толькі шасцёра, нягледзячы на «великий русский»…





## ЧАЛЕЦ «НЯЧЭСНАГА» САЮЗА

Адгукнулася ў маім жыцці тая «забастоўка»… Бог даў мне талент пісаць, гэта адчувалася змалку. Ніколі я не любіла размаўляць на жаргоне, цуралася моднага ў юнацкім асяроддзі слэнгу, затое заўсёды шукала прыгожую фразу… Ішла ў музычную школу дзіцём гадоў дзесяці і падбірала для сваіх думак мінімум слоў на максімум сэнсу. Потым гэта гульня праявілася стойкай патрэбай.

Думкі часцей прыходзілі ноччу, калі адпачывала ад паўсядзённых клопатаў: я, ужо тройчы мама, падхоплівалася за ноч разоў пяць, шэсць, каб не забыцца, не згубіць фразу, думку, пакідала яе на паперы да раніцы, бо тады яшчэ не ўмела запамінаць іх лагічна альбо асацыятыўна. Так да двух, трох гадзін ночы… Калі пад раніцу клалася ў ложак — у галаве аж закіпала, пульсавала і гуло… Рабіла я гэта толькі для сябе, бо не магла не запісваць — думкі перашкаджалі адна адной, не давалі спакою, прасіліся на паперу, перарасталі сябе, старэлі, пераўтвараліся, нараджалі новыя сэнсы, патрабавалі ўпарадкавання.

Мова, якой я карысталася, вядома, была рускай… Маё навучанне супала з такім адукацыйным эксперыментам!.. Нашым першым (і другім, і наступным…) падручнікам стала «Родная речь» (зусім не родная), дзе на кожнай старонцы, у кожным апавяданні чужыя, такія нязвычныя словы гнялі і палохалі дзіцяў, прыніжалі невядомасцю, прымушалі адчуваць сябе другасортным: «отныне и впредь, то бишь повсеместно, сплошь и рядом — чай, ведь, не здешнего-то макара…» Мы спявалі толькі рускія песні, глядзелі рускамоўныя фільмы, чыталі рускія газеты і журналы, чулі толькі пра рускіх артыстаў, спевакоў, музыкантаў…

Як вышэй успаміналa — беларуская мова з'явілася толькі на пятым годзе навучання на дзве гадзіны за тыдзень, і сустрэлі мы яе ўжо не любімай і не чаканай прыстарэлай дзеўкай-«деревенщиной», а ў восьмым я скончыла школу, бо паступіла ў музычную вучэльню.

Такія ўстановы, вядома, заўсёды маюць праграмы, па макаўку перапоўненыя спецыяльнымі дысцыплінамі, і на агульнаадукацыйныя часы выкладчыкі, калі яны па-людску ставяцца да студэнтаў — шкадуючы, — увагу звяртаюць адпаведна патрабаванням спецыфікі навучання…

Шмат хто з перспектыўных музыкантаў, асабліва пад час падрыхтоўкі да конкурсаў, мог зусім не наведваць лекцыі па «не музычных» дысцыплінах і атрымліваць добрыя адзнакі, каб не мець перашкоды пры паступленні ў ВНУ. Дырэкцыя лаяльна адносілася да такой вольніцы, бо ведала: музыкант павінен мець шмат часу на самастойныя заняткі музыкай…

І ВНУ не выключэнне, праўда, усё сказанае не тычылася самай галоўнай навукі савецкага чалавека: тэорыі марксізму-ленінізму!

Мае веды роднай мовы былі не проста дрэннымі — нулявымі. Я нават здолела атрымаць адзіную двойку за сямнаццаць гадоў навучання, на экзамене па беларускай літаратуры, якую выправіла наступным жа днём.

Як можа *пісаць* чалавек, не ведаючы роднай мовы? Я шмат чытала з рускай літаратуры, захаплялася яе прыгажосцю і разумела: гэта мова ніколі не стане мне роднай, я не адчуваю яе генетычна, так, як павінен адчуваць чалавек з прэтэнзіяй запісваць думкі… а родную — не ведаю зусім.

Сапраўдная трагедыя, калі ты маеш *што* сказаць і не маеш на тое *слова*! А так жа многія беларусы…

І ўсё ж у нейкі момант душа невыцерпна запатрабавала: перамяніць мову!!!

Паспрабавала перакладаць раней напісанае з рускай на родную, тое, што атрымалася, па сваёй самаўпэўненасці, адаслала адразу — не ў якую-небудзь раёнку ці «Віцебскі рабочы» — напрасткі ў «ЛіМ» ды «Маладосць»… Цудам здаўся мне ліст Юрася Свіркі з просьбай даслаць яшчэ некалькі апавяданняў для сапраўднай, асобнай падборкі на ўсю старонку штотыднёвіка, ахвяраваную пад прозу… І словы Анатоля Казлова, які з першай хвіліны тэлефоннай размовы ўспомніў апавяданні, дасланыя ў рэдакцыю: «Прачытаў Вашу прозу, памятаю. У Вас ёсць талент — абавязкова пішыце! Будзем друкаваць».

Не мела я тады яшчэ чаго даслаць, але цёплыя словы такіх вядомых літаратараў падбадзёрылі: сабралася з думкамі, села і — рука пачала пісаць сама без перапынку. Думкі набягалі адна на другую, блыталіся, выслізгвалі з памяці, потым супакоіліся і пацяклі роўнай плынню… Скончыўшы апавяданне, я не магла зразумець, *адкуль* узяліся словы, якіх не ведала, не памятала. Перачытала твор, быццам не мной напісаны, дык і не мной — генетычнай памяццю ўсіх маіх продкаў…

Прадмова Юрася Мікалаевіча да маёй першай, гэта 1994 год, пад Восьмага сакавіка, старонкі ў «ЛіМе» акрыліла і натхніла мяне на творчасць. Прозу маю праз нейкі час станоўча ацанілі і іншыя выдатныя беларускія пісьменнікі, але заўсёды звярталі ўвагу на памылкі ў граматыцы.

Пакуль пра родную літаратуру дбалі літаратары — мае творы, нягледзячы на тыя заўвагі, друкавалі на старонках рэспубліканскіх выданняў, нават з анонсам. «Бог даў сіраце бацьку», як любіла казаць мая мама: на адной з літаратурных сустрэч Генрых Вацлававіч Далідовіч, паслухаўшы некалькі маіх твораў з «экспрэсіўнай лірыкі» (гэта, дарэчы, яго азначэнне жанру), прапанаваў выдаць першую кнігу ў «Бібліятэцы часопіса «Маладосць» — словы яго спраўдзіліся. У канцы 1998 года Далідовіч прыслаў мне яшчэ не прашытую першую кнігу: «Проста ноч на дварэ». А неўзабаве



пасля выхаду кніжачкі Генрых Вацлававіч прапанаваў уступіць у СБП, даў рэкамендацыю. Мяне прынялі ў 2002 годзе.

Ды прыйшоў час: рэдакцыйныя кабінеты занялі «дзелавыя людзі», а самай галоўнай вартасцю пісьменніка стала прыналежнасць да кагорты — мая проза ў такіх варунках «перастала адпавядаць» патрабаванням часу…

Тым больш не хапае трапных слоў, каб выказаць набалелае: «гарыць» душа — бракуе мовы, самых неабходных слоў — абрабавалі! Адабралі мову яшчэ ў маленстве. Так і застаўся комплекс непаўнавартасці, нейкай заганы, няўпэўненасці…

…Прыношу апавяданне ў рэдакцыю рэспубліканскага часопіса… Адказным за прозу сядзіць вядомы беларускі пісьменнік Н., з яго рамана шмат трапных слоў запазычыла я ў свой моўны запас:

— Не надрукуем мы Вас… — адказвае мужчына не чытаўшы твор. Добра разумею прычыну: я не перайшла ў «новы саюз», створаны ў інтарэсах… не мастацкіх, засталася ў забароненым «нячэсным саюзе», па-за літаратурным жыццём краіны, але хачу, каб пісьменнік агучыў гэту прычыну. Рэдактар таксама разумее ўсё, пра што думаецца мне, ды не можа адкрыта выказацца — не займаў бы гэтае месца…

— Чаму? — настойліва паўтараю пытанне.

— Таму, што Вас няма ў спісе рэкамендаваных да друку пісьменнікаў, — нарэшце, пасля невыразных спроб «адмазацца», панурыўшы галаву, прызнаецца рэдактар аддзела прозы.

— Але ж Вы нават не чыталі тое, што прынесла?

— Навошта час марнаваць? Яго і так не хапае — бач, колькі чакае тэкстаў… — ён абвёў рукой стосы рукапісаў ад падлогі да столі. — Мы не зможам надрукаваць Вашу прозу… бо, яшчэ раз тлумачу: Вас няма ў спісе рэкамендаваных да друку пісьменнікаў… Добра — я прачытаю, але гэта нічога не зменіць…

Н. запрасіў мяне праз пару дзён у рэдакцыю:

— Прачытаў… Ваша проза сапраўды мастацкая. Не надуманая — жыццёвая, да таго ж прымушае разважаць, уздымае маральныя і духоўныя праблемы. Мова прыгожая, жывая. Нарэшце, напісана вельмі цікава і чытэльна… Думаў пару старонак прагарнуць, а тут — адарвацца немагчыма… Я мушу кожны дзень чытаць вось гэта графаманства, — рэдактар паказаў некалькі рукапісаў і адкрыта назваў даволі вядомыя, па частаму мільгаценню ў перыёдыцы, прозвішчы. — Самому брыдка, але… Мы не можам Вас надрукаваць. Вас няма ў спісе рэкамендаваных да друку пісьменнікаў… Калі жадаеце, у мяне ёсць афіцыйна больш прымальная прычына — у Вашай прозе шмат граматычных памылак, ёсць русізмы. Хто іх будзе выпраўляць? У нас няма каму гэтым займацца!



## «УЧИТЕЛЬНИЦА ПЕРВАЯ МОЯ…»

Нам не шанцавала. У іншых вучняў была «першая настаўніца», а наша, абвясцілі, — у дэкрэтным адпачынку. Жанчына, якая прыходзіла ў клас замест выкладчыка, вельмі напаміналa нашу суседку, і не толькі паўнатой цела, яна гэтак жа бессаромна абгаворвала людзей і сама рагатала на ўвесь клас са сваіх слоў. Мы хутка вывучылі і яе радню, і знаёмых, і суседзяў, «дрэнна апранутых» непаслухмяных вучняў школы і гэтак далей: усё, акрамя неабходных ведаў. Затое яна была не злой…

Вось з'явілася нарэшце ў класе «учительница первая моя», з высокім «колабам» на галаве — прычоска модная ў тыя гады, з «аднавокім» позіркам Джаконды — не, такой прыгожай яна не была, а вось «комкі Бешау» месціліся на яе твары адпаведна (па монаўскаму тыпу), толькі значна ўтрыравана. Рыма ніколі не крычала, толькі паводзіла адным відушчым вокам — другое было шкляное, на яе твары чыталася нелюбоў. Да таго ж яна, як гэта робяць адзін аднаму дрэнна выхаваныя дзеці, помсціла за ўдачу і поспех.

На ўроках малявання аднакласнікі абступалі маю парту і не чулі яе гнеўна-строгага вокліча: «Сядьте по местам»… Што ж, яна цярпліва чакала званка, потым спакойна абходзіла кожную парту, ставячы адзнакі, пад маім малюнкам чыркала «тры», клас гудзеў, я нічога не разумела, акрамя таго, што *злое* не заўсёды відавочнае, як звычна мне было бачыць дома, калі мае смешныя бацькі злаваліся — страсалася наваколле…

Рыма Фёдараўна не стала «маёй першай настаўніцай» — яна не любіла мяне, а ў сямігадовым «веку» складана самой зразумець: за *што*?



## «КАЖЕТСЯ, МОЖНО ПОТРОГАТЬ…»

Безабаронная і «посрамлённая», цягнулася я дамоў, каб сястра Рая (неўзабаве яна сама вывучыцца на прафесійнага мастака) суцешыла гора-вучня…

Пройдзе палова жыцця, пройдуць мае першыя выставы, з'явяцца часопісы і каляровыя альбомы з маімі жывапіснымі работамі, і аднойчы, заехаўшы да мяне ў Падсвілле ў госці, сястра Рая ўважліва разгледзіць мае карціны і скажа: «Люся, якая ты маладзец!» — і голас не здолее схаваць нотку шкадавання — яна, прафесійная мастачка, сумысна адказалася ад кар'еры мастака, перавучылася на тэхнолага-«пищевика», працавала на мясакамбінаце: «каб дзеці ніколі не зналі галечы…» А я ў свой час «цяжка і глыбока» задумаюся, ці мела права, нарадзіўшы траіх дзяцей, адрываць ад сям'і столькі часу…

У пятым класе ўрокі пачалі весці асобныя выкладчыкі-прафесіяналы. Раіса Ануфрыеўна стала ля маёй парты (я ўціснула галаву ў плечы), узяла альбом і на адлегласці выцягнутай рукі доўга ўглядалася ў нацюрморт з гліняным гаршэчкам, лыжкай і цукеркамі, а Міша Грыцкевіч тэатральна працытаваў яе ж словы наконт майстэрства мастакоў: «Кажется, можно рукой потрогать?»

— Да, ты прав, Миша, кажется, можно потрогать рукой!

І потым нязменна «чапляла» размашыстую пяцёрку ў ніжнім правым ражку кожнай старонкі майго альбома — берагу яго і па дзісьдзень, як памяць пра настаўніцу, якая вучыла дзяцей паважаць сябе…

Так пачалася мая самарэабілітацыя. Бо тое, што ў бацькі Васілёк лічыўся «страцегам» і «асесарам», спісвалася на яго «заангажаванасць», а поспех на першых школьных занятках (мне для прыкладу адвялі асобную парту, каб падсаджваць кожны дзень розных дзяцей — няхай вучацца, як трэба пісаць, чытаць, адказваць…) не паўплывала на маю самаацэнку, больш таго, з прыходам Рымы разбурылася поўнае ўяўленне сябе ў жыцці.

Чалавеку маленькаму неабходна адчуваць, *што ты ёсць*, а гэта адбываецца пры ідэнтыфікацыі і справядлівым ацэньванні дарослымі яго намаганняў.



## ВО ГЭТА ВО — НІЧОГА…

Першую сапраўдную пахвалу ад сваёй маці я пачую на чацвёртым дзясятку жыцця… Яна гасцявала ў мяне ў Падсвіллі, а я ў той час збірала карціны на сваю першую раённую выставу, вось-вось пад'едзе машына з аддзела культуры забраць работы, я чакаю і дамалёўваю апошнюю — «Рака Лета», цяжкая па сэнсу, змрочная; яе потым, падчас дэпрэсіі, спалю разам з многімі карцінамі, дзённікамі і прозай, яна ж пасля вогнішча, зусім нечакана, без майго ведама і дазволу, з'явіцца ў штотыднёвіку «Сем дзён» і ледзь не штурхне мяне да судовых разборак з рэдакцыяй, на што па тэлефоне стане падбухторваць мяне і адвакат з Мінска, якому ўжо сляпілі вочы зайздросныя адсоткі ад судовага працэсу. Сам знайшоў нумар тэлефона і ажно тры разы патэлефанаваў, спрабуючы ўгаварыць

мяне завесці выйгрышную справу, а тыдзень жа таму, як я з ім хацела параіцца, — падступіцца не было магчымасці да яго праз вялікую важнасць і недавер. Галоўны рэдактар штотыднёвіка «Сем дзён» скажа: «Вы, без сумневу, выйграеце працэс, і нас закрыюць як газету, бо плаціць нам няма чым…» — а ўсю віну ён ускладзе на ветэрана вайны, старэнькага карэспандэнта, які ва ўгоду падпісной кампаніі праілюстраваў маімі рэпрадукцыямі, «пазычанымі» з другога часопіса, самыя папулярныя тэмы сярод чытачоў.

Я разумела, што гэта адгаворка, — за ўсё адказвае галоўны рэдактар, але не стала судзіцца, бо ўспомніла, як шанцавала заўсёды мне на пасадзе дырэктара музычнай школы, колькі праверак і камісій давялося перацярпець, і кожны раз — то людзі траплялі́ся *людзьмі*, то — ад Бога дапамога. Падумала, што магу страціць гэтакую прыхільнасць лёсу, калі не зразумею: памылка магла здарыцца і са мной, не трэба караць вінаватых — сама не раз грашыла.

Прышлюць да мяне ў Падсвілле карэспандэнтку дзеля прымірэння: яна, не вымаючы з роту цыгарэты, за тры дні «прасмаліць» усю нашу кватэру, у якую засялілася за няйменнем гасцініцы ў пасёлку, і ніяк не пажадае з'ехаць раней адведзеных пад камандзіроўку трох сутак; накрэмзае такое жудаснае па стылю і мове інтэрв'ю, што я яшчэ горш раззлуюся — мушу перапісаць яго сваёй рукой і мовай ад першага да апошняга слова, не толькі адказы — дык і пытанні, і дазволіць ёй ад яе ж імя надрукаваць інтэрв'ю (карэспандэнтка баялася атрымаць вымову ад рэдактара за невыкананне даручанай справы), бо вось *так*: «Приступая к тому или иному произведению…» — ні пісаць, ні чытаць немагчыма…

Дык вось я дамалёўвала тую «Раку Лету», стамілася і кажу сама сабе: не, ужо гэту не даб'ю, няхай застаецца дома… І тут маці, якая ціха назірала за мной, падышла — паглядзела з-за спіны і кажа:

— Не-не, дачушка, дабівай, дабівай: во гэта во — *нічога*.

То была найвышэйшая ад яе пахвала.



## «Я САМА…»

«Падаждала б дзяўчат! Памаглі б што», — своеасабліва паспрабавала маці ўмяшацца ў навучальны працэс першага дня маіх школьных заняткаў. Седзячы на падлозе (як потым па звычцы ўсё жыццё: і малявала, і майстравала штосьці з «шціва» — усё на каленках ды на падлозе), я спешна выконвала дамашняе заданне, крэсліла неабходную колькасць рысачак і кружочкаў у сшытку.

«Не! Я сама!» Ніхто і ніколі больш не насмеліцца з сямейных дапамагаць — сем гадоў жыцця дазволілі мне зрабіць сумную выснову: дарослыя *нічога не разумеюць*.

На жаль, мае дарослыя не маглі адказаць ні на адно пытанне, якімі поўнілася дзіцячая галава. Хацелася пра ўсё даведацца-дазнацца, распытаць, абгаварыць… Ад мамы я чула адзін адказ: «Адкуль я знаю?! Адчапіцеся вы ад маёй галавы!» Ёй не цікавым быў сусвет, мама ленавалася думаць… А бацька…

Проста ў маім асяроддзі на той момант не знайшлося сапраўды дарослых людзей…



## «AHNENERBE UND TULE»

І зараз не сумняваюся: немаўляты ўсё разумеюць, але яны не здольныя выказаць дарослым на невядомай мове свае пачуцці, пакуль вучацца, прывыкаюць да сродкаў тутэйшых зносін, разумеюць бессэнсоўнасць іх тлумачэння, а потым… самі робяцца «дарослымі». Самыя галоўныя ў жыцці чалавека ўяўленні нараджаюцца з ім…

І я не набывала ўражання пра дабро і зло. Памятаю сваю разгубленасць ў двух-трохгадовым узросце, калі бацькі сварыліся, вярзлі жудасную бязглуздзіцу і рабіліся дуркаватымі — чаму яны так сябе паводзяць?! (А ў сталым веку сама дапускала такія ўчынкі, што ні розумам, ні сумленнем не спасцігнуць…) Шкадавала дарослых, і адчувала сябе вартаўніком, прыстаўленым да іх, каб не нарабілі сабе «блоту» і шкоды.

Маё фізічна-псіхалагічнае самаадчуванне ў першыя гады жыцця было роўным таму, як бы чалавека сілай уціснулі ў надта цесную чужую вопратку — мала, што яна па ўсіх швах ціснe, коле, рэжа, казыча, дык чалавек яшчэ баіцца зірнуць на сябе ў люстэрка: там хтосьці чужы і варожы… Даволі доўгі час мне здаваліся брыдкімі кожная рыса твару, складачка на целе і наогул само чалавечае цела ў маім варыянце

А ноччу мяне палохаў партрэт… Не мела значэння: сплю ці — не, адкрытыя мае вочы альбо заплюшчаны. Аднекуль з'яўляўся партрэт *жывога* чалавека, мужчыны, і ўважліва, строга ўглядаўся ў мяне. Як мне было страшна! Не мог «партрэтам» стаць успамін «спавівальнага» перыяду дзяцінства — за што адразу ўхапіліся б псіхолагі. Над калыскай маёй не

мог нахіліцца чалавек *такога* рангу. Нават дыпламаваны ўрач не выглядаў бы падобным чынам, а прадстаўнікі нашага роду дык зусім — людзі сялянскія: ціхія, сціплыя, простыя альбо ганарыстыя, дзікія, хамаватыя… А там: нават не *парода*, там — *светаразуменне* і *воля*.

Нейкі час, даведаўшыся ад мамы, што мянушку сваякі насілі Папкі, ды і «кніжак святых у дзеда Юстына была поўная скрыня», чаго ніхто ў акрузе не меў, думала — генетычнае штосьці. Не! Такое аблічча, позірк і волю не мог мець ні адзін звычайны чалавек, нават святар.

…Акрамя таго, як толькі я навучылася разумець мову, у маёй галаве не перастаючы гучаў настойлівы напамін: *ты не такая, як усе*. Дзе б ні была, што б ні рабіла, хтосьці паўтараў як код гэту фразу, каб не пасмела забыцца. І некалькі разоў у жыцці я мела магчымасць упэўніцца, што голас не лгаў. Я ператваралася ў агонь…



## К ДОСКЕ!

Першы раз на ўроку алгебры. Яе вяла наша класная, зрудзелая, ссохлая ад злосці старая дзева, «Квадратная Чэлюсць» — ахрысцілі мы яе, і не саромлюся гэтага! Пра яе асобна… Тут — «*о высоком*»… Карацей, на ўроках Квадратнай Чэлюсці мы сядзелі смяротна спуджанымі. Не жартую… Усім вучням класа на той момант не пашкодзіла б свянцоная вада ад суроцаў і ўпуду. Матэматычка нахілілася над журналам, выглядаючы, кім бы паснедаць, і тут я ўспомніла, што не ведаю нават назвы тэмы.

Трэба адхіліцца: я ніколі не вучыла ўрокаў, бо не мела магчымасці. Не рабіла пісьмовых заданняў, не чытала вусных. Прычына будзе патлумачана ніжэй. Дадам толькі, што і пры такіх адносінах да навукі я паспяхова вучылася і нават на Дошцы гонару павісела, калі не хапіла на яе афармленне круглых выдатнікаў. Але! Хоць бы назву матэрыялу ведаць было неабходна. На гэты раз я не памятала ні гуку. Ад страху не разлічыўшы сілу голасу, я на ўвесь клас спытала: «Што нам задавалі?!» Толькі было ўжо позна: ахвяру прыкмеціў звер. Матэматычка тыцнула пальцам у маім напрамку і праз зубы працадзіла:

— К доске!

Я ўстала. Мае ватныя ногі не трымалі цела. Я нібы плыла па паветры: такім было ўражанне. Спынілася ля дошкі і ператварылася ў агонь. Нічога не бачыла і не чула, акрамя абсалютнага полымя ў сабе і вакол. Не вобразна — рэальна. Вусны ў гэты момант вымаўлялі патрэбныя формулы і правілы.



— С каким бы удовольствием я поставила бы тебе двойку: я же знаю, что ты не открыла учебник! Садись — пять.

За партай апамяталася… Сэрца калацілася з патроенай хуткасцю і сілай. Няма нічога дзіўнага ў тым, што матэматычна здольны вучань, — а мой талент у матэматычных навуках быў відавочным, — адказвае ўрок, няхай і малазнаёмы матэрыял; надзвычайна адчуваць сябе агнём.

*

Быў і другі раз. Больш дасканалы і складаны па вопыту. Я скончыла першы курс музычнага вучылішча, прадстаяла здаць да ўсяго іншага экзамен па курсу фізікі. Гэта навука не далася мне «па слыху», маіх здольнасцяў аказалася малавата, каб, назіраючы ў акно змены прыродных з'яў, думаючы аб сусветных пытаннях чалавецтва, на лекцыях запамінаць законы і формулы геніяў ад фізікі. Вельмі хутка выкладчык зразумеў: я не бачыла на вочы падручнік і катэгарычна не жадаю адрозніваць ад ампера вальтметр. Папярэдзіў:

— Готовьтесь к отчислению.

Аднакурснікі старанна рыхтаваліся да іспытаў, я гэтак жа старанна сядзела побач з імі ў скверыку на лаве, слухала вясновы спеў птушак. Сябры ўмольна прасілі: ну пачытай хоць што-небудзь. Я ўсе ж не ідыётка. Курс фізікі спасцігнуць за два дні! Гэта не казкі перагартаць — навука сур'ёзная і складаная, калі ты яе не ведаеш — «крышачку пачытаць» нават і не ўдасца. Толькі адно і зараз здзіўляе: ўпэўненасць. Я быццам знала — усё будзе выдатна…

На экзамене выцягнула білет — паказала выкладчыку, той, не саромеючыся камісіі, заржаў на ўсю аўдыторыю:

— Так тебе и надо: лодырям — по заслугам!

Ну, гэта яму так здалося, што білет самы складаны, з дзвюма задачкамі (у іншых па адной), да таго ж яшчэ нейкая найскладанейшая тэма. А таму, хто нічога не ведае, яны ўсе — абсалютна роўныя…

Села за стол, і рытм сэрца, як і ў першы раз, пачаў набіраць хуткасць, удары ўзмацняліся па сіле. Я ператварылася ў полымя, зрок звузіў дыяпазон, знікла перыферычная карцінка: відазмянілася оптыка, быццам я — гэта штосьці высока-высока ў космасе, а маё цела — толькі мікраскоп, праз які назіраю за тым, што адбываецца зараз вось тут, менавіта на экзаменацыйным лістку паперы. Як на самых першых кадрах жыцця, памятаеце? — вось гэта будзеш ты… але сам ты — так высока, што не кожны момант здольны мець сувязь з сабой… Рука пачала шпарка-шпарка запісваць формулы і лічбы. Фізік доўга і ўважліва сачыў за мной (на гэты раз я не поўнасцю адключылася ад рэальнасці, не «пакідала» аўдыторыю),

падышоў, агледзеў месца наконт наяўнасці шпаргалак. (Якія «шпоры»?! Я не ўмела імі карыстацца, ды і які сэнс? Пакуль напішаш шпоры, лепш — вывучыць.) Загадаў перасесці за яго стол. Гэта «дзвіжуха», як ні дзіўна, не вывела мяне з трансу, я працягвала пісаць… Выкладчык відавочна разгубіўся і прапанаваў задачы рашаць ля дошкі. Тут абурылася камісія: маўляў, «несправедливо и предвзято», але, каб менш гвалту, я перайшла да дошкі, і зноў не згубіла «сувязі». Білет «выканала»! Мартас, такое прозвішча выкладчыка, не супакоіўся, адкрыў падручнік на змесце і паспрабаваў схапіць на дадатковых пытаннях. Я б адказала лёгка на ўсе, але камісія запатрабавала:

— Пять!

— Не-е-ет! — выгукнуў фізік. — Я ничего не понимаю… но пять я всё равно ей не поставлю! Хватит с меня и четвёрки…

З мяне — тым больш…

Зноў не трэба здзіўляцца выніку на іспытах: маеш здольнасці, дык мозг запомніць і выручыць. Транс здзіўляе: полымя і разумная рука — на такое трэба мець асобны дар. Ясная, не забруджаная паўсядзённай дробяззю галава і «чуткая» рука.



## ЗДРАСЬЦЬ…

Было і ў сталым веку штосьці падобнае. Сустрэла на вакзале ў Падсвіллі сваю дачушку, навучэнку музычнага вучылішча, яна прыехала цягніком на выхадныя — ідзём далёкай пустыннай дарогай праз ноч дадому. Насустрач «баранує» крэпка нецвярозы хлопец. Я яго ведаю, а ён па сваёй п'янай слепаце прыняў нас за дзвюх дзяўчат і пачаў вельмі груба чапляцца. Хлопец быў не ў сабе, і мы, як мага дыпламатычна, адкараскаліся ад кавалера, хоць страх прабраўся ва ўсе часткі цела…

Раніцай іду на работу, бачу: ля вугла музычнай школы стаіць шобла валацуг-амбалаў, сярод іх і наш кавалер: мяне затрасло… Не вобразна — літаральна, закалаціла бы ў ліхаманцы. Я падплыла: ног не адчувала — плыла па паветры, да «группы молодых товарищей», знайшла вочы ўчарашняга хлопца — ён прысеў… ад майго пагляду…

— Калі пачую ад цябе хоць раз тыя словы, што чула ўчора ноччу, — ты пашкадуеш… — гэта прамовіла так, што сама спужалася свайго голасу… Звінела цішыня…

З той пары ён здалёк вітаўся са мной, уцягнуўшы галаву ў каўнер — *здрасьць*… і пераходзіў на другі бок вуліцы.



Але той транс адбыўся для мяне ўжо зусім інакш, вельмі балюча ў параўнанні з юнацкімі прыкладамі. Галава балела невыносна.



## ЛЁСАВЫЗНАЧАЛЬНАЕ

Любімай гульнёй у нас у маленстве былі канцэрты. Нам, артысткам-суседкам, па сем-дзесяць гадоў, гледачамі сазваныя дзеці з усёй акругі, ёсць хтось дарослы: бабкі-нянькі. Але больш за ўсё хацелася, каб прыйшлі мальцы з іншых вуліц: на нашай хлопчыкаў амаль не было. Сцэнай назначаўся чыйсьці ганак на тры-чатыры прыступкі, альбо веранда з расчыненымі дзвярамі, ці ў полі вялізны камень-валун.

Уся дзея стваралася па сцэнару: з заслонай, канферансам, спевакамі, чытачамі, акрабатамі, танцорамі і нават акампаніятарам. За паўгадзіны вывучалася выбранае «на тэму» з адрыўнога календара: вершы, песні. Рэпеціравалі «Цыганачку» з выхадам, ды ў «сцэнічных» (матчын сарафан) касцюмах.

А слабо на трох басах тульскага баяна закаціць «імпровіз» аж на шэсць кален?! «Цыганачка» ў выкананні Тані Глінскай была ў праграме каронным нумарам! У той год мяне аддалі ў музыкалку, і правай клавіятурай «на слых» я яшчэ не валодала, а ў левай дальні сваяк Федзя з вёскі Швэплі паказаў мне тры басы, нежартоўна здзівіўшыся, як шустра я схапіла яго навуку…

Потым, стаўшы выкладчыкам музычнай школы, ужо здзіўлялася і я, гэта складаны этап у развіцці маленькага музыканта. Знайсці сярод ста кнопачак у пяць радоў з розным назначэннем неабходныя пары, націснуць іх адпаведна-рытмічна, не кранаючы лішніх, перанесці пальцы на наступныя, і ўсё з перыядычным механавядзеннем. Гэты працэс займае шмат этапаў і некалькі ўрокаў.

Ітак, музыканты, навастрыце вушы, успомніўшы мелодыю «Цыганачкі»! Калена першае: чвэрцямі бас-акорд, бас-акорд. Так: цэлая фраза на выхад з бубнам. Калена другое: бас — та, та, та (восьмыя), бас — та (чвэрці). Бас акцэнтаваны. Далей танцорка робіць адкіды назад, патрасаючы валасамі, плячамі і «ўмоўна» грудзямі… — калена трэцяе: бас-акорд сумесна (разам) на глыбокім жорсткім трэмала мехам плюс бубен. На пятым калене — кульмінацыя: бас-акорд восьмымі ды зноў з акцэнтам на басе. На шостым Таня абходзіла «зал», збіраючы букеты, а я выдавала: бас чвэрцю, два акорды восьмымі. Ну, гэта без падрабязнасцяў — былі ж яшчэ завяршаючыя такты пры кожнай фразе…

Стоячы, я ледзь трымала ў руках баян, затое эмацыянальны падмурак быў на месцы і жадання «выступаць» — вышэй галавы, тут і адкрываецца прастора для творчасці. А ўзнагарода: першая ў жыцці запіска з прызнаннем у каханні ад хлопчыка-забіякі Лёні Мацкевіча.

…Той год мяне аддалі ў музычную школу…

*

Дык вось пасля другога класа я здала экзамен у музычную школу… Бацька сустрэў мяне гучнымі апладысментамі: я ж паведаміла, што прынялі. Ён, цікаўны да падрабязнасцяў, дапытваўся: «Дык што ж табе сказалі?» — «Пятнадцатого за результатами…»

Напэўна, у другім класе нам яшчэ не патлумачылі, як на рускай мове гучыць слова «вынікі», затое міміка бацькавага твару мной чыталася беспамылкова, нейкі знак, паданы ім для сястры, і потым: «Ну, добра ж, добра» — я імгненна ўразумела, што не ўсё так проста.

Ад мая да верасня я і забылася пра музычныя поспехі, ды не забыліся бацькі, ажно — дачакаліся «результатов» і выправілі дачку вучыцца іграць на баяне.

Цікава, мая старэйшая сястра Рая, было раней, паступіла ў музычную школу, але і сама яна, і бацькі, ды, напэўна, і выкладчыкі ў верасні пра гэта не ўспомнілі, а мне ўжо не было выйсця.

Вось я вяртаюся ў абед са школы, трэба ісці ў музычную — дома нікога звычайна няма… І гадзінніка таксама няма. Як без замка, так і без гадзінніка мы абыходзіліся гадамі. Раніцай маці паглядала на дарогу — ідуць дзеці ў школу, ну і нас выпраўляла. (Мне і праз усё жыццё гадзіннік не патрэбен…) Я ішла ў музычную школу стаяць на калідоры, пакуль які выкладчык не здагадаецца паклікаць альбо адвесці мяне на спецыяльнасць ці сальфеджыа.



## ВОСЬ ТАКАЯ ЛЮБОЎ

Лёня Мацкевіч — сусед, хоць жыве на другой вуліцы, але ходзім мы да яго напрасткі, праз двор бліжэйшай суседкі Лены, па мянушцы Шмыт, атрымліваецца: Лёнькаў дом таксама побач.

Ён вучыўся са мной у першым класе, а ў другі наш клас пайшоў без Лёні, бо яго пакінулі на паўторны год у першым. Я дужа ўзрадавалася такой акалічнасці: баялася Мацкевіча, як па сённяшні дзень старанюся неўтаймаванай фізічнай сілы і агрэсіі…

Лёня быў закаханым у мяне, а любоў сваю праяўляў дзіўным спосабам: пасля ўрокаў пераймаў дзесьці з-за вугла па дарозе дамоў і нападаў драпежніцкім чынам. Добра надаваўшы тумакоў, аддубашаную, выкачаную ў снезе па вушы, Леанід пакідаў мяне, напаследак агрэўшы партфелем па галаве… траціў усякі інтарэс да кахання.

Ішла я, зрумзаная, у цемнаце да свайго дома, камянеючы ад страху ля «трупяркі» (на нашай вуліцы, у глухім бязлюдным месцы, сярод старых высачэзных асін знаходзіўся раённы *морг*: вуліца ж — Шпітальная) і думала: што за любоў такая?! Замест таго, каб разам прайсці вось гэта страшнае месца, ён б’ецца…

Крыху ачуняўшы ад страху і ад Лёневага «кахання», я з нецярплівіцы кулём нягегла ўлузваюся ў дзверы свайго дома, а там мяне ўжо чакае ўхажор: у цяпле, святле, мірна, утульна і па-гаспадарску ён сядзіць на падлозе пры ўваходзе сярод вітальні, абклаўшыся наўкола «святая святых!» — маімі кніжкамі.

— Уматвайся адсюль!!! — бы «знячыўя», узгалошваю я.

— Дачушка, чаму ж ты гэтак крычыш на нашага госця? — здзіўляецца маці. — Ён сказаў, што будзе асцярожным з кніжкамі, не парве, не папсуе…

Ад злосці і крыўды я страчваю мову, бо і так першакласнік не надта здольны распавесці набалелае ў душы!..

Лёня не звяртае ніякай увагі на словы пратэсту, пачэсваючы свой масіўны лачбан, стрыжаны «пад нуль», з цікаўнасцю засяроджана разглядае малюнкі: чытаць ён так яшчэ і не навучыўся…

…Гэта ў Лёневым двары, на Лёневым ганку я сутыкнуся з «прозай і драмай» дарослага жыцця.

Яго мамка, смяюлля-весялуха Фрося, разам са сваёй роднай сястрой Жэняй будуць перабіраць ягады чорнай смародзіны, абразаць з іх хвосцікі, трымаючы нажніцы мокрымі, бруднымі ад ягад рукамі, будуць ціха гаманіць, шаптацца… Праўда, ад маіх дасужых вачэй твар Жэні не здолее ўтоіць нейкую незразумелую дзіцячай свядомасці адчужанасць і трывогу, глыбока схаваную роспач-тугу…

Праз нядоўгі час я ўведаю ад дарослых — Жэню «засудзілі». Яна не прызналася нікому, што чакае дзіцятка, і скінула народжанае немаўля ў драўляную ўборную.

Мой дзіцячы розум абараніўся ад страшнай навіны неразуменнем, хоць і паспрабавала дапытацца ў мамы, чаму такое магчыма, але яна, як звычайна, адхрысцілася ад маіх пытанняў… Так дарослае жыццё засталося ў маёй свядомасці неўсвядомленым.



## СВЯТАЯ СВЯТЫХ

Вось на штo-штo, а на кніжкі мацi мне заўсёды давала грошы, на самыя танныя, але абавязкова давала капеек дзесяць-пятнаццаць. Гэта не мала, улічваючы, што не каляровыя кніжачкі каштавалі ад двух да пяці капеек, а каляровыя ад пяці і вышэй. З кожнага паходу я магла займець тры-чатыры кніжкі. Пад першы клас у мяне назбіралася іх поўная скрыначка, і мама ганарылася, што столькі кніжак не мае ні адно дзіця «багатыроў», так мама называла эканамічна лепш уладкаваныя сем'і.

Мне адной было дазволена хадзіць у кніжны аддзел, і я ведала, дзе знаходзіўся ўнівермаг раней і куды пераехаў потым. Не абышлося і без непрыемнасці…

Па сваёй эмацыянальнай нястрыманасці аднойчы я, не прагледзеўшы ўсе паліцы, заплаціла за кніжку і пайшла, трымаючы яе ў руках, далей разглядаць новапрывезеную літаратуру. Як на бяду, мацi дала мне ў той раз забагата грошай — я купіла адну, але каштоўную кнігу. Нарэшце направіўшыся да выхаду, упэўнена мінула прадавачку…

— А плаціць хто будзе?! — грозна спыніла мяне жанчына.

— Я ж плаціла…

— Нічога не ведаю. Сорак капеек!

— Я аддала вам усе свае грошы.

Жанчына адабрала кнігу і выправіла мяне дамоў.

У той вечар была дома старэйшая сястра Люда, мацi паскардзілася ёй на такое бясчынства і зарадзіла абуральным запалам, сястра не пашкадавала ні часу, ні нерваў, пайшла са мной у кніжны магазін… Люда змагла патлумачыць прадавачцы, хто ёсць хто… А яшчэ купіла мне ў суцяшэнне найкаштоўнейшыя (больш за два рублі кожны) падручнікі: «Школу ігры на баяне» і «Тэорыю музыкі» Вахрамеева (бацька цяперашняга нашага Архіепіскапа Філарэта) у дыхтоўных цвёрдых вокладках, вельмі патрэбныя кнігі для музыканта; такіх падручнікаў і сапраўды не меў ні адзін вучань у школе, нават з «багатыроў»…

Кнігі на ўсё жыццё сталі маім захапленнем. Я хутка зразумела, што пры дапамозе гэтых невялічкіх прамакутнічкаў чалавек набывае магчымасць параўноўваць свае думкі, размаўляць з *вялікімі асобамі*, якія даўно пакінулі праяўлены свет, але застаюцца жывымі… набыць сапраўдных сяброў, пабываць у розных краінах і гістарычных адрэзках часу, атрымаць адказы на многія пытанні.

Потым, у Наваполацку, я буду нярэдка пакідаць усю сваю стыпендыю ў кніжным аддзеле, прычым зусім не разбіраючыся ў каштоўнасці літаратуры, не ведаючы прозвішчаў выбітных пісьменнікаў, філосафаў, мастакоў… Ды прыйдзе час, і я пачую пра іх, кожны раз быццам выпадкова. Зацікаўлюся, пачну шукаць… А яны ўжо самі чакаюць мяне на маіх жа кніжных паліцах, раней прыдбаныя і да пары не ўведаныя. Так я «знайшла» ў сваёй бібліятэцы любімага Мадзільяні, Шагала, Ахматаву (забароненую агульнаасветніцкай праграмай навучання)…

Чытала я своеасабліва: не запаміналa ні назвы твора, ні сюжэта: мерай каштоўнасці аўтара было адзінае — транс. Так беспамылкова правяраю на сапраўднасць любы мастацкі твор: жывы ці не… Аднойчы ў мае рукі трапіла кніга Габрыеля Гарсіа Маркеса, аўтара, для не літаратурных колаў, на той час зусім невядомага — зараз раскручанага моднымі серыямі… «Сто лет одиночества»: да гэтай пары, перачытаўшы тройчы, не люблю (трэба ведаць гісторыю яго краіны, я — не ведаю), але факт геніяльнасці пісьменніка адкрыўся адразу, яшчэ ў юнацтве, з першых радкоў, нават у перакладзе, яны «падключылі мяне да электрашоку» — так моцна адчувалася энергія самога аўтара, быццам побач жывы дух, і паспрачацца з фактам не выпадае: любі — не любі…

Часта загаданыя ў думках кнігі прыходзілі самі: у нашай дзяржаве ніколі не было магчымым свабодна набыць тое, што табе патрэбна… Зацікавілася Міхаілам Булгакавым, таксама забароненым, асабліва хацелася займець дзённік яго жонкі… Прыязджае Ціхан, мой сын, і кладзе на стол «Дневники Елены Булгаковой»…

— Адкуль?

— Хтосьці пакінуў у цягніку на століку.

Паглядзела мастацкі фільм, дзе выкарысталі творы мастака-наівіста з глыбінкі Івана Ягоравіча Селіванава, — як мне захацелася пачытаць пра гэтага чалавека! Атрымай… Да мяне ў дом просіцца брат аднакласніцы Алёны паглядзець мае карціны, прывозіць падарунак: кнігу «И была жизнь», пра мастака і пісьменніка з народа Івана Селіванава, дзённікі, развагі, творы… Гэта з яго думак: «Бог — это опыт народный».



## УРОК

Раз у музычнай школе ўзняўся вэрхал — хтосьці сапсаваў новы стэнд з вялікімі бліскучымі фотаздымкамі аб дасягненнях у галіне савецкай гаспадаркі і культуры. У настаўніцкай не сціхаў гвалт — спрачаліся, падазравалі то аднаго, то другога хулігана. Чакаючы ўрок, я чула гаворкі і сама прыкідвала: хто ж мог нарабіць такой шкоды?..

Праз некалькі дзён на ўроку спецыяльнасці любімы выкладчык раскрыў мой дзённік: «Что это, Люда?» Я анёлікам глядзела на невялікія кавалачкі фотапаперы — паадрываныя беражкі з лічбамі ад першага да апошняга здымка «наглядной агитации», і толькі ў той момант пакрыху даходзіла да мяне, што жудасны хуліган, які ўзбударажыў школу, я сама і ёсць. «Никогда больше так не делай», — прамовіў настаўнік, здзьмухнуў папяровую мішуру ў сметніцу і забыўся пра тое назаўсёды.



## КРЫЖАВАНКА

Было і яшчэ куды горшае злачынства… Летам з суседкай Ленай часта хадзілі ўздоўж чыгункі да яе бабулі ў Жураўнёва. Раз на зваротным шляху яна падзыгнула пакласці камянёк на рэйку. Схаваўшыся ў бярэзніку, пабачылі, як пайшоў дымок з-пад колаў адзінокага паравоза. Ну дык давай старацца — панакладалі камення з абодвух бакоў пуці.

(Хоць крыху апраўдаюся — баялася я і амаль не клала камяні, ды не выракаюся віны.) Збеглі дамоў, заўважыўшы набліжэнне цягніка, у якім, дарэчы, маці Лены ехала ў Крулеўшчыну.

Вярнулася жанчына дадому з няўдалай вандроўкі, і няўцям кабеціне, які тут чакае падарунак! Абходчык чыгуначных пуцей прыйшоў… расказаць, па якой прычыне цягнік спыніўся на самым пачатку маршрута. Яны пазвалі маіх бацькоў і пілі да ночы, а мы з Ленай сядзелі ў садзе пад кустамі бы мышы і разважалі, ці страшна будзе нам у калоніі.

На тым не скончылася. У пачатку новага навучальнага года ў школу наведаліся інспектары, каб правесці сярод школьнікаў папераджальныя гутаркі аб розных выпадках небяспекі і правілах паводзінаў, на чыгунцы ў тым ліку.

Чалавек у форме чыгуначніка распавядаў якраз пра тое наша здарэнне. Нейкая моцная нябачная сіла схапіла мяне за шкірку і падняла, трымаючы вертыкальна здранцвелае цела. Дакладчык здзіўлена паглядзеў на мяне, як і ўся зала сотнямі вачэй вучняў і выкладчыкаў.

— Что с тобой, Люда? — запытаўся хтосьці з настаўнікаў.

— Гэта я зрабіла, — вымавіў за мяне голас.

Такога падвоху службовец не чакаў. Выкладчыкі не ведалі, як сябе паводзіць, — я лічылася сціплым і паслухмяным вучнем.

— Ладно, ладно, садись. Ты так больше не станешь делать?..





## ПЯЦЁРКА

Дзесьці ў пятым класе выдатнікам загадалі прынесці пяцёркі на дэманстрацыю. Рабіць іх прапанавалі з пенапласту, дзе яго ўзяць — не сказалі, усім і так было ясна: накрасці на прадпрыемствах.

Гэты новы будматэрыял толькі-толькі з'явіўся ў рамонтна-будаўнічых установах, ды і то не паўсюль. Як яго апрацоўваць — ведалі нямногія.

Бацька ад шчасця і гонару за дачку-выдатніцу аж верашчаў! Па праўдзе, я ніколі не была круглай выдатніцай — напэўна, дырэкцыя рашыла прыўкрасіць калону і вынікі навучальнага працэсу ў школе. Вечарам бацька прынёс кавалак белага пенапласту: «Спі…дзіў», — радасна паведаміў сямейным.

Ён працаваў электразваршчыкам, дык рукі ад паўсядзённага кантакту з жалеззем ніколі не адмываліся да чыстага, заставаліся чорнымі нават пасля лазні.

Умоўна белы ліст пенапласту тата пачаў разліноўваць каляровым алоўкам, мастак з яго — яшчэ той, накрэмзаўшыся ад душы, нарэшце задаволіўся мудрагеліста-фігурным відам пяцёркі. Але як з крохкага ліста здабыць гэты шэдэўр?!! Бацька соп, дзьмухаў і кректаў над капрызным матэрыялам увесь вечар, мацюкаючыся, выломваў — інакш не скажаш, пяцёрку з пенапласту, штось склеіў, штось сашчаміў дротам — назаўтра я несла ў калоне невыносна смешны, мурзаты транспарант.

Выдатнікі трымалі ў руках белапенныя пяцёркі, аднолькава роўныя, рэзаныя пад шаблон спецыяльным інструментам, дзеля спрашчэння вырабу — прамавугольныя, як на паштовых індэксах, без заліхвацкіх хвастоў і апалонікаў. Мой майстравіты, здольны на ўсе гаспадарскія работы (хоць дом, хоць печ, калодзеж, лазня, абутак, электрыка… самагонны апарат), бацька ад хвалявання не здагадаўся нават нагрэць на агні нож, каб не крышыўся ліст…

Яшчэ не трывалы і не загартаваны мой маральны стан аказаўся не здольным абараніць ад пакут дзіцячую псіхіку, але і не перашкодзіў быць удзячнай свайму бацьку за «арыгінальнасць». Я ўжо магла штосьці разумець: проста іншыя бацькі ўмелі «спі…дзіць» больш арганізавана, дасканала і маштабна.



## ПАЛІТЫЧНА АСВЯДОМЛЕНЫЯ

Яшчэ адным з цікавых заняткаў у маленстве для нас было наведванне чужых уборных, балазе, агароджы, як і замкі, насілі выключна ўмоўна-дэкаратыўны характар: перакінуў нагу, перажаргнуў жардзіну — і ты на суседнім пляцы…

Менавіта ў такіх патаемных месцах вяліся задушэўныя размовы, дзеці знаёміліся з фізіялогіяй сабе падобных істот.

Характэрнай асаблівасцю тагачасных туалетаў былі стопкі папер, прыцвікаваныя да драўлянай сцяны, у каго — нарэзаныя з газет, у каго — з бухгалтарскіх бланкаў, вучнёўскіх сшыткаў, пуцявых лісткоў, аптэкарскіх рэцэптаў ці бібліятэкарскіх фармуляраў, хто дзе працаваў, той тым і, — перабываўся.

Дык адным часам спрэс па суседскіх уборных на цвіках віселі кіпы партрэтаў лысага пульхнашчокага дзядзькі з прозвішчам, падобным на назву дамапечаных прысмакаў-хрушчоў. Суседка разносіла пошту — распаўсюдзіла дабрачынна «туалетную паперу»: палітдзеяч выйшаў з моды.



## МАРАЛЬНА ЎСТОЙЛІВЫЯ

Тая дзяўчынка, мая аднакласніца, потым скончыла школу з залатым медалём і вывучылася на доктарку, а мне дык запомнілася па адным «грамадзянскім учынку» ў трэцім класе.

У панядзелак на першым уроку Ізаітка падняла руку да настаўніцы, тым часам указальным пальцам другой рукі тыцнула ў напрамку нашай парты.

— Я ўсё раскажу!

Мы ўліплі ў лаву.

— Я ўсе раскажу, Пашкова! — трэсла яна рукой, пакуль не звярнула на сябе ўвагу Рымы.

У мяне адлягло, а твар сяброўкі пабіла плямамі, уяўляю, што яна адчувала, мітуслíва ўспамінаючы, дзе і якую крамолу ўчыніла за выхадны дзень.

— Ну, что ты хочешь сказать, Зина?



— Рыма Фёдараўна, а ў суботу мы з бацькамі ўжо памыліся ў лазні і вярталіся дадому, а Пашковы яшчэ толькі-толькі ішлі купляць білеты ў лазню!

— Хорошо, садись…

Пад грукат барабана і медны аднатонны гук горна мы стаялі ў шыхт з трапяткімі сэрцамі і фанатычна бліскучымі вачамі: выносілі чырвоны сцяг. Сярод хлопчыкаў «музыкантаў», сцяганосца і яшчэ якогась выдатніка ішла — руку да ілба, салютавала адна дзяўчынка, валасы — дыба, нават схопленыя і скручаныя ў «хвост», яны тырчалі асобна ад галавы, амаль паралельна долу, бо мелі своеасаблівую структуру — «у спіраль закручаны дрот». Твар дзяўчынкі перапаўняўся сумессю складаных пачуццяў: адказнасць, гордасць, выключнасць, ганарыстасць… Гэты грукат барабана! І такія спрэс сур'ёзныя, строгія твары!.. Быццам ты становішся сведкай і ўдзельнікам чагосьці светапомнага, жыццяважнага, ствараецца штосьці векавечнае, глабальнае… І хацелася ўсіх прадаць, здаць, закласці, вывесці на чыстую ваду… толькі б ісці вось гэтак — хвост тырчма, руку да ілба… адной сярод хлопчыкаў на вачах усёй школы…

Штосьці падобнае адбывалася са мной у Вене, у канцэртным зале, дзе ўпершыню (смех сказаць — у пяцідзесяцідвухгадовым веку!) пачула сімфонію Брукнера: такі ўплыў мела на мяне жывое выкананне, што хацелася падхапіцца і выкрыкваць лозунгі перад элітай аўстрыйскіх меламанаў…

Чалавеку мала мець сумленне, мала мець ладна складзеную мазгавую сістэму, нават з такой раскошай, як здольнасць незалежна мысліць… Чалавеку абавязкова патрабуецца абмен інфармацыяй для параўнання, для аналізу і сінтэзу, для росту свядомасці… Чалавек павінен мець права выбіраць — думкі, меркаванні…

У дваццаць шэсць гадоў, дырэктар музычнай школы, я атрымала ліст з загадам выкрасліць і знішчыць з бібліятэкі і асаблíва фанатэкі ўсе матэрыялы і музыку беларускага кампазітара Камінскага. У маіх вушах загрукаталі барабан з горнам: я выконвала штосьці важнае і адказнае — цвіком псавала кружэлкі! І не было, на вялікі жаль, побач са мной тады разумнага, сумленнага чалавека, які б запытаўся:

— Ты не чула музыкі Камінскага? Гэта не твае сябры на выпускных экзаменах гралі яго чыстыя пяшчотныя творы, такія беларускія душой?.. Чым яны пагражаюць тваім вучням? Табе не сорамна, Люда? — а смеласці мне пазычаць не трэба было… Развагі не хапала ніколі і паўзы…



## ЭСТЭТЫЧНА ВЫХАВАНЫЯ

Два гады ў музычнай школе адпрысутнічала бы ў непрытомнасці.

Мой любімы педагог сам выдатна граў на баяне, але, каб вучыць спецыяльнасці дзяцей, патрабуюцца іншыя здольнасці. Толькі пасля таго, калі сама стала выкладчыкам, зразумела, як жа хаатычна падавалася самае простае і неабходнае.

Да сістэмы размяшчэння нот у правай клавіятуры, за вякі «дасканала вынайдзенага» майстрамі-баяністамі, мне прыйшлося ў старэйшых класах дадумваца самой, бо на ўроку прапанавалі тупа завучыць — першы рад: «ля, до і дзве чорныя», другі рад: «мі, соль і дзве чорныя», трэці рад: «сі, рэ, фа і адна чорная».

У першых класах я толькі і рабіла, што вышуквала на грыфе ноты. Гэты працэс займаў у маіх вучняў роўна адзін урок — дастаткова даць зразумець, што гукі на клавіятуры размяшчаюцца ў строгім, па храматычнай гаме, парадку, толькі не роўным шыхтам, як на фартэпіяна, а ўлукаткі. Да трэцяга класа я наогул не разумела, дзе я ёсць і чаго ад мяне жадаюць. Але ў трэцім — «прарвала» адчуванне музыкі, я стала разумець, *што* граю. На жаль, даходзіць да многага трэба было без дапамогі педагога.

Бацькам «пакуты і церні» майго творчага працэсу былі няўцям, яны — раз аддалі вучыцца, перспектыву жыцця і станаўлення асобы бачылі вырашанай. Ім і ў галаву не прыходзіла, што са стаадсоткавага кантынгенту музычных школ прафесіяналамі становяцца не больш за дзесяць адсоткаў… *Яны аддалі дачку вучыцца*!

Якраз у трэцім класе музычнай школы — лёс, няйначай, — бацька прыйшоў вечарам з работы і пад адтапыраным крысом целагрэйкі — найпапулярнейшы варыянт вопраткі савецкага чалавека тых часоў: «прасцёганы» вертыкальным пасам ватнік з чорнага, шэрага альбо сіняга саціну, часцей без каўняра, бы ў вязня, ці з вузенькай «стоечкай», альбо «каўнерыкам-прылёпышам» — прынёс *штосьці*.

Ён са змоўніцкім выглядам, тэатральна доўга расшпільваў верхнія гузікі курткі-ватоўкі, потым дастаў велізарны фаліянт: «Музыкальная энцыклопедия».

— Варыў у Ластавіцкай школе паравое, а там кніжак да х… ляжыць, пыляцца нікім нечытаныя: дырэктар выйшаў на ўрок, дык я і спі…дзіў адну, думаю, можа спатрэбіцца табе…

Яшчэ як спатрэбілася! Ні ў кога сярод маіх школьных знаёмых, ні потым у музычным вучылішчы, ды і ў інстытуце не было такой раскошы. Значна пазней энцыклапедыю перавыдалі, і не лепшым чынам, без фотаздымкаў, і ўжо тады, як з'явілася на паліцах магазінаў, стала даступнай многім… па магчымасці набыць — не па кішэні.



## НА СТАРЫЯ ГРОШЫ

Аддаючы дзіця ў музычную школу, недасведчаныя бацькі перш-наперш цікавіліся коштам музычных інструментаў, і часцей за ўсё гэта і вырашала праблему выбару класа. Фартэпіяна каштавала дзесьці семсот рублёў, як казалі бацькі маіх вучняў — «вывелі карову з хлява» (роўны кошт: прадаць карову і купіць піяніна), а баян усяго толькі сто дваццаць. Такі падыход апраўдваўся толькі пачатковым этапам, калі навучанне канчалася школьнай праграмай, калі ж вучань меў перспектыву, то кошт баяна таіў вялікі падман. Кожны этап далейшай музычнай адукацыі патрабаваў лепшага па якасці, а значыць, даражэйшага па кошту інструмента…

Я паступіла ў музычнае вучылішча і яшчэ на экзаменах дазналася: баян мой адпрацаваў свой век, трэба набываць большы памерамі і зусім іншы па тэхнічнай характарыстыцы. Заявіць пра тое бацьку не рашылася… Напэўна, маці, выкарыстаўшы момант радасці ад паступлення дачкі, асмелілася давесці да яго вушэй і дрэнную навіну…

Як сам сабе цар, бог і воінскі начальнік, бацька нават не палічыў патрэбным параіцца са спецыялістамі, разбудзіў мяне ноччу і павёз у Вільню. Там ён купіў баян «Кубань», сапраўды, значна большы за мой школьны чырвоны тулячок, з плямінай на зваротнай старане правай палавіны корпуса — хтосьці прапаліў цыгаркай: баян быў куплены ў патрыманым стане. Вярнуўшыся дамоў, бацька з гонарам распавядаў знаёмым, чаго каштуе «вучыць дачку на музыканта».

У верасні я прыйшла на першы ўрок да свайго педагога Платонава з новым кубанцам, «адпіліла» на ім прапанаваныя творы… чакаю пахвалы…

— Всё хорошо, Люда, да вот только надо сказать родителям, что пора поменять инструмент — этот уже никуда не годится…

Я анямела, уявіўшы скандал, які ўчыніць мой бацька з такой навіны… Ні выкладчыку, ні бацькам я не сказала ні слова: будзь як будзе…

Неўзабаве нас, першакурснікаў, сабралі на сход у канцэртнай зале і паведамілі, якія патрэбны інструменты, якія з іх лепшыя і якія найлепшыя… Прагучалі незразумелыя мной лічбы, падалося, быццам завуч карыстаўся звычкай майго бацькі пералічваць усё на «старыя грошы», бо дзве тысячы, тры тысячы, чатыры тысячы… а потым нават чатырнаццаць тысяч… Я ў сваім жыцці не магла нават і пачуць, не тое што ўявіць. Калі

толькі ў суседнім двары ў дзяцінстве: сусед усё жыццё збіраў на машыну… пакуль што хадзіў пешы…

«На шчасце», бацька меў невыносную звычку «наводзіць вась-вась» з патрэбнымі людзьмі, праўда, больш за ўсё ў такіх «аперацыях» яму хацелася выпіць з імі — інакшай «карысці» і не сяціла… на гэты раз — з маім выкладчыкам: вельмі карцела пачуць, якая таленавітая ў яго дачка і які ён маладзец — не пашкадаваў грошы на новы баян… Вынікам паходу ў рэстаран стала купля новага баяна. Яго ўжо бацька, каб не адрываць мяне ад заняткаў, набываў зусім адзін, зноў жа не параіўшыся нават з тым самым выкладчыкам…

З не меншым, чым раней, гонарам ён унёс у клас баян і паставіў на стол перад маім педагогам… Платонаў глянуў на бляшаныя кнопкі правай клавіятуры, крануў некалькі гукаў выбарнай сістэмы, пачырванеў і вымавіў:

— Хор-р-роший баян…

Бацька быў не дужа праніклівым чалавекам: прыняў словы за чыстую манету, а мне зрабілася кепска, бо імгненна зразумела — вучыцца мне няма на чым…

Выкладчык, пашкадаваўшы студэнтку, дамовіўся з добрым майстрам, і той, што мог, зрабіў з маім эксперыментальным «Рубінам», скляпаным невядома кім і як на выдатнейшай Тульскай фабрыцы, адкуль выходзілі найлепшыя ў свеце баяны, нічым не даражэйшыя за мой… І як, не разумею, менавіта гэтая адзінка-вырадак трапіла ў рукі майму бацьку.

Кожны месяц я насіла пятнаццацікілаграмовы чамадан праз плошчу Нафтавікоў у дом да майстра Ганіна. Ён чэсна выкрэсліваў на планцы адрамантаваныя басы і ніколі не браў грошы за тыя, якія аднойчы ўжо наладзіў, так строга ставіўся да сваёй работы майстра, а інакш — баян коштам у трыста пяцьдзясят непад’ёмных для нашай сям’і рублёў абышоўся б мне (таемна ад бацькі рамантаваны са стыпендыі) у два разы даражэй.

І ўсё ж чацвёрты курс і выпускныя экзамены прыйшлося здаваць на казённым, узятым напракат інструменце…

Зараз Тульская фабрыка зусім страціла свой прэстыж. Старыя драўляныя тулячкі — шэдэўры музычнай вытворчасці — за даўнасцю веку адыходзяць у нябыт: рассыпаецца клей, аснова асноў, — як і форма, якасць дрэва, лак, — усіх музычных інструментаў. Толькі ў мастацкіх фільмах пра ваенныя гады можна яшчэ пачуць і пазнаць іх па адмысловаму тэмбру — і кране да болю душы гэты непаўторны, чысты, глыбокі, насычаны бас і празрыстае, паслухмянае пальцам бельканта галасоў.

У апошнія гады маёй дырэктарскай практыкі для школы набылі «каштоўны» (толькі па грашах) баян «Тула» (выбарны) сучаснага выгляду… яго вартасць варта слёз… Нават корпус не ўмяшчаецца на каленях дарослага чалавека, а роблена для дзяцей. Правая клавіятура павернута пад такім градусам, што можна выкруціць запясце, да першых радоў у басовай



клавіятуры не дацягнуцца настаўніку, — не тое што маленькай ручкай вучня, пра тэмбр і гаворкі не варта пачынаць: «не до жиру — быть бы живу»… Адно пытанне паўстае — дзе сумленне, дзе сорам «майстроў»?! Зроблены той баян «майстрамі», якія ніколі ў жыцці самі не трымалі баяна ў руках: зжалься, божа, трудоў… Прыватнікі-майстры яшчэ не забыліся, як гучыць сапраўдны баян, але дакупіцца такога інструмента (кустарнага) індывідуальнага вырабу, — даступна адзінкам…



## НА ЛАБУХАЎ НЕ ВУЧАЦЬ

За пятнаццаць гадоў навучання музыцы: школа, вучэльня, інстытут — я шмат разоў пачую ад бацькі пры выкананні эцюдаў, санат, прэлюдый… не ў свой адрас — у адрас навучальнага працэсу: «Халера іх ведае, як *яны* там вучаць?! — гадамі не могуць навучыць! Рубіс (за напісанне прозвішча не адказваю, чула толькі на слых) “*Каліто*” за тры месяцы на гарманіста вывучваў мальцаў!» Бацькаву, прыродай намечаную і прафесійным кантактам з жалеззем прыдбаную тугавухасць не здолелі зміласцівіць ні Бах, ні Моцарт, ні Рахманінаў у маім выкананні…

Раз у жыцці я пабыла лабухам, сястра Рая выдавала замуж дачку, дык папрасіла пайграць на вяселлі. Зусім не па маёй натуры справа, але ж — пляменніца родная — згадзілася…

Грала я цэлы вечар, аж пальцы потым ноччу «іголкамі калола», аж вылечыла шчыраваннем застаялую хваробу, бранхіт — не жартачкі: столькі рухацца — і вось раніцай мама мая скардзіцца:

— Гэта ж нада-нада, на вяселлі была — і нічога не паела!

— Ты што, мама, сталы ламіліся ад ежы!

— Я ж не думала, што ты *так* іграеш!!!

Мама ўвесь вечар падскоквала з месца, падыходзіла да «музыканта» і спявала. Не паспее адна песня скончыцца — заводзіць другую, успомніла ўсё, што ведала з дзявоцкіх гадоў.

Другі раз у жыцці маці пахваліла мяне, яна рэдка была давольная сваімі дзецьмі. Бацька ж, напэўна, ад гонару за дачку, адчуваў сябе на сёмым небе. Яны лічылі, што я не ўмею іграць «харошых песень», адно толькі — гыр-р-р, гыр-р…



## «УЧИТЕЛЬ»

З-за адсутнасці спецыяліста ў школе быў перыяд, што музычную літаратуру ў нас выкладаў духавік. Хлопец статны і прыгожы, дзяўчынкам падабаўся, але, як высветлілася праз гады, свістун яшчэ той! Ён любіў уразіць вучняў эфектным фактам… На курсе рускай музычнай літаратуры настаўнік паведаміў, што ў страўніку Мусаргскага пасля смерці знайшлі два літры віна, а тое, што Мадэст Пятровіч — геній, а такую адказнасць несці на чалавечых плячах — надта вялікі цяжар, — нас не дужа асвядоміў. Другім разам выкладчык агаломшыў клас фактам, што Сталін — зусім не прозвішча, а псеўданім, сапраўднае ж прозвішча Сталіна — Мжэванадзэ, і я спрачалася да слёз з выкладчыкам гісторыі, які паправіў — Джугашвілі, не дапускаючы думкі, што «учитель» здольны ляпаць языком як заўгодна.

Аднойчы ён, каб пакінуць нас адных на ўроку і пайсці па сваіх справах, запытаўся, якую музыку мы любім. Па чарзе вучні называлі папулярныя эстрадныя песні, я сказала, што вельмі люблю саракавую сімфонію Моцарта. Ну не ведала я ніякіх шлягераў, што мне было казаць? А ў пяць гадоў плакала ноччу ад музыкі Чайкоўскага, пачутай выпадкова ў чырвонай радыёле, што стаяла ў нас ля акна на чатырох ножках. Выкладчык узрадаваўся: яму не трэба шукаць папсы, якой і быць не магло ў музычнай школе, а Моцарт заўсёды пад рукой… Ён націснуў кнопку і пайшоў з класа да канца ўрока. Ці праз няўважлівасць, ці жартам, але паставіў ён не саракавую сімфонію і не Моцарта нават, бо Моцарта клас, думаю, неяк вытрываў бы ў любым варыянце… Што тут пачалося! Ніхто іншы сімфоніі не чуў і падмены не заўважыў. Мяне абвінавацілі ў задрымордасці, зазнайстве, «выпендрожы»… у чым толькі ні вінілі… а я і не здагадалася ўстаць з-за парты, пераглядзець кружэлкі і «даць усім па мордам саракавым нумарам…»

Яшчэ адну загадку духавік загадаў на ўсё жыццё… Ён вучыўся завочна на філасофскім факультэце БДУ і практыкаваўся на лагічных пазлах: вельмі цікавы занятак. Трэба разгадаць прапанаваную сітуацыю, часцей за ўсё толькі пры дапамозе «так» ці «не». Вось адна з іх: на чыгуначны вакзал прыбывае цягнік, з вагона выходзіць мужчына, яго сустракае жанчына ў чорным адзенні:

— У вас больш няма жонкі… — паведамляе яна.

Кім даводзіцца гэта жанчына пасажыру? Каго мы, вучні, толькі ні прапанавалі — выкладчык адмовіў усіх: ні маці, ні сястра, ні калега, ні суседка, ні сваячка, ні сяброўка, ні палюбоўніца… Толькі ў сталым веку я дазналася адказ, які мучаў так доўга, бо настаўнік, думаю, не ведаў і сам, мая нявестка разгадала з першай спробы…



## «СЕЯТЬ РАЗУМНОЕ, ДОБРОЕ, ВЕЧНОЕ…»

Той самы філосаф-духавік упадабаў маю сястру Раю і, запрасіўшы яе на танец у Глыбоцкім ДК, асведаміўся яе прыхільнасцю да класічнай музыкі. Рая не лыкам шытая, адказала, што ёй вельмі падабаецца Танец з шаблямі Хачатурана…

— А-а-а! Балет «Спартак»… — упэўнена дадаў выкладчык музычнай літаратуры. Рая крыху сумелася, але з настаўнікам, прафесійным музыкантам, спрачацца не адважылася.

Назаўтра філосаф снабдзіў мяне камплектам з чатырох кружэлак пад агульнай назвай «Спартак» і адкамандзіраваў з парадай паслухаць дома. Мы ўвесь вечар слухалі паважанага Арама, але Раінага любімага нумара не дачакаліся. Я на той час яшчэ не дайшла да курса савецкай музыкі, яе вывучалі ў выпускным класе, ды і не выкладалі нам Хачатурана ў школе, нічым дапамагчы сястрыцы, ці аспрэчыць пададзены выкладчыкам факт не была гатовай… Затое аж да дарослага веку лічыла, што танец з шаблямі — нумар з балета «Спартак».

Наш духавік-філосаф пасля заканчэння БДУ выкладаў у Наваполацкім музычным вучылішчы гісторыю, добра, што не ў мяне, я і так гісторыю кепска ведаю…



## КВАДРАТНАЯ ЧЭЛЮСЦЬ

Злосць бывае не толькі прыхаванай, яшчэ і бязмежнай. Такую выснову прыйшлося зрабіць у пятым класе, калі Рыму змяніла класная, Валянціна Уладзіміраўна.

Як можна начарэпаць столькі злосці ў звычайных бяскрыўдных дзіцячых учынках? Было некалькі вучняў, з якіх Квадратная Чэлюсць не здзекавалася і якіх не абражала, але не памятаю ніводнага, каго б любіла.

Шмат нацярпеўся Слаўка Ігнаценка, такі ціхмяны, нячутны і нябачны хлопчык. Ад худзізны амаль празрыста-блакітны. Ад хранічнага катару

з зялёным сапылём пад носам. Пра Слаўку я ведала толькі тое, што ён са шматдзетнай сям'і.

На класным фотаздымку Славіка адразу заўважыш па вопратцы: на ім не па росту вялікі, з чужога пляча, заношаны швэдар з абшморганымі рукавамі, матуззё — ледзь не долу. Слаўка Ігнаценка напалохаў нас аднойчы: не разумелі мы яшчэ, што такое страта прытомнасці (хоць некаторыя і абміралі самі, але ж не бачылі з боку, на свае вочы). Ён зайшоў у клас і запаволена, быццам у сне, змагаючыся з сабою, імкнуўся дабрысці да парты. Вочы закаціліся, рукі абмацвалі прастору, Слаўка спатыкнуўся аб парту і ўпаў між радоў, з рота пацякла пена…

— Мамаша-спекулянтка не может покормить тебя?! Вечно грязный, голодный, дохлый! Как на базаре стоять днями — она может, а приличный свитер купить тебе в школу — нет?!

Не любіла класная і маю сяброўку Таню за тое, што:

— Зазналась, Пашкова?! Думаешь, если твои родители начальники, то ты — лучше других?!

Пра начальніка я ад Чэлюсці ўпершыню і даведалася, хоць ад першага класа бывала ў іх доме. Таня ніколі не зазнавалася, не хвалілася і вучылася выдатна, старанна, а дзеці ў сям'і Пашковых выхоўваліся ў строгасці, працавітымі і паслухмянымі.

Адразу «зайстрыла зуб» класная і на новенькага, гэты хлопец прыйшоў да нас бы з неба. Я і зараз не ведаю, адкуль прыехаў Коля Каралькоў, але *такіх* не было ва ўсёй школе. Ён меў невядомую нам да той пары асаблівасць — незалежны розум, вельмі сціпла паводзіў сябе, не злаваў, быў добразычлівым і вясёлым. Сябраваў з усімі і ні пад каго не «строіўся». Нават калі курыў увесь клас, уключаючы і дзяўчынак, Коля адмаўляўся і рабіў гэта так проста і бяскрыўдна, што нікому не здавалася, што ён выдзелваецца. Коля ніколі не выдзелваўся. Добра вучыўся. Без музычнай школы авалодаў гітарай, спяваў — дык не пра яго тут. Класная не раз выклікала маці новенькага ў школу, стыдзіла старэйшых сястру з братам за дрэннае выхаванне малодшага. Ёй здавалася, што Коля завадатар сярод вучняў і падбухторвае ўсіх на дурное. Коля і сапраўды быў бясспрэчным лідарам, але толькі не на благое. Яму зайздросціла палова класу Дубін, Баранаў, Казлоў: *такое* прозвішча!

— Ты, напэўна, з каралеўскай сям'і?

— Анягож! — смяяўся Новенькі. —У цароў, каралёў ды генералаў заўсёды прозвішчы былі, якіх яны не саромеліся, а мы, хто на «ов-ёв» — з халопаў: каралеўскіх, царскіх, генеральскіх, губернатарскіх…





## АТЭІСТЫЧНА ПАДКАВАНЫЯ

Што сталася з нашым аднакласнікам Юзікам Фурсам, сапраўды — пакутнікам, дзякуючы намаганням дарослых? Яму даставалася не толькі ад Квадратнай Чэлюсці — аднакласнікі не менш паздзекаваліся з яго.

Ад першых класаў нам увялі ў вушы, што Фурс — «багамолец». У тыя гады вучні і ўявіць не маглі, што ён там робіць у той царкве. Мы баяліся прайсці ля яе брамы. Кожны год на царкоўныя святы піянераў выганялі на суботнік: з мётламі, лапатамі і саджанцамі мы крочылі да царкоўнай агароджы, каб Вялікдзень сустрэць «з шумам і пылам».

Юзік Фурс не прыходзіў у такія дні ў школу, стаяў усяночную, хадзіў крэсным ходам з харугвамі, раніцай з пакорай выслухваў ад класнай:

— У-у-у! Богомолец несчастный. Баптист поганый, сектант!

Адно слова «баптыст», для нашых недасведчаных, неадукаваных галоў здавалася роўным цяперашняму педэрасту (тады такіх слоў мы і не чулі). На пераменах браліся за Юзіка хлопцы. Яму пападала за мізэрную памылку і промах, на ўсё быў загатаваны плявок у вочы: баптыст.

Мы шчыра здзіўляліся:

— Почему, Валентина Владимировна, не разрушают церковь? Ведь нам говорили, что бога нет — Юрий Гагарин летал в космос и его там не видел?



## НЕ ВЕР НІКОМУ

Касманаўт Грэчка любіў удзельнічаць у тэлешоу і выступаць ад імя апанентаў уфолагам, экстрасэнсам, ведунам:

— Ничего *там* нет! Это я заявляю как очевидец!

І раптам: паказваюць таго ж Грэчку, ды ад імя «очевидца» заяўляе ён, што ёсць *усё*!

Жудасную смерць сваёй жонкі пад коламі цягніка яму спачатку *паказваюць* у сне… І як казаў той Воланд, калі вы не верыце ў Бога, то д'ябал у сябе прымусіць паверыць…

*

Тэлевізар у нас з'явіўся не ў першых на вуліцы і не ў другіх… але дзесьці ў 1968–1969 — бацька ўлучыў маленькі прыёмнік, і ў нашым доме па вечарах засвяціўся блакітны экран. Дыктары абвяшчалі навіны, а бацька, седзячы бокам да экрана, быццам хацеў гэтым выказаць недавер, маўляў, я ж яшчэ паслухаю, што вы там паведаміце, да таго ён быў тугаваты на вуха, усё па той самай «жалезнай» прычыне; каментаваў заўсёды адным словам: «Пі…дзяць!».

Дыктары чыталі па паперцы чужое, а вось каментатары і палітычныя аглядальнікі, тыя — эліта! Яны вялі прамовы «на свае думкі і сваімі словамі» — толькі заставалася зайздросціць, назіраючы ў экране такіх асоб: які розум, які лёс, замежныя вандроўкі!..

Генрых Баравік — адукаваны, выкшталцоны, інтэлігентны, інтэлектуальны…

Назірала за гэтым чалавекам праз шмат гадоў… Ішла вайна ў Чачні, было ўжо не модна каментатарам мець аднолькавыя погляды з уладамі, і моду такую, дарэчы (адзін з першых), завёў сын самога Генрыха Баравіка. Генрых павінен быў пару хвілін пратрымацца перад камерай, на гэты раз сапраўды са сваімі думкамі, а магчыма, і зноў — давялі да розуму? Генрых Баравік выказаў некалькі слоў у падтрымку чачэнскага народа…

Цяжка было бачыць знакамітага палітідэолага — прамаўляць *сваё* ён не прывык. Градам каціўся пот, дрыжэлі вусны, палатнеў і праяўляўся нервова-ружовымі плямамі арыстакратычны твар, ён заікаўся… А не першы — выказваўся! Да яго шмат выбітных асоб і куды больш катэгарычна заявілі свой пратэст і абвясцілі ганьбу драпежніцкай вайне…

Ці магла б здарыцца такая метамарфоза і ці прыйшлося б Генрыху Баравіку так доўга мірыцца са «сваімі-чужымі» думкамі і словамі, калі б знаў: рана, ці позна ўсякай хлусні прыходзіць канец, калі б памятаў: час раскідваць камяні — час збіраць, каб мог уявіць, *што* неўзабаве давядзецца перажыць яму — *перажыць*… сына.

*

Квадратную Чэлюсць я не бачыла ад заканчэння восьмага класа. Паступіла ў музычнае вучылішча і больш не сустракала яе.

Прайшло шмат часу, я нарадзіла трох дзяцей, дзеці самі сталі выпускнікамі школы і вось я трапляю на адзін з адраджэнскіх соймаў… А там — Квадратная Чэлюсць. Што гэтай жанчыне захацелася адрадзіць?! Хто перашкаджаў ёй заставацца чалавечнай? Такіх сярод выкладчыкаў было не так ужо мала. Хто перашкаджаў ёй не здзекавацца *залішне* з вучняў? Вось жа быў у мяне прыклад з пранумараванымі фотакавалачкамі, з чыгункай…

Класная дагнала мяне потым на вуліцы:

— Ты живёшь в Подсвилье? Там универмаг хороший — купи ты мне платье импортное…

*

Пакуль цягніком дабіралася на сойм, у вагоне пабачыла, перш пачула аднаго з выбітных адраджэнцаў, ён таксама ехаў туды, куды і я. Мужчына ў скураной куртцы, як чэкіст, і прозвішча на літару «ч», на ўвесь вагон лаяўся з праваднічай за тое, што яна не ведала нядаўна і ледзь не сакрэтна напісаны ўказ па адмене льгот ліквідатарам чарнобыльскай аварыі, па якім гэты чалавек усё ж падпадаў яшчэ пад якісь «пакінуты пункцік» ільготнага праезду.

Яго *глабальная* крыўда і злосць на драпежніцкі характар улады, несправядлівасць дзяржавы, лёсу сканцэнтраваліся і выліліся на бедную кабеціну-праваднічу. Зразумець чалавека можна было, каб не яго правадырскія замашкі, ды і роў ён на роднай мове, прымушаючы іншых думаць, што адраджэнцы — псіхапаты, істэрычныя паўдуркі, чалавеканенавіснікі.

*

Калі ўжо зачапілася за гэту тэму, то буду «гнуць» далей…

Быў і славуты мастак… Ён з'явіўся на Драздовічаўскі пленэр, завітаў у Падсвілле якраз на Каляды. Мала, што сам учыніў на маленечкім базарчыку ў тры з паловай чалавекі грандыёзную сварку з маленькай, яму па пояс, бабулечкай, якая прыцягнулася з хутара прадаць яек, малака і зарабіць капейчыну на хлеб, а атрымала адлуп ад *прафесара*, *акадэміка* за тое, што размаўляе не *так*… Яна, напэўна, праз сваё дабрадушша ды нашу беларускую прыгнечанасць перад кожным падпанкам, захацела дагадзіць — адказаць яму, «вучонаму, культурнаму», па-гарадскому, па-руску. Ну а той і ўзарваўся — махаў рукамі, закідваў галаву дагары, разьвяваючы пад ветрам сівыя валасы па плячах, сам двухметровага росту, чорнае паліто да пят, шалік квятасты вакол шыі — *тэатр*!

Вы, маўляў, зусім забыліся на родную мову! Сам не ўцяміў, што трымаецца ўся гэтая *мова* наша *толькі* дзякуючы вось такім бабулечкам. Як і я тут пра сваю маму ўспамінала — крыўдавала на яе за «нелюбоў» да роднай мовы, а сама ўсё жыццё чэрпаю дыяменты з яе гутарковай скарбонкі, і ніколі нідзе больш не пачую такой трапнай, сакавітай, вобразнай, выразна-артыстычнай, прыгожай гаманы, толькі бяры аловак, запісвай, і ты — пісьменнік…

Дык мала базарчыка! Вечарам вандроўнікі-мастакі спазніліся на калядаванне, зладжанае мясцовымі сіламі, але самаўпэўнена ўклініліся ў святочны натоўп, якаясь з іх («падагрэтая» няйначай) жанчына выхапіла мікрафон з рук «массовика-затейника» і зараўла на ўсю плошчу абразы ў народ — якія ўсе тут цёмныя, не ведаюць нацыянальных традыцый, мы вось прыехалі з Менску навучыць вас…

Яшчэ на сойме я сустрэла знаёмага трактарыста, той ў маладосці сам на свой «розум», для «балдзяжу» разбурыў царкву ў вёсцы… Не ўсё так проста, я апускаюся да банальнасці — белае не заўсёды ёсць белым, чорнае — чорным, але мяне ў той час вельмі напалохалі такія метамарфозы і ўспомнілася з гісторыі рэвалюцыі, ды прыпомніла шмат прыкладаў, якія сведчаць — чалавек стварае жыццё. Пры любой уладзе ёсць *людзі* і ёсць «вінцікі», не будзь вінцікам, і ўсё. Паспрабавала пераканаць свайго сына, студэнта-першакурсніка, каб не «начаваў» больш на плошчах — нельга ісці за «правадырамі», якія, азваўшыся *будзіць народ*, зберагаюць сваё жыццё ўцёкамі за мяжу:

Такія людзі не маюць веры, бо…

Не ведаюць, што напісана: ніводная ідэя не каштуе дзіцячай слязінкі, але…

Не разумеюць галоўнага сэнсу пісанага: калі ты маеш ідэю — пакладзі за яе жыццё сваё — не чужое!

Бо калі ты верыш — не станеш хваляваацца: Ён лепш ведае, як зберагчы тваё жыццё.

*

Не верце нікому! Акрамя *Яго вялікай міласэрнасці*… У тыя гістарычныя гады, калі здавалася, што вось-вось здарыцца цуд, і з'явіцца «харошы цар», і мы зажывём, як людзі… мне таксама верылася інтэлігентнаму спадару Шушкевічу… Гляджу я ў тэлеэкран, а там ён, такі мілы, сціплы і «наіўны», дае інтэрв'ю. Шчыра распавядае пра сваю дачушку. Дзе, пытаецца ў яе, ты *хочаш* вучыцца? «У кансерваторыі», — адказвае дачушка, якая не мела за плячамі нават музычнай школы, хоць усім вядома, што ў такія ВНУ без спецыяльнай падрыхтоўкі нават не прымуць дакументы… Як мінімум: школа музычная, потым дыплом вучылішча альбо ЦМШ… Не пасляваенныя ж гады, калі хоць як трэба было залапіць прарэху ў дыване культурнага асяроддзя… Нават геній Моцарта-вундэркінда адточвалі паўсядзённымі заняткамі з чатырох гадоў, але што ж Моцарту раўняцца да дачкі Шушкевіча. Спадар Надзея па «наіўнасці» пахваліўся нават і гэтым фактам: у дачкі няма ніякай музычнай адукацыі за спіной… Затое быў «*папо*!».



Мне было балюча за сяброў, якія палову жыцця аддалі гэтаму складанейшаму з мастацтваў: музыцы, якім у свой час не хапіла аднаго бала, каб лічыцца студэнтам кансерваторыі, магчыма, па прычыне падобнай «папиной наивности»… і за сваю легкавернасць.



## «ЖИВОЙ УГОЛОК»

Маці працавала «ўборшчыцай» пры глыбоцкай гасцініцы. Кожнае лета балкончыкі і паддашкі яе старога будынка ластаўкі старанна аблеплівалі гронкамі свайго жытла, і кожнае лета облівень змываў некалькі з іх, ненадзейных. Кволыя мокрыя птушаняты «кіўклі» ў лужынах пад крапяжом. Маці збірала бедакоў у сумку і несла дадому. У кардонавых каробках, на падсцеленым рыззі, каторыя не скалелі адразу — ціўкалі на ўсю хату, вылузваючыся з пер'я, разяўлівалі дзюбкі, патрабуючы корму. Я лавіла мух, паіла вадой, насільна карміла слабых… і ўсё — дарэмна, праз колькі дзён яны гінулі…

Такі лекарскі занятак дрэнна ўплываў на маю і так падарваную псіхіку. Я галасіла кожны раз, а маці зноў і зноў прыносіла ў сумцы няшчасных калек — будзеш плакаць — болі не прынясу… Так было і з кацянятамі, падабранымі ў канаве. Іх, яшчэ сляпых, хтосьці намерыўся ўтапіць, ды не сумеў давесці справы да канца. Мы з мамай паілі іх з кропельніцы — бацька гневаўся, крычаў, а сам прывёў у двор чорненькага сабачку — які неўзабаве стаў маім найлепшым сябручком.

Чарныш без перашкод грунтоўна атрымаў нада мной верх і здрадніцкім чынам не прапускаў прайсці праз ганак, пакуль грыз мясную костку, якую я ж і «спансіравала» яму ад свайго абеду, ганяўся за маімі нагамі ад лавы да драбіны (лесвіца на гарышча), куды я ледзь паспявала ўскочыць ад яго вастранькіх зубоў — не-не, дый хапне добра за пятку — яму ўсё сходзіла… «з лап».

Заўважыла я, што бацькі мае «на мігі» ўжо некалькі дзён штосьці вырашаюць, і тычыцца гэта (у пачутым шэпце) Чарныша… Высветлілася: «ён» — сучачка! Як мне — дык ніякай розніцы, а бацькі мае западозрылі праблему ў перспектыве — не ўмелі яны тапіць шчанят, шкадавалі жывёл…

Аднойчы, прыйшоўшы са школы, я не пачула насустрач мне звычайнай звяглівай радасці. Не кінуўся мне пад ногі шчаслівы чорны камячок і пасля пошукаў у хлеўчуку, куды маглі прычыніць шчанюка, каб не «зблэціў» куранят… Бацькі са штучным шкадаваннем запэўнілі мяне, што Чарныш

пабег следам за Валікам, стрыечным братам, і забаяўся перайсці кладку — хутка вернецца. Дарэмна я чакала яго, сумавала…

Праз месяцы тры-чатыры на ўрок фізкультуры нас павялі на аддалены стадыён праз двары суседніх са школай вуліц. Настаўнік папярэдзіў: «Вунь, ля той майстэрні, у трудавіка, злосны сабачонак — не чапляйцеся да яго!»

Я зірнула ў бок прыадчыненай брамкі, і мне падалося, што ля дзядзькі ў акулярах круціцца мой Чарныш, ціха паклікала яго; дзеці папраўлілі: сабаку завуць інакш, але Чарныш імгненна ўстрапянуўся, наструніўся, стаў на дыбачкі, углядаючыся ў доўгі шнурочак «спартоўцаў» — хто б гэта мог паклікаць яго? — і рынуўся, бы з ланцуга сарваўшыся, да мяне… Ён падскокваў аж да самага твару, тыцкаў шурпатай пысай у шчокі, нос, злізваў языком салёныя кроплі з вачэй. Раптам апомніўся — чалавек у акулярах, напалоханы тым, што сабака кінуўся на дзяцей, скамандаваў: «Месца!» — ірвануў да майстэрні, з паўдарогі зноў вярнуўся да мяне. Чарныш кідаўся ў розныя бакі, жаласна візгатаў. Ніхто не разумеў, што робіцца з сабакам, а я ведала, як разрываецца яго душачка, — Чарныш паспеў гэтак жа шчыра палюбіць новага гаспадара, строгага пажылога маўклівага чалавека. Я гладзіла чорную галоўку, рабрыстыя бачкі і адчувала, як калоціцца маленькае сэрца. «Ну, бяжы, бяжы…»

Неяк я дачакалася канца фізкультуры, дабыць астатнія ўрокі не змагла — пайшла са школы. Па дарозе дамоў зайшлася ў гасцініцу да маці. Па чырвонаму твару, слову Чарныш яна здагадалася: «Усе ж ткі сустрэліся», — з толькі ёй уласцівай здзекліва-абыякавай, адначасова — праз край эмацыянальнай інтанацыяй хмыкнула маці…

Дома ў мяне ад болю разломвалася галава, я захлыналася слязьмі і… бачком пaглядала ў люстэрка спісанага з гасцінічнага балансу трэльяжа — хтосьці цікаўны праз шчыліны маіх вачэй уважліва сачыў за дзіцячым горам.





## «РЕЖИМ ДНЯ И РАСПИСАНИЕ ЗАНЯТИЙ»

Учора мы клаліся спаць у дзве гадзіны ночы, не скінуўшы валёнак, у верхняй вопратцы, трывожна прыслухоўваючыся да кожнага шоргату, уздыху, скрыпу: раптам прачнецца, і зноў прыйдзецца ўцякаць кулём з хаты. Доўга сценюгаліся па заўголлі перад тым, як вярнуцца дамоў, угледаліся ў шчыліны прасветлін у шыбах зацягнутых шэранню вокнаў, з глыбіні пакояў, дзесьці з запечка (што радавала — значыць, лёг у ложак…) даносіліся страшныя праклёны і пагрозы, некалькі хвілін пагрэліся ў суседскім доме — мяне змарыў сон, і я задрамала, але ў хуткім часе маці прыйшла па мяне…

Хто быў разбуджаны ноччу ў глыбокім сне, ведае, як вусцішна пуста, балюча і містычна жудасна ў тым месцы, куды яшчэ не паспела вярнуцца адляцелая ў сонныя закуткі душа… Затое страх рэальны, дзённы нейк адыходзіць, мякчэе, робіцца далёкім і несапраўдным, быццам — не з табой, у параўнанні з тым разам, калі не ўдавалася заснуць да раніцы…

Цяжка сказаць, які страх мацнейшы — рэальны, ці містычны. І той, і другі калечыць псіхіку, робіць чалавека не здольным смяяцца, весяліцца, радавацца, адпачываць, разняволіцца, робіць не здольным адчуваць сябе шчаслівым…

Вось ціхенька на дыбачках прабраліся ў дом: паўсюль — вэрхал. Вэрхал — звычайнае становішча нашага жытла: біты посуд, зламаны табурэцік, раскіданыя вопратка, рэчы… Але ў доме цёпла і лепш, чым на вуліцы ноччу, асабліва зімой ці ў дажджы-халады. Толькі ўпэўніўшыся, што бацька крэпка спіць, памалу адпускае «трасучка», апаноўвае сон…

І раптам — падскокваеш ад лязгання блішчаных вечак, скінутых каструль, плаксівага ляманту маці — пяць гадзін раніцы, яна прачынаецца штодзённа ў гэту пару зацепліваць печ, спраўляецца па гаспадарцы і… пачынае раскачагарваць сваю злосць супраць бацькі.

Бацькі не ўмелі дамовіцца ў звычайным чалавечым настроі, яны ніколі не размаўлялі між сабой спакойна і разважліва. Каб штосьці выказаць неадкладнае, набалелае, маці мусіла перш ускіпець, — вось так пачыналася мая школьная раніца. Разы тры праз сон я яшчэ паспрабую зміласцівіць яе слязьмі: «Мама, я спаць хачу, не крычы!..» — «Ну не буду, не буду…» І тут жа заходзілася гнеўнай тырадай да таго, хто яе не пачуе яшчэ гадзіны дзве, а потым шалёна падскочыць, ляпне дзвярмі і пойдзе на работу як ёсць.

Брыду і я сонная ў шэрай раніцы — нямытая, нечасаная, у чым спала…

Калі я выйшла замуж, мая залоўка, сястра мужа, — доктар, інтэлігентная, разумная жанчына, — любіла пазайздросціць: як добра табе прыго-

жай: я, перад тым як выйсці на людзі, паўдня ў люстэрка мушу глядзецца, а ты з пасцелі скок, валасы — шоўкам па плячах, вочы блішчаць, твар свеціцца. А я ўсміхаюся ў адказ: звычка такая…

Першым урокам рускі, гэта выратаванне. Кацярына Фёдараўна сапраўдны выкладчык, яе прадмет ніякага напружання ў мяне не выклікаў, адно асалоду. Пісьмовыя заданні я выканаю перад урокам, спешна, абы-як, з памылкамі, але неўзабаве настаўніца зноў прапануе сваю любімую форму праверкі ведаў — сачыненне, і я рэабілітуюся.

Кацярына Фёдараўна аднаго разу запрасіла тры класы разам, каб зачытаць маё сачыненне перад усімі, дала асабісты «святочны» сшытак, куды гадамі збірала лепшыя работы сваіх вучняў, запісаць і маё, а яшчэ намаляваць што-небудзь у ім.

Другі ўрок — алгебра, значыць, на перамене прыйдзецца рашаць з дамашняга задачы і практыкаванні, сэрца будзе калаціцца як у зайца — не паспяваю… На ўроку геаграфіі высніцца — выкладчык даручыў мне падрыхтаваць рэферат: «Трудовые ресурсы Дальневосточного края», а ўспомню я пра гэта толькі ў момант запрашэння да дошкі — не, выкладчык тут не вінаваты: ён даўно папярэдзіў, але ж я не жыву ў рэальным часе — дакладныя даты са мной не пасябравалі.

Нельга не адхіліцца… На другім курсе музычнага вучылішча нас, студэнтаў, сабралі ў актавай зале і паведамілі, што адпускаюць дамоў па спецвопратку: паедзем у калгас капаць бульбу. Як паслухмяны чалавек я з'ездзіла ў Глыбокае, вярнулася ў панядзелак і нежартоўна разгубілася, апынуўшыся ў апусцелай роднай установе. Выкладчыкі, якія засталіся працаваць з «хворымі» навучэнцамі, сустрэлі мяне пытаннем:

— А что с тобой, Люда?

— Бульбу капаць еду…

— Так уехали все уже вчера… Ты, наверное, заболела, поэтому опоздала? Может, автобус не ходил? Что-то дома случилось?

Ім ніяк не хацелася верыць, што любімая студэнтка такая *ненармальная* — не палічыла патрэбным звярнуць увагу на самае галоўнае: на які дзень назначаны ад'езд.

Дык і вучня свайго «прапішу» тут. У першыя гады педагагічнай работы мяне выправілі ў камандзіроўку — пакінула аб'яву: «Заняткі адмяняюцца. Прыходзьце на ўрокі ў суботу». Пытаюся ў Віці Сташэвіча:

— Чаму ты не прыйшоў на ўрок?

— Дык вы ж напісалі, што заняткі адмяняюцца!

— А далей што напісана было?

— А далей я не захацеў чытаць…

Ішла я да дошкі, дзе вісела вялізная мапа з «Дальневосточным краем» і разумела: адмовіцца — сорамна. Імгненная рэвізія «кропельных» ведаў



па геаграфіі і менавіта па прапанаванай тэме выдала магчымасць адказу больш-менш прыстойнага — на чацвёрку. Затым — хімія, зноў ліхаманка на перапынку — пісьмовае заданне! І так далей…

Стрэс — з'ява невыносная для нервовай сістэмы тынэйджара, нават у адзінкавым выпадку. Калі ж такі хваравіты стан душы мець кожны дзень?..

Кожны дзень я кляла сябе і клялася сабе: буду рыхтавацца да ўрокаў дома! Вярталася са школы — дом непрыветліва сустракаў мяне ўчарашнім і пазапазапазаўчарашнім настроем, рэзрухай, вэрхалам.



## «РОДИТЕЛЬСКИЙ ДОМ — НАЧАЛО НАЧАЛ…»

Наша сям'я жыла нібы ў страшным сне, дзе кожны член быў пакінуты сам на сябе і ў той жа момант жорстка падпарадкоўваўся нейкаму агульнаму таталітарнаму хаосу…

Стол на кухні, шкапікі, тумбачкі, шуфлядкі праз верх поўніліся нядзелямі нямытым посудам. (Чаму не мылі? — Не ведалі, як гэта робіцца.) Каб яго памыць, у доме спраўляўся дзікі крык, гвалт, з абвінавачваннем і выкрыццём вінаватых… Награвалася да кіпню вада, разбавіць кіпень халоднай вадой не дазвалялася ў эканамічных мэтах зберажэння… чаго? — не ведаю, думаю, не ведала таго і сама маці, абварваючы «на сасіскі» пальцы. Патрабавалася перамыць у невялікай конаўцы ўсё, што трапіць на вочы, шмат чаго пагражала не трапіць, бо брудны посуд хаваўся і пад ложкамі, і пад канапай, сярод абутку, які, усіх выключна сезонаў і памераў, друзам валяўся ў самым прыходзе вітальні.

Калі раптам штосьці спатрэбіцца з рэчаў: нажніцы, ніткі, іголка, падручнік, кашуля, — шукалі ўсёй сям'ёй са слязьмі і праклёнамі.

У шафе — вопратка, бялізна, мытая і нямытая разам, пасцельнае, а там жа і што заўгодна яшчэ: разматаныя клубкі нітак, лекі, дакументы, фотаздымкі, аблігацыі — усё існавала ў суцэльнай мешаніне, сплютанай між сабой да немагчымасці разабраць. (Мая свякроў за аблігацыі ўнутранага займу праз гады атрымала нейкія выплаты; бацькі мае ніколі не мелі веры ў паперкі, стосы «ўкрадзеных дзяржавай» грошай (аблігацый) пусцілі «на цацкі рабятам»…)

Прылегчы на ложак удасца толькі, перш распіхнуўшы мяхі з сушаным хлебам — улюбёным ласункам пацукоў, клункі з воўнай, паедзенай моллю, вандзэлкі старой неўжыванай вопраткі. Пазы між мэбляй і сценамі пазапханыя парожнімі поліэтыленавымі торбачкамі ад пернікаў, сушак, селядцоў, малака, нават не «спаласнутыя» — «некалі панадабяцца».

Фіранкі на вокнах і дзвярных праёмах вісяць карэлыя ад бруду: замест ручнікоў аб іх выціраюць рукі, насы, боты… Маці кляне ўсіх за гэтае свінства, але робіць тое ж самае — дык а чым выцірацца, калі няма ручніка: ручнікі скручаныя і заторкнутыя пад ложак — «на нешта некалі спатрэбяцца», там жа, пад ложкам, і лубкі з крупамі, ёлачнымі цацкамі, звяслы трап'я, валёнкі, хатулі з кажухамі… Падаконнікі загрувашчаны «пушачкамі — карабкамі» з дробяззю і без яе, са спаленымі сярнічкамі і паламанымі цыгарэтамі, «бычкамі», гузікамі, цвікамі, шурупамі, маткамі нітак, скрапанымі ў кузлу з папярэдне пераліčаным.

У кухню наогул няма як зайсці: у чалесніку — гара смецця, з-пад ног змяталася ўсё да печы і надоўга залягала тут. Вызваліць пядзю чыстага месца на стале не ўдасца — на ім ежа «ўсіх вякоў і рознага гатунку»: варэнне ўсіх сартоў, стаўшае брагай, бо елі, цягаючы лыжкамі са слоікаў, — недаедзенае і пакінулі, учарашняя крышонка, пазаўчарашні халаднік, квашаніна, забелены малаком крупнік, накроеныя скібы хлеба — засталіся ад гасцей; між каструль, патэльняў, талерак з пракіслай ежай — косткі, агрызкі каўбас, рассыпаны цукар… і па ўсім мухі, мухі роем. Іншы раз на кухні, каб не змарозіць, трымалі маленькіх куранят, «пісклятамі» звала іх мамка, альбо падрастаў парсючок.



## «…ОН ЖИЗНИ МОЕЙ НАДЁЖНЫЙ ПРИЧАЛ…»

Не праўдай будзе думаць, што ў доме было заўсёды так — ого-го, які казачны парадак аднойчы «завялі»!!! Бацька нанёс з работы шкловалакна ўсякіх сартоў — раздолле для творчасці! Маці навышывала фіранак, абрусоў, посцілак і пакрывал… Зайсці ў дом страшна — «бялютка, чысцютка»! Шкловалакно заўсёды чыстае, ніколі не пэцкаецца — ад яго ўсё адскоквае і — па пакоях: да столі слупы шклянога пылу, нібы мароз ці шэрань.

Не забавіўся і лагічны вынік: усё маё цела пачало свярбець, бы ад каросты, — такі маці і паставіла дыягназ… Узялася лячыць дачку сваімі метадамі: наварыла кіпню, развяла ў начоўках «Трыалону» (пасту такую выдавалі ў гасцініцы для мыцця бялізны, падлогі… — «бытавая хімія» карацей кажучы.) Сядай, дачка!!! Я вытрымала дзесьці каля трох аздараўленчых ваннаў і ператварылася ў суцэльна ашчыпанага курчонка, разадраныя ад свярботкі раны раз'еў «Трыалон» і дадаў пікантнасці самаадчуванню! Прыйшлося ісці да дактароў, чаго маці страх як не любіла!

Не праўдай будзе думаць і так, быццам у доме ніколі не прыбіраліся — кожны тыдзень, у суботу, але, па-першае, уборкай лічылася — захінуць тое-сёе падалей з вачэй, а па-другое, толькі ў самастойным жыцці да мяне дайшло правіла: «Чыста не там, дзе бясконца прыбіраюцца, а там, дзе трымаюцца акуратнасці», а гэтага ў нашай сям'і не ўмелі.

Вось па якой прычыне, «уладкаваўшыся на палу на каленках, выконвала я свае першыя дамашнія заданні…»



## «…А Я ТЕРЯЮ КО-О-ОРНИ…»

Пазней я зусім перастала выконваць дамашнія заданні, бо мая псіхіка пачала набываць стойкую дэпрэсію. Той адрэзак вольнага ад музычнай школы часу, які магчыма і трэба было выкарыстаць пад падрыхтоўку да ўрокаў, — гэта з васямнаццаці гадзін — я дрыжэла ад страху, чакаючы з работы бацьку…

Уся мая істота ператваралася ў суцэльны трывожны слых: дзе хто прайшоў па вуліцы, дзе скрыпнулі варотцы, пачуўся чый голас — выклікала ў арганізме хвалю адрэналіну, якая паралізавала ўсё цела балючым рэзкім ударам у галаву і сэрца — іголкамі расходзілася да пальцаў рук і ног. Гэты страх так увайшоў у маё жыццё, што без яго — жыцця не існавала. Ва ўсім я прадбачыла страх. Бацька, лічы, кожны дзень прыходзіў не цвярозым і паводзіў сябе агрэсіўна дуркаватым.

На пачатку сямейнага жыцця, калі я была яшчэ зусім малой, а сёстры крышачку падрослымі, яны з маці бегалі за бацькам ззаду, каб угаварыць не класціся пад цягнік, не кідацца ў студню, такая ў яго была мода, — мяне пакідалі адну ў страшнай пагромленай хаце. Потым бацька памяняў сваю моду — пачаў лазіць на гарышча «вешацца» …

Такое блюзнерства для маіх старэйшых сясцёр раніцай здавалася смешным, бацькі *іх* дзяцінства былі маладымі, вясёлымі, здаровымі, няхай, што і цудакаватымі. *Мае* бацькі — людзі сталага ўзросту: хворыя, стомленыя, сумныя, раздражнёныя, злосныя… я вельмі баялася за іх жыццё, я вельмі баялася іх… і несла ў сабе падсвядомы абавязак нязменнага вартавога — самая страшная паклажа на плечы дзіцяці… хтосьці ж павінен заставацца заўсёды цвярозы розумам…

Калі я падрасла і крыху навучылася граць на баяне, маім «мастацтвам» усыплялі п'янага бацьку: усе сямейныя ўцякалі з дому, пакінуўшы мяне адну іграць яго любімыя песні, пакуль не засне. П'янага бацьку сон не браў. Ён лаяўся, «мацюкаўся», выкрыкваў пагрозы… Маім дарослым і ў галаву не прыходзіла, што яны робяць з дзіцячай псіхікай. Іграла ў той час я ў тэхнічным сэнсе «ніяк», а вось душой адчувала і прагалошвала кожны

гук — інакш не ўмела. Небяспечна спалучаць такія палярныя эмоцыі: жудасны *страх* і музыку душы. Гэта была мая свядомая ахвяра дарослым.

Аднаго разу бацька, напэўна, стаміўся слухаць, выйшаў з дзвярэй, мы знаходзіліся ў розных пакоях, і заваліўся долу, абмёр… Гэта быў чарговы тэатр…



## КАДР НАЙПЕРШЫ

Зманіла я… Першым быў не той кадр, што апісала ў пачатку, зусім іншы… Маці трымае мяне маленькую ў руках над п'яным бацькам, той ляжыць на канапе… У доме страшны гвалт, крык — бацька і маці лаюцца. «Вось гэта будзе тваё жыццё… Гэта будзеш ты…» — спакойна кажа мне на вуха голас.

— На — з'еш! З'еш, гад! — крычыць маці, трасучы мною над бацькам…



## ХТОСЬЦІ ПАВІНЕН ЗАСТАВАЦЦА «ЦВЯРОЗЫМ»

Гэта цвярозасць сыграе нядобрую ролю ў маім жыцці. Так я, з лічанымі на пальцах адной рукі выключэннямі-эксперыментамі ў юнацтве, пражыла цвярозае жыццё да паўвека. Я заставалася занудна цвярозай у святы, у дні нараджэння сяброў, сямейных, я стала пазбягаць любых застолляў і вясёлых вечарын, пачала ненавідзець вяселлі, выхадныя і святочныя дні, бо муж у адрозненне ад мяне любіў гасцей і кампаніі… А я не магла цярпець мужава пахмелле, бо адчувала яго негатыў фізічна, мне было невыносна дрэнна, пякло ў сонечным спляценні і трэмаліравала ў левым падрабрынні, я адчувала той самы страх з дзяцінства і ні аб чым іншым думаць не магла, больш таго: мой муж адразу «запеленгоўваўся» маімі «органамі прадчування страху», дзе б ён ні быў з чаркай, на якой ад мяне адлегласці ў прасторы… мая істота пачынала літаральна хварэць. Роўна, як вёска Галубічы, што ў трох кіламетрах ад Падсвілля, дзе мы жылі, так і горад Тальяці ў адлегласці больш за дзве тысячы кіламетраў…

У школьным калектыве, сярод выкладчыкаў, мяне не любілі за занудства і заўсёдную барацьбу з «чаркаваннем»…



У трыццаць пяць я засталася адна «по собственному желанию», без сяброў, без мужа, без прыяцеляў…



## «ИЗ ПРОСВЕТЛЁННЫХ ЗАТОМИСОВ»

Не крану я тут Данііла Андрэева — не той маштаб… Хоць і скажу адну думку ў апраўданне. Зараз ніхто і нідзе ўсур'ёз не ўпамінае гэтага мысліўца: не дараслі, агаломшаныя, баяцца выдаць сябе за наіўных. А паціху па радочку, па думцы, па слоўцу раскрадаюць, разносяць, прысвойваюць яго *працу*. Адзін модны «гнусный мерзкий старикашка» з крывымі, ну ўжо ніяк не «тэлеэкраннымі» зубамі і «фэйсам», «хрычок вещающий» амаль кожны дзень адвячоркам аб праблемах сэксу, аднойчы заявіў, што Андрэеў, маўляў, усім ясна — быў псіхічна хворым, шызафрэнікам. Што-што, а ўжо гэтага, «мил дружок», шаноўны сэксапатолаг, Даніілу Леанідавічу не пасмее «вменить» ні адзін яго вораг і апанент. Калі ў нас псіхі здольны мець такі розум, такія веды, паслядоўны аналіз, сінтэз, здольны так разабрацца ў музыцы, жывапісе, літаратуры, паэзіі, гісторыі, тэасофіі, гісторыі рэлігій, псіхалогіі… здольны напісаць *працу*, дзе ніводная думка не губляецца, не пярэчыць адна адной, — хто тады ў нас разумныя? Ці не імі гэта зараз апанаваны радыё і тэлеэфір? Не збіраюся разважаць пра светаразуменне Данііла Андрэева — ні адзін чалавек не можа прэтэндаваць на абсалютную ісціну. Прапануй сваю версію… Трэцяе тысячагоддзе пачалося з адкрыцця (у які раз страчаных) неверагодных магчымасцяў чалавечай псіхікі, інтэлекту — я наконт экстрасенсорных здольнасцяў. Шоу? Шоу хапае! Аднак смешным будзе закапацца ў пясок і рабіць выгляд, што мы адны ва ўсім свеце — «венец эволюции».

Я тут пра сабаку… Як біёлагі, так і іншыя навукоўцы, галіна дзейнасці якіх тычыцца нейкім чынам жывёл, без сумневу сцвярджаюць, што сабакам кіруе толькі інстынкт і няма такіх варункаў, дзе б сабака праявіў сябе хоць чым-небудзь вышэй інстынкту. Не згаджуся. Хто стане спрачацца, што сорам і падман, альбо хітрасць, — гэта абсалютна чалавечыя якасці і зусім не ад інстынктаў.

Быў у нас сабачка. Трэзор. Рудзенькі, маленькі на ліску падобны. Не хачу пра яго распавядаць — асобны трэба настрой. Толькі паспрачаюся наконт здольнасці жывёл. Тое, што Трэзор быў хітрэц і падманшчык, — факт. Сабака рос вольна, без ланцуга і заўсёды бегаў за намі на ўсе вулічныя святы і «зборышчы», калі ж мы забаранялі яму — Трэзор панурыўшы галаву, з прыціснутым хвастом плёўся ў двор, але гэта быў артыстычны

ход. Толькі ён заўважаў, што мы (гэта мая сям'я: муж, я, дзеці) адышліся далекавата, Трэзор пачынаў акольнымі сцежкамі следаваць за намі. Гэтак хаваўся сабака доўга, разлічваў строга той адрэзак дарогі, з якога прагнаць яго ўжо будзе немагчыма. І вось «закон Бернулі» спрацоўвае!!! Трэзор абганяе, але не гледзячы ў наш бок, быццам не наш сабака: так бяжыць чыясьці псінка па сваіх сцежках… Абагнаў! Схаваўся за дрэва, чакае, цікуе: мы тым часам падыходзім бліжэй… *Гаў*!!! Трэзор выбягае і з усіх ног, з візгатам кідаецца ад шчасця і шчырасці на нас. Ляпае бруднымі лапамі па святочных сукенках, злізвае макіяж, псуе дарагую прычоску — што менавіта і было прычынай забароны следаваць за намі.

Трэзор быў маладзенькі. У яго ў нашым жа двары была душэўная сяброўка Лада. Яны бавілі час, як дзеці, дурэлі, бегалі, качаліся і раптам здарылася штосьці незразумелае нашаму Трэзору. Панапрыцягвалася ў двор сабак з усяго свету. Звярэюць, грызуцца, не даюць падысці да законнай сяброўкі. Дасталося сабачонку як мае быць у такіх патусоўках! І вось нарэшце хваля любошчаў схлынула, ды нагледзеўся Трэзор, і яго надта кранула падзея. Дык вось паверыць немагчыма… Пасля той своры, якая адбывалася ў двары пасялковага двухпавярховага дома… маленькі сабачонак, але ўжо кавалер, дамовіўся са сваёй сяброўкай палюбоўна і намігі, без сведак, ківаючы галавой, сціпла, сарамліва зазваў Ладу ў будку, каб не вырабляць перад людзьмі таго, што бессаромна выраблялі дарослыя сабакі…



## «РЫГАЛІ-ПРЫГАЛІ»

У маім жыцці, на вялікі жаль, не было ні адной бабулі і ні аднаго дзядулі. Дзяды памерлі рана, нават мае сёстры не ведалі іх ласкі, але ім пашанцавала застаць жывой бабу Мар'ю — маці нашага бацькі. Сёстры з такой любоўю і цеплатой успамінаюць яе, што мне застаецца толькі зайздросціць. Я не застала яе зусім, як і дзядоў. Дык нават маці мая пра сваю свякроў благога слова не сказала ніколі.

Вось бабу Вольку я памятаю літаральна адным кадрам. Мы з той суседкай Ленай, з якой пільнавалі цягнікі, толькі зусім малыя, задоўга да «чыгуначных падзей», і яшчэ маёй стрыечнай сястрой Зояй (дачка Віці, роднага брата майго бацькі, — гасцявала ў нас, прыехаўшы з Рыгі) выдзейсвавалі на пастаўленым сярод пакоя табурэціку — сцэна, спявалі і танчылі пад адзіна даступную нам на той «узроставы рэпертуар» прыпеўку: «Рыгалі-прыгалі, Рыгалі-прыгалі», дзе першае слова — вытворнае ад Рыгі.

Адзіным нашым гледачом была бабуля Волька, яна сядзела сярод пакоя на ўслончыку, скубла пер'е і ні кроплі ўвагі не надавала нашаму канцэрту, гэта я памятаю выразна: нас нібы не існавала для яе. Такое ўражанне пакінула маміна маці і ў маіх сясцёр.

Старэйшая Люда казала, што яе наша мама выправіла са мной дзевяцімесячнай да бабулі Волькі ў Прыпернае (маміна радзіма), і ёй, дзевяцігадовай дзяўчынцы, прыходзілася мыць мае «адзёўкі» ў стаўку, бо бабуля нас не заўважала, і «есці табе малой прыходзілася даваць што папала з нашага катла».

Думаю — хутчэй за ўсё, бабуля перажывала скруху — дэпрэсію, па-сучаснаму…

І яшчэ адзін момант, але ўжо без яе прысутнасці: мама плакала, схаваўшыся за домам, — выпраўлялі старэнькую бабулю Вольку аж у Казахстан, у «Алмату», дажываць век у яе старэйшага сына Аляксандра на чужыне, дзе бабуля і памерла праз нейкі час…

З Казахстанам штосьці заўсёды звязвала нашу радню… Туды мусіў паехаць на *Цаліну* мамін пляменнік, Нінін сын Валік, каб заслужыць дакумент — «вольную» ад калгаса, — у тыя гады сяляне былі ўсё адно, што прыгоннымі: працавалі за «палачкі» ў сшытку (проста памячалі працадні, без аплаты), а пакінуць калгас былі нявольнымі. Вось за адпрацоўку на Цаліне — давалі такую магчымасць, і пасля войска Валіка адправілі ў далёкі Казахстан. Потым там на службе аказаўся ўнук мамінага старэйшага брата Пётры — ваенны лётчык Генрык… А вось прыйшоў час — сёння вярнуўся з камандзіроўкі ў Казахстан мой сын Ціхан.

…Тады, у маленстве, я аддала маці канверт, атрыманы ад паштаркі, і засталася круціцца ля яе ног, радасна чакаючы, што нам паведамляюць з далёкага Казахстана (адтуль, на сваю радзіму і наўзварот цягнікам дзядзька Аляксандра з цёткай Нінай, яго жонкай, дабіраліся па цэламу тыдню ў адзін бок), мама нечакана загаласіла і доўга не адказвала на маё пытанне — што здарылася? Потым выцерла ражком хусціны вочы і нос і сама сабе праказала: «Вось табе і благая нявестка, а маму яна дагадавала на чужыне, маму яна пахавала…» — бабуля Волька памерла, зразумела я…

Больш пра яе не памятаю нічога, а так хацелася вымаўляць гэтае слова, асабліва калі суседскія дзяўчынкі хваліліся сваімі бабулямі і дзядулямі, так хацелася кагосьці называць бабуляй…



## СУ ПЛАЧОМ — НА АДЫХОД

Затое ў маім жыцці была цётка Ніна, старэйшая маміна родная сястра, поўная процілегласць мамы: мітуслівай, крыклівай, злапамятнай, утрапёнай, зайздроснай… Цётка — маўклівая, павольная, суровая.

Абедзвюх пры хадзе пазнаеш па асабліва прамой постаці: у маці — ад упартасці, ганарыстай непадатлівасці, у цёткі — ад непахіснай *цярплівай* волі. Мама з усімі лаялася, пры тым, што думкі сваёй ніколі не мела, цётка жыла сваёй галавой, але па-пустому не спрачалася.

Не памятаю, каб калі было, што цётка ўдзень прылегла на ложак, яна ўвесь час штосьці рабіла па дому, па гаспадарцы, у калгасе… спакойна, павольна, без спешкі, без слоў. Мама надта стамлялася і злавала ад стомы, таму што яе справы рабіліся з гвалтам, злосцю… бесталкова.

Часта яна забягала да суседак, пакуль тыя прыбіраліся ў доме, гатавалі ежу, мама сядзела і перагаворвала пустыя размовы, спахопіцца — зараз прыйдзе бацька на абед, з крыкам бяжыць дамоў: спяшаючыся карміць скаціну — абдзярэ аб тарку руку, прышчэміць палец, похапкам, разбіваючы посуд, рассыпаючы муку па ўсім доме, разліваючы малако, ускідвае бліны на патэльню — стол забрудзіць, пліту залье, падлогу заляпае. Дастанецца і сценам, і вокнам, і канапе, і вопратцы, бо штосьці на хаду прыйдзецца шукаць, даставаць, прыбіраць і ўсё — рукамі ў цесце, тлушчы, фаршы, а кроў з пальца капае і ўсё — «су плачом», прыгалошваннем, праклёнамі лёсу: як ёй адной цяжка ўсё цягнуць на сваіх плячах і за што ёй такое гора?!

Падрослая, чуючы тыя скаргі, я падыходзіла да мамы: «Скажы, што мне зрабіць, я дапамагу?» — «Чым ты дапаможаш, што ты тут панімаеш?!» — са злосцю «туркала» мама і выпраўляла прэч. Так я аж да дзявоцкага веку нічога і «не панімала», давялося прыглядацца да чужых сем'яў, бо ў сваёй ніхто не вучыў.

Да прыходу бацькі яна ўжо знервуецца канчаткова, а тут і бацька дабавіць жару і «кіпяжу». За абед толькі што не паб'юцца, а бывала, і паб'юцца, маці выбежыць на вуліцу, быццам у тэатры на сцэну, абвесціць зычным голасам ўсё наваколле пра сваю крыўду. Пасля сыходу бацькі яна яшчэ пакрычыць «на адыход» для супакаення ў двары, потым ляжа ў запечку, накрыецца з галавой, абторкаецца з усіх бакоў коўдрай: «Дайце хоць мінутку спачыць!!!» Вечарам усё паўторыцца.





## ЯБЛЫК АД ЯБЛЫНІ

Зусім іншая характарам у дзявоцтве, нарадзіўшы дзіця, я стала сапраўднай дачкой сваёй маці. «Гены плетью не перешибёшь»…

У школе папроць аднагодкаў я сябе не вызначала — вучылася ды і не задумвалася, не параўноўвала. Стала навучэнкай музычнага вучылішча, нас адразу павезлі ў калгас на бульбу, пасябравалі між сабой з аднагрупнікамі — зноў не бачу, чым я ад іх рознюся. Тут праз нейкі час з'яўляецца ў вёску новая змена выкладчыкаў — кураторша нашай групы, Дзергачова Ларыса Віктараўна: вогненнавалосая, сучасная маладая асоба — толькі кансерваторыю скончыла; пульхныя вусны яркай чырвонай фарбай намаляваныя, вочы густа чарнёныя тушшу і кідкім блакітам па павеках абведзеныя. Позірк, не толькі постаць і выгляд, былі supersexy! Яна з выклікам ва ўпор пазірала на мужчын: ці то выкладчык перад ёй, ці трактарыст, ці студэнт…

Дык на першым танцавальным вечары Ларыса праз усю залу хадой коткі падышла да мяне, паглядзела ў вочы і запаволена вымавіла: «Какая же ты грубая девочка…» «Ф-фи-и» яна не дабаўляла, мой слых дамаляваў «ф-фи-и» вельмі выразна, як давяршэнне агульнага ўражання ад кадра. То было праўдай, толькі да гэтай пары мной не ўсвядомленай. Я апусціла долу вочы, сарамліва ўсміхнулася. Дзесьці праз тыдзень мы ўсе, пасеўшы на плоце, чакалі, пакуль наладзяць сапсаваны камбайн, Ларыса падсела да мяне на жардзіну: «Хоть ты и грубая девочка, но я тебя очень люблю…» Я зноў прамаўчала, бо ўмела слухаць у той час, была здольнай пачуць і зусім не крыўдаваць.

У канцы працоўнага месяца, калі група ад'язджала на заняткі ў кузаве грузавіка (тады нас вазілі так), перад усёй групай Ларыса сказала: «Люда, ты самая лучшая девочка, теперь я это поняла…» Больш сваёй думкі яна не мяняла і шматкроць пацвярджала прыхільнасць да мяне.

З добрым намерам і сарамлівай сціпласцю ўвайшла я ў дом свайго мужа. Свякроў мая, жанчына моцнай волі і характару, неадкладна пажадала ўзяць верх над нявесткай. Задуманае ёй амаль удавалася, балазе, прычын патуркаць хапала з ліхвой: на пабытавай арэне я заставалася нязграбай і «няхлюйкай», ва ўсякім разе, муж мяне абараняў, самой лазіцца не прыходзілася.

Штосьці мяняецца ў жанчыне па нараджэнні дзіцяці, якісьці гармаальны зрух. З мяне папёрла… Спробы свякрові груба падпарадкаваць сабе мае паводзіны, пасля таго як я стала маці, праваліліся — я адказала ёй у зададзеным тоне… І гэта быў першы раз, калі мой муж заступіўся

не за мяне… кола замкнулася. Цяпер я мусіла абараняцца сама, бо ён не жадаў лаяцца з маці праз такую ж наравістую жонку.

Выпрастаць, разблытаць *сабою*, сваім жыццём ланцуг роду — *подзвіг*…



## ВО — ТАБЕ!!!

Елі ў нашай (маіх бацькоў) сям'і паасобку — хто калі і дзе захоча: у спальні на ложку, у двары, ля тэлевізара, з каструль, скаварод, стоячы, ходзячы, змурзаўшыся, з'юдзгаўшыся ад вушэй да абутку.

У цётчыным доме было адно месца для яды: стол, на стале парадак, за сталом — цішыня. Ніхто нікога ў іх сям'і не прымушаў штосьці рабіць, не папракаў за ленасць, не туркаў і не паганяў — кожны знаў свае абавязкі. Усё ў хаце, двары, хляве, ад прыладаў гаспадарскіх да мэблі, зроблена было рукамі дзядзькі і сыноў.

Мама адвезла мяне да сваёй старэйшай сястры, каб адвучыць «ад сіські». Я спачатку галасіла без мамы, потым прывыкла і, калі па мяне прыехалі, — «ад Ніны не адарвалі». Маці «пагаравала», пусціла слязу «на адыход» і вольная пабегла на аўтобус. Даражэй за ўсё на свеце ёй былі бясконцыя сваркі з мужам, сваркі да хрыпаты ў горле, да адурэння мазгоў, да агалення дупы: «Во — табе!!!» Удосталь «паганяе адрэналінчык па арганізме» і «як новенькая», з патроенай сілай, бадзёрая і энергічная шпарыць на работу ў гасцініцу, не задумваючыся над тым, як яе «экзальтацыі» адбіваюцца на дочках.

«Работа» потым і для нас, яе дачок, стане «пуцяводнай зоркай» — ні хваробы, ні сямейныя абставіны не зоймуць першага месца перад абавязкамі на рабоце…



## ХУТАР

Так я засталася на хутары. Канечне ж, не памятаю той першы раз. Памятаю іншыя…

У хаце цёткі Ніны і дзядзькі Мінькі было ўсё наадварот, да чаго прывыкла я ў нашым доме. Кожнай рэчы там было адведзена сваё месца, а рэчаў было — самая неабходнасць. Нідзе нічога не «валялася», не гніло, не «хавалася» пры патрэбе…

Сярод вялікага пакою — печ, яна дзяліла хату на гаспадарчую частку (кухню) і прасторны пакой, ад якога ў свой час шафа з фіранкай аддзяляла два ложкі (спальня — такія назвы тады не ўжывалі). Стол стаяў заўсёды чысты, засланы льняным абрусам, калі заставалася пасля сняданку ежа, гэта толькі бліны, бульба ці штосьці мучное, — накрывалася шчыльна місачкай, а зверху — сурвэткай. Іншыя стравы стаялі ў печы альбо ў адпаведных прыбудовах, якім, на жаль, я і зараз не ведаю назначэння: клець, павець, варыўня. Лыжкі і відэльцы, іх было па ліку чальцоў сям'і, віселі на самаручна змайстраванай палічцы з прораззю. Сальнічка — на сцяне. У шафе, выструніўшыся як на пляцы, вісела на зрэбных вешалках вопратка.

Цётка з дзядзькам трымалі карову: малако, смятана, масла, тварог… — ніколі не пакідалі ў цёплай хаце. Акуратныя збанкі, чыгункі стаялі ў варыўні да патрэбы, малако ў бляшанцы адстойвалася ў глыбокай студні, навязанае крэпкай вяроўкай (вяроўкі і дратву дзядзька сучыў сам).

Іх дом не ведаў лаянкі мужа з жонкай, хоць маці часта жартавала: «Ніна наша выйшла замуж горш чым за ўдаўца». Мелася на ўвазе тое, што дзядзька Мінька мусіў дагадоўваць праз сіроцтва сваю малодшую сястру Васіліну, якая, да таго ж, яшчэ потым нараджала дзяцей без мужа, так што ў хаце Ніны і Мінькі заўсёды было шмат дзяцей з усіх бакоў радні. Мы, маміны дзеці, і трое Васіліniных. Пры гэтым вэрхал стаяў толькі пад час адсутнасці дарослых. Прыходзіла з поля Ніна — і станавілася ціха і спакойна, хоць цётка ніколі на нас не сварылася, не крычала. Проста яна так трымала сама сябе, што мы мусілі пад яе «строіцца».



## ПРАЗ КАВАЛЁЎСКУЮ ЦАРКВУ

У нашай сям'і не вялося гаворкі пра Бога, а цётка Ніна з дзядзькам вазілі (ці вадзілі) мяне ў кавалёўскую царкву на ўсе вялікія святы. І хоць такі факт дзяцінства ні кропляй не наблізіў мяне да *веры* — гэта адбылося значна пазней, пасля нараджэння дзяцей і, на першы погляд, выпадкова, але кавалёўская царква стала параўнальным прыкладам да жыцця ў родным доме, дзе заўсёды страшна, няўтульна і бязглузда — там, у маленькай простай драўлянай цэркаўцы было заўсёды прыстойна, спакойна, чынна…

Пасля малебну заварочвалі ў чый-небудзь двор, дзе ўжо стаяла некалькі прывязаных да плоту коней, бегалі святочна прыбраныя дзеці, трымаю-

чы ў руках пукі самаробных цукерак у каляровых абгортках з фольгі і вырваных са школьных сшыткаў лістоў. Жанчыны насілі ў хату з павозак кошыкі загадзя прыгатаванай ежы, купкамі трымаліся чакаючы застолля, талкавалі-гаманілі мужчыны.

Ніхто з іх не напіваўся, не кідаўся задзірацца, не «звярэў». На зваротным шляху дзядзька нярэдка нейкі час ішоў пешы, шкадуючы каня і «каб хутчэй ацвярозець».



## УСЁ ПРАРАСТАЕ З СЕМЯ

А вера потым прыйшла, бо ў ёй мелася вялікая патрэба. Змоладу да гэтага не даходзіла чарга, праз мітусню не хапала часу спыніцца і агледзецца, але законы светаўтварэння незаўважанымі не засталіся.

Усё прарастае з семя — думалася мне, — у гэтай мізэрнай кроплі матэрыі змяшчаецца абсалютная інфармацыя пра былое і будучыню свету: хваробы, мутацыі, змены клімату і эпох, прыродныя стыхіі і гістарычныя падзеі, касмічныя з'явы і цеплыня чалавечай далоні… Неспасцiжную моц ўтрымлівае зярнятка, з яго прарастае расліна і жывая істота, з пясчынкі пачынаецца гара, з кроплі — акіян, з пылінкі развілася планета…

Вось *тое* зярнятка, якое нарадзіла *Сусвет*, і ёсць — *Бог*. Найпрасцейшая фомула, у якой замыслілася *вольнае* развіццё *ўсяго*, закон утрымання бясконцых у часе і прасторы шляхоў і варункаў, сярод якіх і — *самаразвіццё* першаснай семядзэі праз жывое, праз *любоў* і *са*тварэнне, бо *Бог* — гэта яшчэ і «опыт народный».

Ніяк у маёй галаве і сэрцы не знаходзіла месца цётчына (ды і не толькі) уяўленне Бога — вобраз магутнага грознага старца ў небе, які пільна адсочвае, каго і як пакараць, а каго аддзячыць… «Мой» *Бог*, найперш, — неабмежаваная сутнасць дабрыні, усёразумення і любові…

Адчуваючы сваю душу з маленства, я заўважала, якую барацьбу вядзе над ёй *штосьці*, укладваючы ў галаву адну за другой супярэчлівыя думкі, і як лёгка падпасці пад манкія зазывы пякучых жаданняў, але і як проста пазбавіцца ад такой навалы — не дазваляць галаве «смакаваць» іх. Адкідваць, як гнілую рыбу з невада, не «лавіць» тую процьму бруду і смецця, што раіцца ў выглядзе думак над кожнай чалавечай галавой. Сапраўдныя думкі трэба выношваць і нараджаць, узгадняючы з сэрцам, розумам і сумленнем.

З вялікай прагай углядалася я ў людзей светлых, чыстых, разумных, да якіх хацелася *дацягвацца* ва ўсім. І думала — а ў іх жа таксама ёсць высокія арыенціры, а ў тых, у сваю чаргу, — яшчэ вышэйшыя, і так бясконца, значыць, ёсць *той*, па кім магло б строіцца чалавецтва. Узнікаў вобраз рэальнай істоты, *чалавека*, які здолеў увасобіць у сабе ўсе боскія якасці.

Мы жылі ў свякрові: мыла я падлогу і піхнула праз нязграбнасць кніжную шафу, з яе, зачыненай на ключ, у шчыліну між дзвёрак выслізнула ў рукі тоненькая брашурка па археалогіі. Каб была руплівай гаспадыняй, і ў галаву не прыйшло б — тут жа, сярод недаведзенай справы, пачаць гартаць старонкі і ўчытвацца… але ж я — дачка сваіх бацькоў…

Дык жыў, высвятляецца, *такі* чалавек?! І вучняў займеў, і цуды праз яго ствараліся, і пакуты панёс, і здраду працярпеў і распяты быў…

Адно — разважаць і здагадвацца самой, зусім іншае, як твае думкі *спраўдзілі*.

То быў час магутнага СССР…

Гэта брашурка перавярнула маё жыццё. На свет я пачала глядзець па-новаму, і неяк адразу на вочы сталі «выпадкова» пападацца матэрыялы, якіх не даставала розуму і сэрцу: падарылі Біблію, пра якую даўно марыла… Прачытала і зноў пацвердзіла свае ўяўленні: не знайшла супярэчнасцяў між пісаннем і думкамі. Разумела: Біблію пісалі *людзі*… Бог укладаў у іх слова, але гэта не гарантавала бясспрэчнага, абсалютнага адчування боскага слова чалавекам, які яго запісваў. І ўсё ж галоўнае адкрывалася — я чытала гісторыю народа, які спасціг геніяльнейшы факт: *Бог* адзін на ўсіх. Як пакутаваў гэты народ, якія трагедыі перанёс, апякаючы народжаную думку. Перада мной паўставалі жывыя людзі, жыццёвым подзвігам і любоўю якіх, піталася *тое* зярнятка сусвету і ўзышло *Богачалавекам*. Як змяніў Новы Запавет *слова*! То было ўжо не слова страху і пакарання, а *слова любові*. Заўважыла я і перамены ў *Пісанні*, калі прамаўляць узяўся апостал Павел, — надзвычайна прыгожа… але збоку ад Хрыстовай навукі, грозна і зноў са «скрежетом зубовным»…

Прыйшла да мяне і самаробная кніга Аляксандра Меня «Сын человеческий», хацелася згаджацца з кожнай літарай.

Не магу прамаўчаць і аб мастацкім слове… Так, як паўплывалі на маю веру *душой*… радкі Булгакава ў рамане «Мастер и Маргарита» — не падзейнічала нішто іншае. Прычым сам раман чытала без асаблівага захаплення: стамлялі і здаваліся надуманымі забавы Воланда, а вось главы, дзе з'яўляўся Іешуа, мяне нібы падключалі да электрашоку, кранулі да глыбіні сэрца. Не думаю, што творчыя дамалёўкі падрабязнасцяў і вольнасці аўтара ў апісанні падзей прыносяць вялікую шкоду… Значна большы плён нясе яго бясспрэчнае разуменне *хрысціянства*.



## РАСПАШУЛЛЕ

Там, на хутары, я на ўсё жыццё запомніла жытнёвыя палі і дзівосныя імшары, са смачнымі ягадамі — збіралі кожны дзень, каб, патоўчаныя з цукрам, заліць малаком і навыперадкі, адзін перад адным сёрбаць алавянымі лыжкамі з глінянай місачкі; з восеньскімі грыбамі ў высокай зрудзелай траве, з прамавугольнымі канавамі, напоўненымі чорнай, як люстэрка, вадой — даставалі торф на пратопку печы… Лугі з пахучымі кветкамі, звонкімі птушкамі… Хутар — гэта снягі да страхі і тунэль да дарогі, яго прачышчаў у снезе дзядзька альбо браты Валік ці Віцька раніцай, каб выйсці з хаты…

Хутар — гэта *Распашулле*… Па радыё ў тыя гады часта перадавалі рускую народную песню:

В тёмном лесе, в тёмном лесе, в тёном лесе, в тёмном лесе,
за лесью, за лесью
Распашу ль я, рапашу ль я, распашу ль я, «*Распашулле*»
Пашенку, пашенку.

Мне вельмі падабалася яна, толькі беларускае вуха дзіця на свой адум малявала незнаёмыя словы. *Распашуллем* здаваўся зямны *рай* — сад у вясновай квецені, рунь — як вокам акінуць, бухматыя бэзы, пахучыя, кусцістыя — вышэй стрэх, неба, у якім я лятала аднойчы…

Пад плотам у суседзяў Глінскіх стаяў тэнісны стол. Малыя мы нярэдка ляжалі на ім, часцей за ўсіх я, бо так, вечарам познім, вельмі зручна было глядзець у неба, назіраць за зоркамі. Аднойчы спахапілася — зоры вакол, панарама змяніла абрысы. Сузор'і былі паўсюль: з бакоў, знізу, зверху, *за* і перада мной, усё рухалася — я ляцела… Магчыма, то быў імгненны дзіцячы сон, потым прачытала, што іншы раз дзеці захоўваюць здольнасць *лятаць*…





## NOSTALGIE

Але хутар — гэта і жудасная хвароба, якую я зведала ад самага малку: *настальгія*.

Потым у музычнай школе нам доўга будзе тлумачыць настаўнік — філосаф-духавік, што за хвароба такая, з-за якой Рахманінаў не мог пісаць музыкі на чужыне, і ў настаўніка не хапала слоў апісаць гэту хваробу, вучні здзіўлена паціскалі плячамі, а мне і тлумачэнні не патрэбныя былі. Гэта такая хвароба, калі чалавек не можа есці, не можа піць, не можа размаўляць, не можа ўстаць з ложка, не можа глядзець на сонца… ён здольны толькі сумаваць, сумаваць, сумаваць… па *сваім*. І не важна, што сваё, можа, у сотні разоў камусьці здаецца горшым: гэта *сваё*.

«Ціху, не чапайце Люську — яна дужа зжудзілася», — шаптала цётка Ніна сваім сямейным, я была рада, што ніхто не будзе дамагацца маёй увагі.

Больш за ўсё я адчула, *што* ёсць настальгія, калі гасцявала ў дзядзькі ў Рызе. Туды мяне пасля пятага класа выправілі адну на цягніку на цэлы месяц вакацый. Я ўжо была старэйшая і магла неяк трымацца, але калі мы ехалі з мора на электрычцы і мне на вочы трапіўся цягнік з вялікімі літарамі па ўсяму саставу: *Беларусь*, — я разгаласілася, сказала, што вельмі забалела галава…

Зараз ва ўсім свеце ўзяліся «наводзіць агульнапрынятыя парадкі» ў сем'ях, адлучаць ад бацькоў дзетак — мільён разоў трэба падумаць, *што* гэта нясе. Сям'я заўсёды лепшая за дзяржаўны самы найлепшы «*кагал*», калі толькі ў ёй не здзекуюцца з дзяцей фізічна ці псіхалагічна, ды і гэтага ў інтэрнатах хапае. У «неардынарных» сем'ях з'явіліся на свет і выгадаваліся: Бетховен, Шаляпін, Кафка, Ахматава…

Я хацела дамоў, сумавала па сваёй сям'і невыносна. Маці зноў ўгаворвала мяне, садзіла ў аўтобус, давала ў рукі дзесяцігадовай дачцэ баян у чахле-чамадане кіль на дзесяць, не менш (ад аўтобуснага прыпынку ісці кіламетры два), торбачку з сёй-той вопраткай і выпраўляла ў Шыпы (там быў хутар).



## ШМЫТ, АНТОНАЎКА, МАГУЦІК

Валодзька Глінскі прыходзіў у госці так: адчыняліся дзверы — і на парозе з'яўляўся чырванашчокі, круглатвары, нос бульбінкай мацачок. Зімовае паліто расшпілена на ўсе гузікі — Валодзю заўсёды душна, не хапае чыстага паветра і прахалоды: ён — зух (па-сучаснаму, па медыцыне — гіперактыўнае дзіця).

Уладзімер стаіць на парозе моўчкі, нас яшчэ не навучылі вітацца, а хо-о-очацца «на сяло» (так называлася схадзіць у госці)… Ваўчок здымае шапку, бо вушам цесна і парна, яны ў яго аж гарэць ад радасці і паўнаты жыцця, да таго ж — крышачку лапушкамі. Трымаецца за шапку дзвюма рукамі — няма куды іх дзець, заказеліўшы ўгору вочы разглядае ўважліва столь: доўга, напружана і ўважліва, быццам прыйшоў ацаніць пабудову… На самай справе, Вова саромеецца, не ведае, як трэба сябе паводзіць і што казаць…

— Ну што? — пытаецца хто з маіх бацькоў. — На сяло прыйшоў?

— Ага… — згаджаецца хлопец, не перастаючы аглядаць столь і вуглы са сценамі, перамінаецца з нагі на нагу…

— Дык смялей заходзь — не стаі ў дзвярах, скідай паліто…

Валодзька паціху асвойваецца. Я не дужа звяртаю на яго ўвагу, але і не пярэчу «візіту»…

Валодзя Глінскі не забіяка, ва ўсякім разе, з дзяўчынкамі не біўся, звычайна бавіць час, як і ўсе хлопчыкі нашых гадоў: ганяе перад сабой бляшанае кола, штурхаючы яго знутры драцiной, загнутай на канцы кручком — прыдумка-вынаходка савецкага дзяцінства. Мела ўсесаюзную распаўсюджанасць і любоў.

Самі колы, хутчэй, гэта былі дыскі, памерам у дыяметры амаль з паўметра, магло — менш, нашы мальцы лёгка знаходзілі на той самай звалцы металалому, што ля чыгункі, а не — дык бацькі з не меншай лёгкасцю «здабывалі» іх для сваіх сынкоў на любым прадпрыемстве. То, яўна, былі запчасткі для якогась механізма, сельгаскамбайна ці малатарні… Пры жаданні ў кожнага хлопчыка мелася па два-тры такія колы на выбар. У цэнтры металічны дыск меў выразаную зубцом па краі пустату круглай формы сантыметраў трыццаць пяць у дыяметры. Вось гэты дыск-вобад, пастаўлены на рабро (як вялізная манета, з вялізнай дзіркай у сярэдзіне), а рабро — не больш за два міліметры шырынёй, штурхаўся пад зубец знутры металічным круком, выгнутым для зручнасці. Рух адрываў дыск ад дроту і тым дазваляў набіраць хуткасць без перашкоды, а майстэрства ўпраўляцца з дротам давала магчымасць трымаць кола заўсёды ў вертыкальнай пазіцыі і на неабходнай, амаль «ювелірнай» адлегласці крука



ад зубцоў. Такім чынам, і самому «ўпраўленцу» патрабаваліся значныя ўвішнасць, засяроджанасць і спрыт, каб не адстаць, не абагнаць і не зачапіцца за кола… Вышэйшы пілатаж!

Так бавілі час усе савецкія хлопчыкі, пагалоўна апранутыя ў шырокія кароткія штонікі, якія ніхто тады яшчэ не называў шортамі, і цюбецейкі, прывезеныя бацькамі з Цаліны, Ташкента (хто адкуль), дзе адраблялі «вольную» ў дзяржавы, каб іх Ваські, Лёнькі, Мішкі мелі магчымасць «лётаць» за тымі вось коламі — аж пяткі мільгацелі, не па лаўрынаўскіх, буртылёўскіх, замоскіх, чычалёўскіх і шунеўскіх калдобінах, а па «гарадскіх», глыбоцкіх…

Мяне нават пакідалі на Валодзьку (ад даверу) у «закрытым доме», калі сыходзілі на работу. Ён старэйшы за мяне аж на цэлы год і меў маленькую сястру Тоню — меў вопыт няньчыць малых… Валодзька — не завадатар на дурное і недазволенае. Разважлівы і памяркоўны, ён імгненна мог мяняцца на няўрымслівага жартаўніка, Уладак так мог рассмяшыць дзяцей і дарослых, што разам з ім… А самым смешным і быў яго смех, усе проста «качаліся» — Юрый Нікулін!

Але да Уладака ў мяне асабістая прэтэнзія… Глінскі меў сапраўдны талент — даваць мянушкі!

Дзеці заўсёды абзываюцца, дражняць адзін аднаго, і нічога ў тым цікавага, а вось бывае — завядзецца ў наваколлі такі Уладзімер: вастравокі, востраязыкі, цікаўны, уважлівы, учэпісты; мянушку прылепіць — як акрэсціць. Усё ў ёй: і характар, і знешнасць, і звычкі…

Дык абазваў Валодзька і нас, сваіх сяброў са Шпітальнай…

Ленка, з якой мы «чыгунку потым асвойвалі», хадзіла Шмытом. Як у люстэрку адбітак! Па-першае, Ленка дужа шмыгала носам, выціраючы сапылі рукавом. Па-другое, любіла «шмыгаць», шныпарыць па завуголлі, яшчэ — была такой жа бадзёрай, праз край жыццярадаснай, энергічнай, круглатварай рагатухай, як і сам Воўка, дык мянушка ёй дужа пасавала.

Маленькі, белабрысы, худы, як шкілецік, малодшы браток Люды Шынкевіч, Сашка, названы быў Магуцікам, бо жвавасці, «борзасці» і гатоўнасці вярнуць горы — аж пёрла з яго бліскучых, радасных блакітных вачэй! Ну чым не Магуцік?!

Дзве сястры Рубашкі, Ліля з Лідай, ледзь не блізняты па сваёй хударлявасці, бялявасці валосікаў. Бледна-ружовенькія тварыкамі, заўсёды ўдваіх, адна за адной на паўпрысядзі, не шумныя, затое бойкія, раўнарослыя — Сайкі. Вядома ж, сайкі… Сястру сваю маленькую Тоню зваў Гапонісам, яна толькі пачынала станавіцца на ножкі і ўвесь час «гэпала» на каленях у бацькоў, танцуючы «пад язык»…

…А я была Антонаўкай…

— Чаму ты так завеш мяне?

— Ты ніколі не ўсміхаешся. Заўсёды кіслая…



## МАНЮКА

— А нас каталі на самалёце! — паведаміла я сваім бацькам, прыйшоўшы са школы.

— Праўда? — развесяліўся бацька. — А можа, маніш?

— Ну чаго яна будзіць маніць? Ад школы, пэўна, вадзілі на «арадром».

Маці адразу і без сумневу паверыла, а бацька радасна, але з хітрынкай углядаўся ў мае вочы, шукаючы падвоху.

— Ну, ад школы вадзілі, — падхапіла і я маміну версію.

— А дзе ж той «арадром», скажы мне — я ж не ведаю… — прыкінуўся наіўным бацька…

Гэткую задачу загадаў! Я стакроць была на тым аэрадроме, і нават з ім, магло быць — як хадзілі на свята ў Барок, толькі ён запамятаў.

— У Беразвеччы аэрадром, толькі з другога боку возера.

— Гэта ж ужо не Беразвечча. Аэрадром жа за аўтабазай. — Хоць якнебудзь, але бацька не губляў надзеі выкрыць ашуканства.

— Ну адкуль яна, малая, будзе ведаць, што там за вуліца, якая там база — праўда ж, у бок Беразвечча, ля Барка, — абараняла маці дачку.

— А па колькі ж чалавек вас садзілі ў самалёт?

— Усіх адразу.

— А вот і злаві-і-іў манюку! У Глыбокім толькі «кукурузнік», а ён жа — маленькі самалёт.

— Адкуль ты знаеш, колькі іх там было? Можа, не ўвесь клас хадзіў, — заступалася маці.

— Не-е-е, не ўвесь клас. Мала нас было, — ухапілася я за падмогу.

— А якія ж там рамяні пры сядзеннях: сырамятныя ці вырабленыя, як на тваім баяне?

Тут я зразумела, што бацька дае мне больш шанцу, чым пажадана пры «допыце», бо каб не ўдакладніў пра сядзенні — «спалілася б» — адкуль мне знаць, якія і дзе ў тым самалёце рамяні? Напэўна, яму дужа хацелася яшчэ трошкі пацешыцца перш-наперш здагадлівасцю дачкі, потым — тым, што яна «артыстачка!», а больш за ўсё хацелася і напраўду верыць — малых каталі на самалёце.

— Дурны ты?! Сырамятныя, вырабленыя, знайшоў пра што запытацца ў дзяўчынкі!

Ну тут і бацька даў ходу назад, зразумеў, што перагнуў. Але я не разгубілася.

— Ды звычайныя рамяні — крэпкія такія, скураныя!

— А колькі ж кругоў вы абляцелі вакол Глыбокага?



— Адзін.

— І што ж ты ўгледзела зверху? Ці відаць жа было нашу хатку?

Тут я здалася — бацька пачаў верыць, стала яго шкада.

— Спадманула я вас… Не каталі нас на самалёце.

— От маню-юка, от маню-юка. Ну «арцістачка», ну страцег! Гэта ж нада-нада: бацьку маніць і вокам не міргне.

— Дык а чаму *яны* вас не пакаталі?! — абурылася маці, сапраўды падманутая — бацька толькі дазваляў сябе падмануць.

— Нічо-о-ога, пакатаюць другім разам! — запэўніў ён.

Шукаючы трапнае слова, задумалася. Выходзіць, як беларускі мужчына, дык пра яго можна сказаць: «ілжэц», «хлус», «ашуканец», а як жанчына, дык усяго толькі — «манюка».



## «КРАСОТА ТРЕБУЕТ ЖЕРТВ»

У пачатковых класах маёй суседцы дактары параілі насіць акуляры, каб выправіць касавокасць. Зайздрасць мяне падбухторыла на падман. Стала і я штодзень надакучваць сваёй маці, напамінаючы пра дрэнны зрок. Як пра што добрае — хутка б забылася, а тут, як вечар, — пачынаю «дрэнна бачыць» — літары ў кнізе расплываюцца.

Дужа недаверліва маці паставілася да такой навіны:

— Ну быць не можа! Такія чыстыя ясныя вочы! Ты, можа, маніш? Ні ў кога з роду не было дрэннага зроку…

— А хто чытаў з вашага роду, як зараз дзеці чытаюць?! — заступілася за мяне старэйшая сястра.

І якраз выйшла «з аказіяй» выправіць мяне да акуліста разам з той суседскай дзяўчынкай. Да сённяшняй пары не разумею, як доктар не змог разгадаць ува мне падману. Я ж толькі ў дарослым веку заўважыла, што медыцынская табліца, абавязковы атрыбут кожнага кабінета вачніка, складаецца з радкоў строга вымераных літараў. У той час я аб гэтым не задумвалася, толькі разумела, што некалькі літараў «я павінна не бачыць». І, для надзейнасці, адну — бачу, другую — не; адну — бачу, другую — не; так ад самых вялізных «ш» і «б» з першага рада да апошніх радкоў… На нітцы «бісерных кузурак» я вырашыла — хопіць! — трэба больш праўдападобнасці, штосьці ж павінен бачыць чалавек — пачала называць усе літары падрад. Доктар прапісаў мне акуляры, якія прыйшлося купляць аж у Бабруйску, дзе на той час вучылася мая сястра Рая.

…І з’явілася я «прыгажуняй» у школу — ніхто не сказаў, што акуляры мне «ідуць — як свінні сядло», а яны мне, і праўда, зусім не пасавалі. Жудасная шэра-празрыстая аправа, формы — «бабульцы на нос», якая па таннасці сваёй — шукалі ж найдзешавейшую — трымацца магла толькі па дыяганалі адносна твару, бо яе круціла і касабочыла, ад чаго адна дужка тырчэла над вухам, другая назойліва ўразалася ў галаву… Што думалася ў той галаве пры гэткіх акулярах?!

Потым у лесе, збіраючы грыбы, я іх згубіла, і дзякую Богу!

Прыпомніўся выпадак з педагагічнай практыкі. Вучань у мяне быў смешны, хадзіў на ўрокі ў акулярах, а праз іх — свету белага не відаць. Мала, што шкельцы луснутыя на павуціну, дык брудныя — да немагчымага, а пачысціць няма як — раструшчыш, павысыпаюцца!

Раз прыгледзелася, другі — шкада стала хлопчыка.

— Чаму ты ў такіх акулярах ходзіш — праз іх зусім нічога не бачна?!

— Я ўсё бачу… — буркнуў мой «акулярык», але на наступны ўрок прыйшоў без іх.

— А дзе твае акуляры?

— Вы ж казалі не насіць…

— Як ты ноты будзеш чытаць?

— Я ўсё бачу…

З той пары ён, самы смешны сярод вучняў «акулярык», бо хадзіў па школе ледзь не навобмацак, стаў зоркавідушчым.



## СКАРБОНКА

Гадоў восем было мне — «паветрыя» такое сярод дзяцей пайшло: «капілкі». Праз вокны ў кожным доме паглядалі на вуліцу сытыя гліняныя каты-скарбонкі, у іх дзеці кідалі грошыкі. Ну, марыць пра ката мне не выпадала…

У той год бацька кінуў нас і паехаў, як казалі, «сабакам сена касіць». Я не любіла такіх гаворак і ў нашай сям’і, калі яны і вяліся, напэўна, я (як і ўсе дзеці — абмяжоўваюцца ад таго, што баліць) рабіла іх для сябе «нячутнымі», бо не памятаю. Бацька спрабаваў наладзіць сямейны рай з адукаванай жанчынай, але не ўдалося…

Той перыяд помніцца прысланым для мяне праз пошту зялёным паліто і намаляваным сястрой для мяне календаром… Напэўна, сямейныя раней за мяне даведаліся, што бацька вяртаецца, і павесілі над маім ложкам каляндар, у якім я старанна закрэслівала дні «бязбацькаўшчыны».



Самы апошні запомніўся асабліва: мяне ад раніцы трасло… Маці смажыла на патэльні кілбасу — чакалі «госця», я не выходзіла з закутка, дзе стаяў мой ложак, над ім — каляндар з апошняй лічбай, абведзенай чырвоным алоўкам. Я не знаходзіла сабе месца… нейкая хімічная залежнасць існуе між дзецьмі і бацькамі. Я чакала… Я вельмі яго любіла…

Скарбонку маці параіла мне зрабіць са стакана. Я абвязала на два абароты з банцікам суровай ніткай, накрыты зверху паперай, стакан і паставіла на падаконнік. І стаў ён для мяне сапраўднай звадай-спакусай… Якая ж скарбонка без скарбу! Маці дала пяць капеек — я прапхнула манету праз дзірачку: яна скупа дзынкнула аб дно стакана. Некалькі разоў яшчэ я патрэсла скарбонку ў руцэ: пятак у сумнай адзіноце не жадаў звінець, як гэта атрымлівалася некалі ў бацькавай прыгаршчы. Ён любіў пасля палучкі, падазваўшы мяне «на мігі», пабразгаць «капейкамі»: складаў свае крэпкія далоні ў жменю і біў ёй аб калена — атрымліваўся гук, падобны на звон манет, раскрываў рукі, а там — пуста, альбо і сапраўды поўна манетак. Калі ўгадаю, то — мае.

Увесь дзень, як скарбонка заняла месца на падаконніку, азначаўся пошукам манет. Гэта пры бацьку бывала, павысыпаюцца ў п’янага з кішэні — назаўтра знаходзім дзе папала: пад палавіком, пад сталом, пад плінтусам… Дык і ў той, «капілачны», дзень дарэмна абшнарыла ўсе хованкі — не пры тых «фінансавых абставінах»…

У нашым доме кватаравалі пастаяльцы. Можа, каб лішнюю капейку мець, маці пусціла іх, трое нас было ў мамы, а працавала яна ўборшчыцай пры гасцініцы: трыццаць рублёў у месяц, а магчыма — каб не было «дзіка» ў доме начаваць. Жыла ў нас жанчына з маленькай, гадоў пяці, дачушкай. Яны тым, «капілачным» днём мелі намер ісці ў кіно. Апрануліся ў прыгожае, выправіліся, мне на зайздрасць, у горад, дык і вельмі хутка вярнуліся…

— Што зрабілася? Кіншчык спіўся? — пажартавала маці, развешваючы па плоце зімовую вопратку на прасушку.

— Деньги пропали…

— Як гэта? — У галаве маці кальнула здагадка.

— Положила в карман, хорошо помню, специально на билет пятнацать копеек, да вот — не стало…

Мая мама, ні слова не мовіўшы, пайшла ў сад да яблыні — за ўсім гэтым я назірала праз акно і зразумела таксама ўсё, як толькі ўбачыла, што пастаяльцы зарання вяртаюцца.

Маці выбрала, спрабуючы на сваёй руцэ, *добры дубец* і пайшла ў дом… Дачка ўжо стаяла на каленках ля канапы. Без адзінага слова мама «высвенціла» мяне гэтым дубцом і выйшла вон…

Дубец можа стаць найлепшай навукай іншым разам. Хоць мяне ён не адвучыў ад крадзяжу — з кожнага чужога стала ручку-самапіску знясу… Такая вось клептаманія…

Я з павагай да мамы ўспамінаю той выпадак. Ні фізічнага болю, ні псіхалагічнага здзеку не засталося ва ўспамінах пра «капілачны» выпадак — толькі павага да мамы… Мяне яна біла адзін раз у жыцці.



## ПРОЧКІ І ПРЫМЫ

…А бацька вярнуўся… як вернецца і яшчэ раз, сышоўшы з дому якраз пасля майго вяселля, зноў жа да адукаванай жанчыны. Зусім адаб’ецца ад сям’і, нават мой першынец-сынок народзіцца «без дзеда»…

У прочкі ён сыходзіў не з пустымі рукамі, паехаў на новым аўтамабілі «Масквіч», якраз атрыманым па чарзе (быў разлік!) перад адыходам у прымакі, грошы на машыну, высвятляецца, бацька цішком складаў ад сям’і доўгія гады, спраўляючы гвалт і лаянку пры пакупцы самага неабходнага дзецям, без чаго і на вуліцу нельга было выйсці…

І будзем мы ехаць з мужам і малым сынам у Глыбокае да мамы, а бацька ў дарозе падсядзе ў той жа аўтобус са сваёй новай жонкай і не павітаецца з намі. А яго культурная жанчына паскардзіцца на маму ў міліцыю за абразлівыя лісты, хоць потым, калі бацька вернецца дамоў, тым жа будзе грашыць сама — слаць пісьмы з абвінавачваннем бацькі ў «непорядочности», быццам наогул у такіх варунках хтосьці здольны звацца «порядочным».

А тады, у маленстве, ён вярнуўся са свайго «няспраўджанага раю ў вандроўцы», каб стварыць сапраўднае пекла ў роднай сям’і, — бацька пасля вяртання пачаў піць яшчэ горш, піў кожны дзень і быў нястрымаым на брудную лаянку, распушчэнства, жорсткасць… Ён стаў злосным, страшным… Пачаліся самыя чорныя дні майго дзяцінства…

Я перастала разумець, як могуць дзеці любіць *свайго бацьку*. Мне добра было вядома, як баяцца, як ненавідзець, як… марыць пра яго смерць…

Гэтыя жудасныя словы даўно перасталі выклікаць у душы эмоцыі. Памёр бацька — і ўсё дрэннае забылася, засталася ў сэрцы цеплыня і найлепшыя ўспаміны…





## «СТИРАНИЕ ГРАНИ МЕЖДУ ГОРОДОМ И ДЕРЕВНЕЙ»

Сястра мая Люда пасля медыцынскага вучылішча працавала нейкі час у Жукоўшчынскай вясковай бальніцы, што на Шаркоўшчыне. Разам з аднагодкай Эляй, дзяўчынка з той сям’і, дзе кватаравала мая сястра, я паехала гасцяваць да іх, у вёску. Была зіма, мароз, завіруха. Была ноч… Мы ехалі апошнім рэйсам…

Не даехалі мы да канечнага пункту вёскі дзве-тры, аўтобус спыніўся, вадзіцель загадаў выходзіць: небяспечна ехаць далей — дарогу замяло…

Было нам гадоў дзесьці па адзінаццаць. Большая частка пасажыраў аказалася з бліжэйшых вёсак, а мы з Эляй — з апошняга пункту. У чыстым полі: цемра — выкалі вока, па пояс у гурбах, мы «асвойвалі цаліну», сваімі целамі, распіхваючы на бакі сыпучы снегавы занос, «стирали грань между городом и деревней». На шчасце праз нейкі час па ўмоўнай шашы задырдыкаў «Беларус». Добры дзядзька падабраў нас, пешаходаў, у адкрыты ўсім вятрам і сцюжы кузаў трактара і даставіў жывых да дому.



## «А КАБ ТЫ КАЛОМ»

Бацька ў абуўцы, у шапцы, целагрэйцы, той самы ватнік, драмаў на канапе, чакаючы, пакуль скончу «швіва», — ён быў гарачы, яго трасло ад высокай тэмпературы, а сам вызваўся адвесці мяне дамоў.

Я ўжо падсвільчанка, маю дваіх дзетак, ды ўспела разысціся з іх бацькам…

Вось такім во выдаўся тысяча дзевяцьсот восемдзесят чацвёрты год: аформіла развод з мужам, паступіла ў Мінскі інстытут культуры, атрымала назначэнне на пасаду дырэктара музычнай школы… Заўтра еду ў камандзіроўку ў Віцебск, ды не маю чаго апрануць…

Перабрала ў памяці дзявоцкія адзёжы — сёе-тое намеціла і, пакуль дзеці былі ў садку, махнула да бацькоў у Глыбокае, у мамы стаяла машынка SINGER…

З жоўценькага школьнага плашчыка гадзіны за чатыры я змайстравала супермодную куртку! Потым рашыла, што да такой вопраткі і сумка патрэбна адмысловая. Яшчэ «сашчаміла» піск апошняга сезона — сумку-батон. Засталося дадаць некалькі аўтарскіх мастацкіх штрыхоў…

Бацька тым часам падняўся перакусіць. Ён на хаду, чырвоны ад тэмпературы, адкусваў з цэлага батона, запіваючы з бутэлькі магазінным малаком. Мяне ахапіла хваля шкадавання да яго…

— А ці пішыць жа што Лёнічак? — запытаўся ён пра мужа, які жыў тады аж у Тальяці.

— Ну чаму ж не? Во сёння грошы прыслаў, дзяцей просіць прывезці да яго ў госці… На самалёце паляцяць…

— Праўда?! Няўжо грошыкі прыслаў — не забываецца на дзетак? — узрадаваўся, як малы рабёнак, бацька.

Я здзівілася такой наіўнасці: ну як жа можна не дапамагаць сваім дзецям? І яшчэ таму, што бацька не палічыў гэта за абавязак, а прыняў за ласку.

Бацька ізноў паляжаў у забыцці, потым устаў, ён быў нецярплівы — гняло паабяцанае, ды і надта дрэнна сябе пачуваў, падышоў са спіны да мяне, паўглядаўся ў работу…

— А што ж ты тут ўсё крапаеш?

— Во — пашыла сабе абноўку: у камандзіроўку выправілі заўтрашнім днём.

Ён разгледзеў, пахітаў галавой…

— Пі…дзючок ты мой, пі…дзючок — залатыя ў цябе ручкі!!! Дзірыктрыска мая! — дачакалася дачка пахвалы… аддзяляю «злаки от плевел»…

Бацька зноў прылёг, звесіўшы абутыя ногі з краю канапы, падрамаў, падрамаў, ды раптам падхапіўся, зірнуўшы на наручны гадзіннік!

— А каб ты калом! Ужо ж ехаць пара! — я шкадавала — не будзіла яго, пакуль цярпеў час.

Бацькавага жыцця было апафеозам — маё дырэктарства. Дзе толькі можна, а дзе і няможна — хваліўся дачкой-«дзірыктрыскай».

Ён не раз дастаўляў нас, выкладчыкаў школы, на канцэрты — «выступаць». Прыязджаў з Глыбокага ў Падсвілле, каб, загрузіўшы баянамі багажнік, пасадзіўшы артыстаў у свой блакітны масквічок, забяспечыць у чарговы раз калгасныя клубы, ці якіясь прадпрыемствы «культурно-просветительным мероприятием по приказу свыше»…

Бацька па дарозе абавязкова адзавецца да настаўнікаў:

— О, работа — не пыльная! Ні х… не нада рабіць — толькі пяі, і грошы палучай!

Наконт «ні х… не нада рабіць» я нават і не бралася тлумачыць, гэта занадта складаная размова… Так лічыў не адзін бацька… Савецкі менталітэт прывучыў народ ставіцца да інтэлігенцыі як да тунеядцаў і нахлебнікаў… Я пра «песні» спрабавала давесці яму, пыталася, ці задумваўся калі, што пяём мы іх у свой выхадны дзень, ды па святах, калі ўсе людзі адпачываюць, а «песні» вывучыць спачатку трэба, ды на тры-чатыры галасы — не прыпеўкі ж… таксама ў свой асабісты, вольны ад урокаў час.



А вазіць нас па раёне кожную нядзелю чаму ты павінен? І як мы без твайго альтруізму ў другія разы дабіраемся самі з чамаданамі?.. А дзеткі нашы — чаму сваіх мамак не могуць, хаця б па законных выхадных днях убачыць дома? І, дарэчы, за «песні» нам ані капейчыны не плацяць…

Але пытанні гэтыя не майму бацьку трэба было задаваць… Ды і не дужа ён слухаў мае развагі — ён радаваўся жыццю і глядзеў на дарогу…

Дарогі былі вясковыя, разбітыя трактарамі і камбайнамі на глыбокія каляіны: «Большому кораблю — большое плаванье!»

— А каб ты калом! — лаяўся бацька раз за разам, наскочыўшы «на мель»…



## НЕ БУДЗЬ ІНШАЙ

Голас маўчаў, не прыпомню, калі ён сціх, але… «Ты не такая, як усе», — мне зараз сталі гаварыць жывыя людзі. Асабліва ў музычным вучылішчы я часта чула такія ці падобныя словы пра сябе. Хтосьці прамаўляў іх без любові, з папрокам, часцей з захапленнем, і дадавалі: ніколі не мяняйся, не будзь, як іншыя. Так хацелася зразумець: у чым мая асаблівасць?.. Пасталела, прыслухалася да сябе і нічога іншага не знайшла, як тое, што жыву па ўнутранаму навігатару. Няма горшага крытыка, чым ён, няма ніякіх дарог, не ўзгодненых з гэтым органам (я назвала яго: орган сувязі) учынкі, не апраўданыя перад ім, атручваюць сумленне на сорам. Гэта страж і ахоўнік, гэта праваднік і мытнік, арыенцір і тормаз, мэта і ланцуг… Пакуль магла дамаўляцца з *ім*, маё жыццё берагло мяне…

Асабліва складана ў нашых умовах знайсці згоду з гэтым органам, упекліўшыся ў якую-небудзь пасаду. Год ад году дырэктарам школы мне прыходзілася прыкідвацца глухаватай, слепаватай і вельмі заклапочанай абавязкамі. *Орган сувязі* пачаў хварэць з рэцыдывамі і рэмісіямі, пакуль магутная бяроза ў маім сне не прадзіравіла сваім ростам дах будынка школы. Я з жахам укленчыла: што ж рабіць — ці школу разбураць, ці магутнае дрэва выкарчоўваць?! Адказу не паследавала… Божа, дай мне магчымасць пакінуць пасаду. Мяне пачулі… І я ў чарговы раз закапала талент у зямлю…

Не вер нікому! Ёсць адзін толькі голас — сумленне, калі *яно* ёсць, а чалавек слабы: будзе спакуса для цёмных сіл авалодаць тваім дарам, і ўсе беды ад гэтага. Словы «Бог пакарае» — са Старога Запавету. Не карае Бог. Ён толькі ратуе і любіць і дае нам абсалютную свабоду…



## НА ПРАСТОРАХ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ БУДОЎЛІ

Пасля сёмага класа разам з васьмікласнікамі папрасілася ў будаўнічы атрад, які ўпершыню арганізавала камсамольская ячэйка школы. Я яшчэ не была камсамолкай, што мяне дужа засмучала, толькі па прычыне «недарослацсі» — хацелася хутчэй «у дзеўкі»…

Працоўны месяц пачаўся «на ўра!». Мы, былі толькі дзяўчынкі, пару дзён фарбавалі агароджу будпрадпрыемства… На тым і скончылася. Нас кінулі на будоўлю маладзёжнага інтэрната, і там мы «адбалдзелі» разам з брыгадай рабочых увесь месяц. Нам карцела працаваць, хацелася атрымаць першы заробак, а прыходзілася з ранку да вечара дзень у дзень гуляць у карты, седзячы вакол збітага на скорую руку з негабляваных дошак стала на лавах-скрынях, у якіх пыліўся сёй-той просценькі, ды вельмі неабходны інструмент, не зайздросны для крадзяжу, не прыгодны для работы, а для справаздачнасці — самае тое… Не было матэрыялаў, не хапала машын іх даставіць на аб'ект, запіваў майстар, потым прараб… А рабочыя дык пілі кожны дзень, і мы пры гэтым прысутнічалі. Назіралі, як дарослыя мужчыны і жанчыны культурна бавяць час, назаўтра назіралі, як іх жонкі і мужы ставяцца да гэткіх «культурных мерапрыемстваў». На нашых вачах праходзілі сваркі, разборкі і бойкі «самак і самцоў» за «самцоў і самак»…

— Не хвалюйцеся, дзеўкі, — супакойвалі будаўнікі. — Напрацуецеся яшчэ… і грошы вам дадуць!

За тры дні да канца месяца закрываецца нарад: нам тэрмінова дастаўляюць некалькі машын будматэрыялаў і патрабуюць узяцца за работу. Ніхто не прысеў на хвіліну — тры дні над намі стаяла начальства ўсіх рангаў. Нарады закрылі: мая задаволеная мама схадзіла ў кантору, атрымала заробак за дачку, роўны яе зарплаце. Грошы прыйшліся дарэчы — хутка збірацца ў школу…

З таго часу я не гуляю ў карты… Мяне блажыць ад іх…





## О-ЛЯ-ЛЯ!!!

Там, на прасторах савецкай будоўлі, здарылася мая першая рамантычная сустрэча. Я не любіла дарыць сваіх фотаздымкаў: іх і было ў мяне не шмат, бо фатаграфавацца таксама не любіла, а вось мой альбом збярог адзін цікавы здымак.

Нашы школьныя хлопчыкі, як убачылі мяне з гэтым (не назаву яго ні хлопцам, ні кавалерам…) Містэрам Ікс, — абазвалі яго «дваццацідвухгадовы». І гучала гэта лічба як абраза, роўна — стары. Мне самой людзі пасля дваццаці здаваліся перастаркамі…

Містэр Ікс схапіў мяне за руку, калі я з увесістым пэндзлем ішла на свой першы працоўны аб'ект. Перада мной стаяў нетутэйшы дзяцюк, вельмі высціговага, сучаснага выгляду: відавочна — з горада. Ён загаварыў са мной як з дарослай, а я саромелася свайго яшчэ не «камсамольскага веку» — маўчала… Містэр Ікс сказаў, што прыехаў у камандзіроўку штосьці наладжваць. Гаворкі раніцай мімаходзь на працягу тыдня, за тыя пятнаццаць-дваццаць хвілін разнарадкі рабочых, для дзіцячай фантазіі было дастаткова… Мне зайздросцілі ўсе «старэйшыя супрацоўніцы» атрада. Містэр Ікс знаходзіў мяне, на які б аб'ект нас ні закінулі. Ён з'яўляўся знянацку, усміхаўся мне насустрач і, не цураючыся не дужа мной любімага маладзёжнага слэнгу і розных моўных прыбамбасаў, выводзіў: «О-о-ля-ля-а!» Што прапанавалася прыняць за «якая ты прыгожая!». Я, вядома ж, і прымала…

Аднойчы ён запрасіў мяне ў кінатэатр. Гэта было так нязвычна!

Я не мела нават адпаведных убораў, каб пайсці з кавалерам на вячэрні сеанс. Мая сястра Рая ўжо вывучылася на мастачку і працавала ў гарадскім Доме быту, да таго ж у той год лічылася манекеншчыцай раёна на абласных паказах… Яна мела магчымасць па сабекошту набываць строі, у якіх дэфіліравала па подыуме. Мала таго, Рая па-мастацку кроіла і шыла сабе супермодныя сукенкі… Вось сярод іх я і папаслася, не пытаючы дазволу.

Што адбывалася ў маёй душы!.. Страх, што бацькі дазнаюцца, што ўбачаць суседзі ці знаёмыя, яшчэ горш — аднакласнікі, што Рая заўважыць нелегальны «пракат» сукенак… Я не ведала, як трэба сябе паводзіць з кавалерам. Само ўжо гэта «смятение» дзіцячым сэрцам успрымалася як пачуццё… Мы гулялі па беразе возера, хадзілі за горад… Так і здарылася: і пазналі, і ўбачылі, і заўважылі, і паследавала выхаваўчая працэдура. Аднойчы, як мы вярталіся з апошняга сеансу, мая сястра сустрэла нас на паўдарозе і, не шукаючы слоў і выразаў, правяла выхаваўчую бяседу…

Дасталося перш за ўсё кавалеру. Яму адкрылі вочы на мой сапраўдны «не камсамольскі» ўзрост, патлумачылі як гэта называецца і хто ён ёсць!!!

Я была звышпаслухмяным дзіцём — ні словам не пярэчыла. Назаўтра Містэр Ікс адшукаў мяне і вельмі сумна, без веры ў свае словы, жартам прапанаваў: «Давай я ўкраду цябе, а твае бацькі потым зміряцца…» Ён вельмі прасіў маю фатаграфію — я не магла даць: не мела… А яго здымак у мяне быў. Гляджу зараз і нічога не разумею. Перада мной мужчына… якіх там дваццаці двух!!! — вельмі сталага ўзросту, бачна — біты жыццём, складанага лёсу… Але ён не заслугоўваў (на той час у адносінах да мяне) *такога* «выхаваўчага ўздзеяння» — не было за што. Гэты чалавек ува мне не зламаў веры ў сапраўднае пачуццё.

Мы гулялі за горадам, і ён аднойчы сказаў: «Ніколі не давярай мужчынам, як ты зараз даверылася мне. Ніхто больш не будзе з табой такімі далікатным і ашчадным…» Гэты чалавек не скарыстаў дзіцячай наіўнасці, не разбурыў чакання цуду. Я ўдзячная яму за гэта… У той рамантычнай падзеі быць не магло працягу, хаця *працяг* мы маем заўсёды і ва ўсім… Так выдалася ў маім жыцці — ні адзін мужчына не помніцца мне асабліва значнай «фігурай сюжэту», на жаль, уражанні постфактум: *сорам за сваю слепату*… больш ніякіх эмоцый. А вось Містэру Ікс вельмі ўдзячная. Усё ж ён памыліўся! Быў чалавек, здольны любіць не «змінаючы кветак», на жаль, яго ўжо няма ў нашым свеце, але чым далей жыццё, тым большага кошту бачыцца тое каханне…



## ЯШЧЭ РАЗ *AHNENERBE*

З галасамі разабралася, а вось «жывы партрэт» хваляваў доўга. Гадоў пяць таму бачыла мастацкі фільм — назвы не памятаю: Гафт іграў ролю дарослага: хлопчыку ў маленстве ў фашысцкай Нямеччыне «падсялілі» чужую волю (душу?). Такія эксперыменты праводзіліся падраздзяленнем «Аненербе». (Я ўбачыла змалку знаёмую мне з'яву: на хлопчыка, які згадзіўся на эксперымент толькі для выратавання сваіх даўно забітых бацькоў, наплываў ніадкуль жывы партрэт.) Усё жыццё чалавек змагаўся з уплывам чужой волі… Фільм пастаўлены па матэрыялах і дакументах сакрэтнага падраздзялення «Аненербе». І нічога ў тым няма фантастычнага, нам і ў галаву не прыходзіць, колькім і якім чужым «волям» падпарадкуемся.

Адгэтуль мая падсвядомая барацьба са староннняй воляй, з ярлыкамі, з эйфарыяй — то ёсць падман. Я хачу заўсёды быць *цвярозай* розумам, каб чуць сваё сумленне. Толькі пачала маляваць — атрымай з паветра ў сонную галаву абсалютна рэальныя намаляваныя сюжэты. Хто іх і калі маляваў? Магчыма, сама ў «папярэднім» жыцці, значыць, я ўжо была мастаком і на гэты раз не дзеля таго з'явілася на свет. А як не мае, то чые? Нецікава звацца мастаком, калі *хтосьці* цябе бачыць прыладай, сродкам пад выяўленне сваёй волі. Далоў ярлык! Пачала пісаць прозу — толькі сядай і клацай па клавіятуры, нават не пазнаю, што напісанае — маё: далоў ярлык! Не хачу быць «пісьменнікам» чужой волі… Так паступова скінула ўсе таленты… Хачу *сама* быць *сабой*! А што ты ёсць — сама па сабе?.. Вось і разбіраюся… А напраўду — усё інакш! Гультаяватая баязлiўка я: гэта ж назавіся пісьменнікам ды мастаком — працаваць трэба…



## БАБІНА ЛЕТА

Ніколі ў нашым доме не было так ціха, мірна, утульна, спакойна… (праўда, толькі да таго моманту, як чужыя людзі адышліся ад жалобнага стала…)

Бацька памёр вечарам у пятніцу. Перад гэтым тыдні тры сядзеў у сваім заканурку на канапе, успёршыся рукамі на стол і паклаўшы на іх голаў, а на галаве — «няздымная» шапка. Ён перастаў есці, не піў нічога, вядома ж, акрамя віна, за якім васьмідзесяцідвухгадовая маці бегала ў «зялёны магазін», што на вуліцы Леніна, з яго ж пенсіі выдзяляючы «па ліміту» ў дзень на бутэльку падсвільскага «Водару мяты»; не размаўляў, амаль не ўставаў з канапы, але і не клаўся, бо не мог — яму цяжка дыхалася, штосьці зацяло ў грудзіне, і бацькавы лёгкія «хаўкалі і сіпелі», нібы прарваныя мяхі «фомкавых гармонікаў».

У бальніцу ехаць ён адмовіўся наадрэз, а сілком — не выпадала, бо бацька не хадзіў у лазню з год — маці і сястра медычка саромеліся перад калегамі… І дарэмна, як потым высветлілася…

Мыць нябожчыка прыйшлося швагру, з маёй старэйшай сястрой, абое медыкі, дзіву даваліся — якім чыстым аказаўся, толькі рукі, чорныя ад вечнага кантакту з жалеззем, так і не здолелі адмыць.

Час ад часу, між праваламі ў свядомасці, бацька апрытомневаў і заводзіў сваю адвечную праз усё жыццё гаворку — а які ж я шчасліўенькі, за што ж мяне так Бог любіць?!

Перад бацькавымі вачамі — заседжанае мухамі шкло маленькага акенца, напалову прыкрытага карэлай дзіравай шторкай. На стале перад ім — куча апалкаў, уроссып — тытуню, гарэлых сярнічак — бацька не

вымаў з роту цыгарэт да апошняга. На целе — зашмальцаваны да бліскучага пінжак…

Так прывыклі жыць мае бацькі і не жадалі нічога мяняць… І ўсё ж…

— Ну чаму я такі шчасліўвенькі?! За што ж Бог так любіць мяне?! — гэта было антыподам мамінаму лейтматыву: «Чаму ж я такая няшчасная?! За што ж Бог пакараў мяне?! Я ж — святая!!!»

Ніколі мы з бацькам так доўга не знаходзіліся побач адзін перад адным, як у тыя дні, калі труна стаяла ў доме.

Сёстры з мамай узяліся «чысціць хату» (не дарэмна — людзей панайшло!), к ночы яны ўжо ледзь трымаліся ад стомы, то мне выпала сядзець пры труне два дні і дзве ночы…

У дарослым веку смерць *пажылога* чалавека я стала разумець не інакш, як лагічнае завяршэнне зямнога жыцця. Навучылася адводзіць у такім выпадку ад сэрца містычны страх. Тым больш, я даўно займела звычку бацькоў сваіх успрымаць не фізічнымі асобамі, а духоўнымі істотамі, з якімі, з-за немагчымасці паразмаўляць рэальна, вяла ўсё жыццё *дыялог* у думках…

І наогул, некалі ў «кволым узросце», уцякаючы ад абставін жыцця, я выпала з рэальнасці, пачала існаваць больш метафізічна — у былым, ці будучыне, у нябесным, ці падземным, у снах і прадчуваннях, па гэтай прычыне і не сябравалі са мной храналагічна дакладныя тэрміны і адрэзкі «ўмоўна рэальнага» часу: гадзіны, даты, расклады, поры года… Я магла апрануцца зусім не адпаведна сезону і пры тым не разумець, што так няўтульна, кепска і плакаць хочацца толькі ад таго, што мне холадна, ці таму, што галодная, ці — трапіла я «не ў сваю» талерку…

Фізічная смерць бацькі не перашкодзіла мне бачыць і адчуваць яго па-ранейшаму, якім успрымала яго ўсё жыццё, — абсалютна жывым. Наадварот, я ведала, што цяпер ён не нап'ецца і не страціць свайго чалавечага, а значыць — боскага падабенства.

Бацька мой быў прыгожым — смерць пацвердзіла гэту адметнасць: высокі з залысінамі лоб, густыя серабрыстай сівізны валасы — хваляй, прамы нос, выразныя вусны: у труне ляжаў прыстойнага выгляду сталы чалавек, які пражыў жыццё, як малое дзіця; не ведаўшы цікаўнасці да матэрыяльнага здабытку, не знаўшы цягі да «вялікіх і чужых» грошай, яго сэрца было вольным ад нянавісці, помслівасці, зламыснасці, прагі ўлады, зайздрасці…

Святкавалася Узвіжанне… Дні выдаліся святочныя, сонечныя — «бабіна лета». Як марыў бацька — сабраліся ўсе яго «дзеткі і ўнучакі», «усе такія ж прыгожанькія, адукаваныя!» А людзей найшло — нечакана: «повен двор і поўна хата». Быццам у госці прыйшлі «на сяло»…



— Во дзіва, — шэпчуць між сабой, — у другім доме стары памрэ — хвілінку ўседзець не вытрываеш — смурод, а тут — нацеплена, душна, як у бані… а — ні каліва не чутно… і мы во — прыгрэліся, сядзім і сядзім.

Гэта так — у доме ў пятніцу нанач (благога ж ніхто не чакаў) натапілі печ ледзь не дакрасна, а складзеная бацькавымі рукамі грубка, хоць і пачала рассыпацца знутры і чадзіць — тэмпературу трымала двое сутак, цёпла было аж да нядзелі. Так і прыйшлося мыць пакойніка ў духаце, як у лазні, ды гарачай вадой, каб адмыць за год… І труну мусілі паставіць у самым цёплым пакоі, інакш не спарадкаваліся, месца зусім мала: як на тую бяду, паўстаўлялі падвойныя рамы на зіму, так што нават выветрыць цеплату не было магчымасці.

Яшчэ нябожчык не пакінуў дом, а маці ўжо «падкручвала» на разборкі: я праз акно ўбачыла, як яна камусьці «з набрынялым загадзя азартам», разануўшы паветра рукой, вымкнулася:

— А я хату… пр-радам!

Так, дарэчы, і зрабіла, знайшоўшы неўзабаве купца за год наўперад. Як тым часам недалёкія ад цэнтра будынкі пацягнулі ўгору па цане за пятнаццаць і вышэй тысяч зялёных… яна, саромеючыся выракацца дамовы па кошту, аддала свой родны дом «свяшчэнніку апазістаў» (так смешна называла мама свайго ўлюбёнага пакупніка) за тры з паловай — бацькі заўсёды разумелі і шкадавалі чужых людзей куды больш, чым сваіх…

Напрыканцы жалобнага стала маці «забрало»! Яна стала прыпамінаць крыўды на дачок. Адно за другое… і гэта — не так, і тое — не гэтак, і ўсчаўся прывычны гвалт і вэрхал: раўлі — хто на што здатны, прыпамінаючы кожны сваё.

На ганку праз чорную непраглядную жалобную восеньскую ноч чуўся жудасны лязгат і грукат (бой «шклатары») — «пад шумок» хтосьці дзёўб качаргой па мяху з пустымі бутэлькамі ад гарэлкі — біты посуд пералічыць «праблематычна»… Тут яшчэ прадстаяла вырашэнне пытанняў па ўсім «статьям финансирования».



## ЭПІЛОГ

Малой мне думалася — няхай зараз усё так страшна і беспрасветна, затое пасля смерці чалавек зразумее *ўсё*, *усё*, *усё*… і пра сябе, і пра сусвет, і пра Бога… Не! Не зразумее ніколі, не пажадаўшы таго пры жыцці.

Наіўна думаць, што ачмурэлая ад грахоў і непрытомнасці душа прачнецца на *тым* свеце чыстай і яснай. На тое спатрэбяцца вякі і вякі чыйгосьці подзвігу…

Я не маю права судзіць сваіх бацькоў — я гэтага не раблю. Мае жорсткія словы — ад любові, ад жадання ўсвядоміць *сваё* жыццё… Бо я — гэта яны, яны — ад маіх дзядоў, дзяды — дзеткі сваіх бацькоў… продкаў, маіх дзетак…

Некалі, гуляючы летам ў лялькі на сене, мы з суседскімі дзяўчынкамі завялі дарослую «філасофскую» размову — а раптам вайна пачнецца?!!

— Толькі б не пры нашым жыцці… — разважала адна.

— А як ў нас дзеці народзяцца? Шкада іх таксама… — дабаўляла другая.

— Дык і ў нашых дзяцей — дзеці будуць — нашы ўнукі… І іх шкада… — спрабавала пярэчыць нейкая з дзяўчатак, на гэту роднасць, да трэцяга калена, нямала ў каго хапала пачуццяў, а далей… — Ай, гэта ўжо не так страшна…

Вось там я заўважыла, што словы — *ты не такая, як усе*, — маюць нейкую падставу… Я не змагла спыніць свой жах і жаль ні на якім калене… Мне аднолькава балюча было ўяўляць пакуты і праўнукаў і іх жа прапраўнукаў… і наогул — чужых, незнаёмых людзей… аднак гэта ні мала не перашкаджае мне насіць у сабе тыя ж самыя пачварныя заганы і распусты…

…Бацькі навучылі мяне адчуваць чужы боль як свой, ад іх у мяне справядлівасць, спагада, таленты, «залатыя рукі»… але я не выраклася і прыдбаных імі ад сваіх бацькоў хібаў і звад.

Пры жыцці таты і мамы мы ніколі не глядзелі адно аднаму ў вочы… Мы ні разу душэўна не паразмаўлялі між сабой — усе жыццёвыя калізіі дзяцей адбываліся па-за цікаўнасцю самых блізкіх людзей, нам не было з кім параіцца, паразважаць, пажаліцца, пашаптацца, пасакрэтнічаць… проста пасядзець галава да галавы… Але…

Дзверы бацькоўскага дома заўсёды былі адчынены для кожнага чалавека: ці то бацькава цётка, якой выракліся выгадаваныя ёю пасынкі і падчаркі (дажывала свой век у нас), ці адседзеўшы чвэрць веку ў Беразвецкай турме асобага рэжыму «зэк», якому не было дзе прытуліцца пераначаваць перад дальняй дарогай дадому, ці шматлікая блізкая і дальняя радня, сваякі і «зусім не»… Вучыліся ў Глыбоцкай «хабзайні» — СПТВ, — жывучы і сталуючыся ў нашым доме, цыганы, жабракі, убогія — усіх з парога клікалі за стол і выносілі найлепшае з запасаў…

А мой дом — зусім не гасцінны, рэдка які чалавек з ахвотай пераступаў яго парог, бо мне заўсёды перашкаджалі людзі… маім перажываннем, развагам, засяроджанасці, задумлівасці… над чым, аб чым?!.

Выпала мне ў жыцці, пасля «вялікіх перамен» даглядаць цяжка хворую чужую бабулю, жылялася, усцягваючы яе з ложка і амаль кожны дзень з жалем і горыччу дакарала сябе — ну чаму ж у свой час я не слугавала вось так роднай мамачцы, аб якой зараз ужо позна клапаціцца, якую ледзь вывцерплівала, наведваючы: такімі бязглуздымі здаваліся яе размовы і скаргі, а даволі было толькі прытуліцца да яе, ужо ад старасці гадоў ачарсцвелай і азлобленай, — і яна б адпусцілася душой, як было гэта раней…

А за тое і з дзецьмі сваімі зараз не заўсёды магу паразумецца…

Прыйшла мая чарга думаць пра свае памылкі…

Думалася мне, што наперадзе столькі сонца і радасці, — адно гняце долу былое — «няшчаснае дзяцінства…» Пачувала сябе годнай тварыць малітву за маму… А праз тры гады, пасля бацькі, памерла мамачка, і разбурылася маё прывычнае ўладкаванае жыццё… Трымалася яно, высвятляецца, адной толькі яе кволай малітвай… Вось якія «вялікія перамены» мной меліся на ўвазе…

Хто, дзе і як спыніць тое кола, каб выправіць звяно ланцуга? Немагчыма жыць без пакаяння, а як каяцца без споведзі, а ці можна спавядацца без усведамлення свайго жыцця?..

Як тыповы славянін, я прывыкла спадзявацца на шчаслівы выпадак, абставіны, лёс, удачу, на начальства, уладу, на Бога. Стары Завет шматкроць даводзіў: «Бог — гэта вы». Новы ўдакладніў: «*Гэта ты*».. (Шукай сувязь.)



## ЗМЕСТ

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Андзілеўка** Людміла Фёдараўна

**ГЭТА ТЫ**

*Апавяданні*

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Алена Спрытніч*
Камп'ютарная вёрстка *Ларысы Ваўчок*
Карэктар *Алена Спрытніч*

Падпісана да друку 28.02.2013. Фармат 60х84 1/16.
Папера афсетная. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 8,9. Ул.-выд. арк. 10,0.
Наклад 200 ас. Зак. .

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.